

Андрэй Павач

# ЛЕГЕНДЫ неСТАРОЙ ГАРОДНІ

Гродна
«ЮрСаПрынт»
2018

Існуе легенда, быццам гарадзенскія гісторыкі пасля смерці ператвараюцца ў яшчарак на Старым замку…

Дакладней, гэтай легенды не было яшчэ хвіліну назад, але зараз яна ўжо існуе. Дарма што пра яе пакуль ведаем толькі мы з вамі. Ну і, магчыма, яшчаркі, але ж яны, мабыць, ад усяго будуць адмаўляцца! Як і некаторыя з гісторыкаў. Прынамсі, я знаёмы з адным прафесарам, які ўпэўнены, што памяць пра яго перажыве стагоддзі. А тут – яшчарка! Або – заяц. Апошні раз бачыў на Замкавай гары зайца, які там占 заначаваў. А ёсць яшчэ кажаны, чмялі, коткі.

Дарэчы, цікава, што сярод парэшткаў костак розных жывёл, што адкапалі археолагі, былі нават шкілеты зуброў, сабак, дзікіх кабаноў, аднак – аніводнай коткі. Магчыма, што *сапраўдныя* гарадзенскія каты несмяротныя? Неяк давялося пачуць ад аднаго старога, што да першых Саветаў мясцовыя каты былі зусім іншыя – ладныя ды спрытныя, а пасля разам з бальшавікамі прыйшлі нейкія кудлатыя, дзікія, ды яшчэ і мышэй не ловяць…

А наогул гісторыкі і жывуць як яшчаркі, увесь час азіраючыся па старанах. Нешта шукаюць, кудысьці бягуць, спяшаюцца. Таму і легенд пра іх, напэўна, так няшмат. Адна з маіх любімых – пра археолага Міхася Ткачова, які падчас сяброўскага застолля падняў тост у гонар гарадзенскага кашталяна Давыда, пахаванага, маўляў, каля старажытнай Каложы. Магчыма, яму стала крыўдна, што ў Гародні ўсе забыліся на славутага ваяра. Аднак словы паважанага прафесара ўспрынялі паважна, ды настолькі, што колькасць магіл адразу павялічылася. І сёння экскурсаводы з захапленнем распавядаюць пра тое, як цела князя ягоная дружына на шчытах прынесла з паходу ды пахавала ля сцен старой царквы побач з ягонымі жонкай ды дзецьмі, забітымі раней крыжакамі.



Ці гісторыя пра гісторыка, якога забыліся ў архіве і якому прыйшлося выбірацца праз балкон з другога паверха. Але тое, праўда, было не ў Гародні. У Гародні ж аднойчы паліцмайстар зрабіў ператрус на кватэры мясцовых архіварыусаў Чаховіча ды Пташынскага, дзе раптам адшукаў скрадзеныя архіўныя дакументы: копіі каралеўскіх прывілеяў часоў Станіслава Аўгуста, матэрыялы Літоўскай калегіі і Галоўнага трыбунала, загады мясцовай Казённай палаты. Навошта архіварыусам спатрэбіліся старажытныя паперы, можна толькі здагадвацца.

Іншым разам гарадзенскі губернатар прызначыў настаўнікаў мясцовай гімназіі Класоўскага ды Кургановіча шукаць па мясцовых установах старажытныя манускрыпты. Больш за тое. Няшчасныя павінны былі штомесяц складаць справаздачу аб знойдзеных “дакументах ды хартыях”. Даследчыкі толькі прасілі вышэйшыя ўлады дачакацца “наступлення цяпла”, каб быць у стане выехаць з горада.

Адных гісторыкаў, як першага дырэктара гарадзенскага музея Юзафа Ядкоўскага, выганялі з горада за тое, што тыя не тое, не тады і не там знайшлі, іншых – звальнялі з працы за тое, што не там ды не тое надрукавалі. Наадварот, Іван Саланевіч, аўтар знакамітай кніжкі пра савецкія лагеры, узгадваў пазней, што ў ягоным жыцці былі два самыя радасныя дні: першы – калі ён кінуў гарадзенскую гімназію, дзе вучыўся, і тым самым вызваліўся ад “гімназічнай руціны”, ды другі – калі некалькі дзесяцігоддзяў пасля, уцякаючы з Савецкага Саюза, нелегальна перайшоў праз мяжу.

А вось яшчэ гісторыя пра таго ж Ядкоўскага, што прывёз у Гародню новага старасту на… гармаце. Падчас экскурсіі на Валынь у адным са старажытных замкаў Ядкоўскі знайшоў у замкавым парку сярод кустоў старыя закінутыя гарматы, якія ляжалі ў беспарадку. Адну з іх ён захацеў мець у сябе ў Гародні, у музеі. Таму ён звярнуўся з просьбай да мясцовага старасты Зыгмунта Рабакевіча, які хутка надаў справе пазітыўны ход. Лёсу было заўгодна, каб неўзабаве пасля гарматы ў Гародню прыбыў і сам Рабакевіч, гэтым разам у якасці гродзенскага старасты. Пры





першай сустрэчы з захавальнікам музея ён пажартаваў: “Зараз усе будуць казаць, што я прыехаў на гармаце”…

А можа, вы чулі пра гарадзенскага выкладчыка гісторыі Леона Бейнера, які пасля Другой сусветнай вайны з’ехаў у Польшчу, дзе праславіўся як аўтар гістарычных кніг пад псеўданімам Павел Ясяніца? Праўда, калі гісторык дазволіў сабе выступіць з крытыкай камуністычных улад, яго абвінавацілі ў сувязі з… польскімі ж спецслужбамі! Хутка пасля гэтага той, пакінуты амаль усімі, памірае. І толькі значна пазней, калі былі адкрыты сакрэтныя архівы, выявілася, што жонка пісьменніка ўвесь гэты час заставалася агентам службы бяспекі і сістэматычна пасылала “куды трэба” рапарты пра свайго мужа. Яна нават напісала справаздачу з ягонага пахавання…

Што да гарадзенскіх гісторыкаў, дык тыя пэўна ператвараюцца ў яшчарак. Нават калі ім прыйшлося пры жыцці адсюль з’ехаць. Як Юзафу Ядкоўскаму. Ён дакладна вярнуўся ў любімы горад у нейкім новым абліччы.

А ці распавядаюць гісторыі самі яшчаркі са Старога замка – вось гэта пытанне. Сапраўды, калі вавельскі цмок можа ззяць агнём, чаму ягоныя далёкія кроўныя не ў стане заняцца нечым больш творчым ды натхняльным? Было б толькі каму слухаць іх гісторыі! Ці нават не так – легенды. Легенды не СТАРОЙ Гародні.

Чаму “не СТАРОЙ”?..

Бо пакуль не скончыўся аповед, мінулае ўвесь час вяртаецца да нас, змяняючы ўчора на сёння.





## Нямая рака

Сённяшняя назва ракі Нёман сугучная са славянскім "нямы", што магчыма патлумачыць як "ціхі, спакойны". У той частцы, дзе Нёман працякаў па тэрыторыі Усходніх Прусаў, ён змяняў сваё імя на Мемель, што зноў жа азначала нямую, ціхую раку. Літоўскую ж назву Нямунас звычайна тлумачаць як "хатні", "абжыты". Польскі храніст Ян Длугаш пісаў пра Нёман: "Ен цячэ гэткім няроўным ды заблытаным шляхам, што падарожнік, плывучы па ім цэлы дзень, прыстаўшы да берага, бярэ агонь з вогнішча, якое паліў мінулым вечарам…". Праўда, некаторыя даследчыкі бачылі ў назве куды больш старажытныя, кельцкія карані і выводзілі яе ад слоў "неўтаймаваная" ды "жахлівая". Ведаючы падманлівы нораў ракі, гэта не здзіўляе.

## Кронан

Існуе і другое імя Нёмана – Кронан, пад якім яго ўзгадвалі яшчэ рымскія географы. Часцей за ўсё паходжанне самой назвы звязваюць са старажытнагрэчаскім тытанам Хронасам, бязлітасным сімвалам часу. Пад гэткай жа назвай Нёман упершыню трапіў на еўрапейскія мапы, паводле якіх ён выцякаў з легендарнага возера Кроне. Нічога дзіўнага, што слова "Кронан" вельмі спадабалася гарадзенскім гісторыкам, а з іх лёгкай рукі – і мясцовым бізнесоўцам, якія пачалі надаваць гучнае імя новапаўсталым рэстарацыям ды гатэлям, не вельмі зважаючы на двухсэнсоўнасць гэткага сімвала.




## Зялёная даліна

Гэткую назву даў аднаму з яроў побач з вусцем рэчкі Ласасянка геолаг Готліб Берант яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Ён знайшоў там глаўканітавы пясок насычанага зялёнага колеру. Пра даліну, аднак, хутка забыліся, пакуль праз паўстагоддзя ў чарговы раз яе не "адшукалі" сябры мясцовага педагагічнага таварыства. Сюды пачалі рабіць турыстычныя экскурсіі, нават выдалі адмысловыя паштоўкі. А пазней… зноў "згубілі". Канчаткова Зялёную даліну знішчылі ўжо пасля вайны, калі мясцовы пясок пайшоў на будаўнічыя патрэбы горада.

## Крыжовая гара ды Крыжацкія могілкі

У Гародні ды яе наваколлі яшчэ не так даўно можна было сустрэць вялікую колькасць тапонімаў, якія па-свойму тлумачылі паходжанне таго ці іншага месца. Сапраўдная іх гісторыя забылася, тады як гэтыя назвы надавалі ім агульназразумелы сэнс. Гэтак каля вескі Ласосна была Крыжовая гара, а каля сённяшніх Лапенак – Крыжацкія могілкі. Побач з Грандзічамі мясціліся Шведскія акопы, а ў самым цэнтры горада – Курган. Сённяшняя вуліца Парыжскай камуны некалі так і называлася – дарога на Курган. Вось толькі чый гэта быў курган і дзе ён дакладна знаходзіўся, мы, мабыць, ужо і не даведаемся.



# Імя храма

Звыклая для нас назва – Барыса-Глебская царква, Каложа ці Барыса-Глебская Каложская царква – з'яўляецца спалучэннем дзвюх зусім розных традыцый. З вялікай верагоднасцю можна сцвярджаць, што царква з самага пачатку была ўзведзена ў гонар старажытнарускіх святых Барыса ды Глеба. Самым незвычайным застаецца яе асабістае імя – Каложа, якое адрознівае храм ад усіх астатніх. Традыцыйна яго звязваюць з прадмесцем Пскова, што мела назву Каложа, адкуль у 1405 годзе князь Вітаўт быццам бы прывёў з паходу палонных ды пасяліў іх побач з гарадзенскай царквой. Калі верыць летапісу, палонных на той момант было ў некалькі разоў больш, чым саміх жыхароў Гродна, – каля 11 тысяч. Менавіта палонныя праваслаўныя калажане, жывучы на чужыне, і далі старому храму новае імя.




## Нямецкі рынак

Сёння гэта заасфальтаваная аўтастаянка па вуліцы Дамініканскай. Гістарычная назва – Нямецкі – можа ўскосна сведчыць пра месца іншаземнай, нямецкай гандлёвай факторыі. Калісьці тое быў ці не самы стары гарадскі пляц, які сваімі пачаткамі сягаў яшчэ ў дамагдэбургскі перыяд гісторыі горада. І нават тады рынак у крыніцах адзначаны як "старадаўні". У валочнай памеры Гародні гаворыцца аб тым, што сам рынак ужо прыйшоў у заняпад і тут "ніякага гандлю не бывае". Пазней ён яшчэ некалькі разоў змяняў сваё імя: Шпітальная плошча, Казіны рынак, Рыбны рынак ці проста – Яткі. Менавіта пад гэтай апошняй назвай яго і захавала ў памяці міжваеннае пакаленне гарадзенцаў.

## Малая Траецкая

Назва гэтай вуліцы, хутчэй за ўсе, была звязана з існаваўшым у раёне былога Нямецкага рынка касцёлам Св. Тройцы айцоў аўгусцінцаў (згодна з іншымі даследчыкамі – царквы), а сама вуліца першапачаткова паўстала як сцежка, якая вяла ад Віленскага тракта да яўрэйскіх могілак. Па іроніі лёсу, з раёну вуліцы з гэткай хрысціянскай назвай выйшла не менш як дзясятак вядомых за межамі Гародні прадстаўнікоў іўдзейскай тэалогіі, аўтараў літаратуры на ідыш, яўрэйскіх палітычных і вайсковых дзеячаў першай трэці XX ст.



## Ад Пярэселкі да Заваршчызны

Першае, з чым атаясамліваецца назва квартала Пярэселка, дык гэта "перасяліць", у сэнсе – "перанесці". Зусім верагодна, што колішняя вёска паўстала пасля таго, як сюды перасялілі жыхароў навакольных паселішчаў, што былі знішчаны падчас будоўлі фартоў гарадзенскай крэпасці. Праўда, раней у крыніцах сустракаецца "роў Перасоўка", пра паходжанне назвы якога можна толькі здагадвацца. Ужо сучасная традыцыя звязвае назву Пярэселка з палоннымі калажанамі, якіх быццам бы прывеў у Гародню князь Вітаўт ды пасяліў тут. А вось суседняя з ёй Заваршчызна бярэ назву ад прозвішча Заверскіх, гаспадароў былога маёнтка, а зусім не ад слова "завіраць", як у тым перакананы мясцовыя жыхары, а яшчэ больш – іх суседзі.

## Пілсуды ды Юзафы

Дзе-нідзе побач з горадам прытаіліся і перажылі савецкі час ідэалагічныя назвы яшчэ міжваеннай пары. Напрыклад, недалёка ад Ласасянкі стаіць па лесе некалькі хутароў, адзін з якіх мае назву Юзафова. Гэта была асада, месца, дзе пасяліліся прыехаўшыя з карэннай Польшчы асаднікі, і названая яна ў гонар маршала Юзафа Пілсудскага. А вось недалёкую асаду Пілсуды савецкія чыноўнікі "раскусілі", і яе даўно няма. Дарэчы, назвы, звязаныя з Пілсудскім, можна сустрэць нават… у Бразіліі. Сярод джунгляў там ёсць вёсачка Ягода, названая ў гонар дачкі маршала. Там дасюль жывуць нашчадкі польскіх перасяленцаў.

 

# Літоўскі ручай ды Татарскія могілкі

Рачулка, якая працякае праз Пярэселку, калісьці насіла імя Літоўскі ручай. Чаму ён быў "літоўскі"? Можа таму, што па той бок пачыналіся землі Літвы, а можа таму, што якраз тут і жылі старажытныя літвіны, – сказаць цяжка. Зараз свой пачатак ручай бярэ ў раёне праспекта Будаўнікоў і амаль палова яго цячэ праз калектар. Там жа, дзе ён упадае ў Нёман, на высокім пагорку мясціліся гэтак званыя Татарскія (інакш – Турэцкія) могілкі, пра якія крыніцы наогул маўчаць! Затое на мапах сярэдзіны XIX стагоддзя могілкі пазначаны як "грэка-расійскія", то бок – уніяцкія. Тым не менш, мясцовая легенда сведчыць, быццам бы падчас будаўніцтва Новага моста экскаватары выкопвалі тут шкілеты людзей "на кукішках", маўляў, пахаваных па мусульманскай традыцыі. Як бы там ні было, сёння ўжо амаль ніхто не ўзгадае колішнюю назву ручая, а замест старых могілак даўным-даўно зроблены выгул для сабак.



# Сабачая горка

Ёсць у Гародні і свая Сабачая горка, па-польску – Пся гурка. Што праўда, месціцца яна на другім канцы горада, побач з сённяшнім чыгуначным вакзалам. Існуе легенда, быццам бы тое было любімым месцам загарадных паездак апошняга манарха Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага, дзе ён паляваў на фазанаў. А паколькі паляваў з сабакамі – таму і Сабачая горка. Адсюль, уласна, і пайшла яшчэ адна яе назва – Мысліўская (Паляўнічая) горка. Нават сёння вельмі лёгка ўявіць сабе выяву каралеўскага прывала ў акружэнні світы дзе-небудзь на вяршыні пагорка, пад соснамі, адкуль адкрываўся прыгожы від на ўвесь горад. Што праўда, менш рамантычная легенда сцвярджае, што тут хавалі парэшткі бадзяжных гарадскіх сабак, забітых сабакаловамі.

На Сабачай горцы ў часы Расійскай Імперыі мясціліся гарадскія агароды ды праходзілі вайсковыя вучэнні, тады як пазней польскія жаўнеры выкарыстоўвалі яе ў якасці лыжнага трампліна. Акрамя таго час ад часу на горцы выконваліся смяротныя прысуды над злачынцамі. Найбольш трагічнымі для Сабачай горкі, аднак, аказаліся падзеі Другой сусветнай. Восенню 1939 года менавіта тут савецкімі жаўнерамі былі расстраляны некалькі дзясяткаў гімназістаў – апошніх абаронцаў горада.




## Складанасці з перакладам

Так ці інакш, Сабачая горка была месцам настолькі выдатным, што нават патрапіла на паштоўку з краявідамі Гародні. Ужо пазней, падчас Першай сусветнай вайны паштоўкі перавыдалі, але замест расійскіх на іх з'явіліся нямецкія надпісы. Гэткім чынам Мысліўская горка раптам ператварылася ў Gedankenberg – "Горку для роздуму": нехта недарэчна пераклаў польскае "мыслівы" – "паляўнічы" як расейскае "мысль" – "думка"…

## За Скідзельскай заставай

З гэтым месцам было звязана імя Міхала Валовіча – патрыёта, які палажыў сваё жыццё на алтар Радзімы. У 1833 годзе за ўдзел у паўстанні ён быў пакараны смерцю, а само пакаранне адбылося якраз за Скідзельскай заставаю...

## Слімак

На тэрыторыі цяперашняга Цэнтральнага рынка, там, дзе сёння месціцца яго ніжняя частка, у міжваенны час знаходзіўся так званы Слімак (Ślimak) – былы з'езд з вуліцы Ерусалімскай на вуліцу Падольную. Кажуць, што яшчэ раней тут былі гліняныя кар'еры. На Слімаку ў зямлянках жылі месцічы, якія не мелі ні іншага жытла, ні – працы. Цікава, што гэтая найбяднейшая частка Гродна праіснавала ажно да савецкага часу.



## Рабочая калонія

Тым з жыхароў Слімака, якім пашчасціла, удалося пазней атрымаць свой уласны кавалачак зямлі на так званай Рабочай калоніі. Справа ў тым, што на пачатак 1930-х гадоў гарадзенскі магістрат пастанавіў выдаткаваць грошы пад будаўніцтва дамоў для бяздомных. Для гэтага быў выдзелены ўчастак паміж Скідзельскім трактам і шашой на Ліду, які і атрымаў назву Рабочай калоніі. Быў нават падрыхтаваны агульны праект двухкватэрных дамоў, танных, якія складаліся з аднаго пакоя, але з кухняй. Аднак справа затрымалася ў сувязі з эканамічным крызісам у краіне. У рэшце рэшт пасля атрымання банкаўскіх крэдытаў вясной 1936 года пачалося будаўніцтва каля сарака дамоў. Апошні тэрмін выплаты па крэдытах прыпадаў на 1971 год!

## Настаўніцкая калонія

Раён сучасных вуліц Асіпенкі – Чкалава калісьці ствараў так званую Настаўніцкую калонію (Kołonija nauczycielska). У сярэдзіне 1920-х гг. польскі ўрад пачаў рэалізоўваць шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на пашырэнне адукацыі, а таксама на паляпшэнне побытавых умоў настаўнікаў. Па спецыяльным комплексным праекце было пабудавана каля дзесяці драўляных дамоў для выкладчыкаў розных гродзенскіх устаноў адукацыі. У кожным з будынкаў мясцілася некалькі кватэр з вялікімі светлымі пакоямі, сонечнымі верандамі і аформленымі разьбой па дрэве ці мураванымі ганкамі. Магчыма, па прычыне сваёй арыгінальнасці яны і атрымалі асаблівую назву сярод гродзенцаў… “жыдоўскія” дамы.




## Чыноўніцкая калонія

Калі польская ўлада трохі замацавалася на нашых землях, перад ёй паўстала пытанне аб забеспячэнні жытлом чыноўнікаў, якія досыць масава ехалі ў паўночна-ўсходнія ваяводствы – на "крэсы". Асабліва актуальным было жыллёвае пытанне ў невялікіх павятовых гарадках, ды яшчэ і пабураных Першай сусветнай вайной. Сама Гародня якраз эвалюцыянавала ўніз ад губернскай сталіцы да павятовага цэнтра. Таму і жытла тут чыноўнікам не хапала. У выніку новы раён на высокім пагорку, на сучаснай вуліцы Свярдлова, атрымаўся ўтульны – больш за дзясятак стыльных двухпавярховых дамкоў нагадвалі сваімі калонамі ды контрфорсамі ці невялікія паляўнічыя рэзідэнцыі апошняга караля Рэчы Паспалітай, ці дамы-крэпасці шляхты. Праўда, жыццёвае шчасце тых, хто пасяліўся ў гэтых дамах, было нядоўгім.

## Кася ды Бася

Воданапорныя вежы – ці не самыя цікавыя ды найлепш захаваныя помнікі прамысловай архітэктуры ў Гародні. Нават месца для іх, адно з найвышэйшых у горадзе, было выбрана не выпадкова. Сюды качалі з Нёмана прапушчаную праз спецыяльныя пясчаныя фільтры ваду, якая далей пад уласным напорам разбягалася па трубах. А вось імёны вежаў – Кася ды Бася – з'явіліся ўжо ў пасляваенны час. Кажуць, што так звалі дзвюх супрацоўніц водаканала: Кася працавала ў бухгалтэрыі, а Бася загадвала гаспадаркай у суседняй вежы. Па іншай версіі, гэта былі дзве гандляркі з рынку насупраць. Традыцыйна лічыцца, што Кася старэйшая, яе пабудавалі яшчэ ў 1890 годзе, тады як Бася значна маладзейшая – часоў Першай сусветнай.

## “Непатрыятычная” назва

Няпростая гэта справа – шукаць адпаведных герояў для назваў вуліц. У верасні 1936 года гарадская рада адхіліла прапанову дырэктара мясцовага музея Ю. Ядкоўскага аб наданні вуліцы на Завяршчызне назвы Багавіцінка ў гонар Богуша Міхала Багавіцінавіча – гродзенскага фундатара і літоўскага падскарбія XVI ст. Фармальнай падставай стала цяжкае вымаўленне новай назвы, аднак фактычна на рашэнне рады паўплывала дыскусія на старонках мясцовай прэсы адносна самой гістарычнай постаці і яго “непатрыятычнай” паставы. Справа ў тым, што дырэктар архіва Я. Студніцкая, што праўда, ананімна, выступіла на старонках мясцовых газет з вострым пратэстам супраць прапановы дырэктара музея, абвінавачваючы яго гістарычнага пратэжэ ў здрадніцкім супрацоўніцтве з Масквою.

## Пераблытаныя героі

Яшчэ горш з героямі было ў савецкі час. У складзенай у 1951 годзе намеснікам дырэктара гісторыка-археалагічнага музея Лосевым адмысловай спраўцы падаваўся пералік адпаведных ды неадпаведных назваў вуліц, якія варта было замяніць. Лосеў раіў пакінуць імёны рэвалюцыянераў ды ўдзельнікаў баёў за горад, але абавязкова замяніць польскія назвы – Хадкевіча, Бянецкага, Снядэцкага, Ясінскага ды Радзімінскую. Цікава, што сярод іншых у спіс забароненых трапіла і савецкая назва вуліцы Квітко – аўтар спраўкі палічыў, што яе надалі перад Вялікай Айчыннай “у гонар яўрэйскага паэта Льва Квітко”, тады як “у апошні час творы Квітко забаронены да распаўсюду”. Насамрэч вуліца насіла назву ў гонар савецкага танкіста, які загінуў у 1939 годзе.




## Згублены герой

Сярод сённяшніх назваў гарадзенскіх вуліц ёсць адна, якая носіць назву ў гонар… невядомай асобы. Прынамсі, ніхто з краязнаўцаў не можа патлумачыць, хто такі Пучкоў. Хутчэй за ўсе, гаворка ідзе пра аднаго з савецкіх жаўнераў, што загінулі ў 1939 годзе і тады ж атрымалі "сваю" вуліцу. Пасля Другой сусветнай савецкую назву, верагодна, пакінулі, але на саму постаць – забыліся.

## Новы Стары мост

На пачатак 1950 года адкрыўся адноўлены мост праз Нёман, які яшчэ нядаўна насіў імя Юзафа Пілсудскага. Праўда, ён у чарговы раз змяніў сваю назву. У канцы года гарвыканкам загадаў усталяваць на ім мемарыяльныя дошкі ў гонар дваццацігоддзя аб'яднання Заходняй Беларусі і БССР. Дошкі былі зроблены на мясцовым ліцейна-механічным заводзе і абышліся гораду ў 100 тысяч рублёў. Польскі базальтавы брук і металічную агароджу часткова ўдалося захаваць да сённяшняга дня: брук быў пакладзены на плошчы Леніна (да 1980-х гадоў – на вуліцы Маставой), а частка металічнай агароджы апынулася ў гарадскім парку. З часам, пасля будоўлі чарговых мастоў праз Нёман, сярод гродзенцаў мост атрымаў назву Стары, але ўжо ў 2000-я, пасля апошняй рэканструкцыі, дошкі былі знішчаны, а мост зноў застаўся без "імя".



## Фолюш, які не стаў горадам майстроў

Назва аднаго з сучасных раёнаў Гародні – Фолюш – як ні дзіва, мае таксама даўнюю гістарычную традыцыю. Яна паходзіць ад старабеларускага слова "хвалеваць" (або "фалёваць"), што азначае "выраўноўваць сукно". У канцы XVIII стагоддзя тут, на рацэ Ласасянка, па ініцыятыве гродзенскага падскарбія Антонія Тызенгаўза быў закладзены цэлы "горад майстроў" – Кунштат. Горад, аднак, не паспеўшы дабудавацца, вельмі хутка прыйшоў у заняпад, а са ўсіх майстэрняў даўжэй працавалі сукнавальныя мануфактуры. Вось так замест Кунстава з часам гэты бераг Ласасянкі і пачалі называць Фолюшам.

## Каралеўскі ласось

Польскі натураліст ксёндз Клюк пісаў, што з рэчкі Ласасянкі каля Гародні паходзяць самыя вялікія і смачныя ласосі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Мабыць, так яно і было. "Ласосяў", ці, дакладней, рачную фарэль пастаўлялі ўпрост на каралеўскі стол. Назва вёскі Ласосна таксама адсюль. Аднойчы Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, які любіў выбірацца сюды з замка на конныя прагулкі, пабачыў надзвычай вялізны камень, які настолькі ўразіў яго, што кароль загадаў яго выкапаць з зямлі і зрабіць поўныя абмеры. На беразе ракі стаяў вялікі, каля пяці метраў вышынёй, слуп з чырвонай цэглы, на якім раней знаходзілся гербы ВКЛ і Кароны Польскай. Пасля апошняга з падзелаў Рэчы Паспалітай Ласосна апынулася на мяжы спачатку Расіі і Прусіі, а пасля – Расіі і Царства Польскага. У выніку праз Ласосну праходзіў адзін з каналаў кантрабанды нелегальнай літаратуры на тэрыторыю Расійскай Імперыі.




## Ласасянскія татары...

У гістарычнай літаратуры сустракаецца тэрмін "ласасянскія" ці "гарадзенскія" татары. Хутчэй за ўсё, татараў пасялілі ў ваколіцах Гародні яшчэ князі Альгерд ці Вітаўт. Адным з найбольш старажытных татарскіх уладанняў на Ласасянцы лічыцца в. Малая Дзямідаўка, якую ў 1486 годзе атрымаў ва ўласнасць князь Урус Улан, а ўжо ў наступным стагоддзі практычна паўсюль уздоўж ракі мясціліся татарскія паселішчы. Амаль усе яны мелі агульную назву Ласосна, ці "селішчы татарскія над Ласоснай", ці "татарскія двары". З крыніц таксама вядома пра існаванне ласасянскай мячэці – "Ласосна з мячэццю" або "мячэць на Ласосне" ўпершыню ўзгадваецца ў 1539 годзе. Праўда, у выніку так званай "унутранай міграцыі" большая частка татар пазней перасялілася ў Слонім. У 1766 годзе каля Гародні засталося толькі чатыры татарскія сям'і.

## Ды "гарадзенскі" чэх

Гарадзенцы добра ведаюць мясцовасць Чэхаўшчызна недалёка ад Юбілейнага возера. Сама ж гэтая назва пайшла ад самага сапраўднага чэха – Абрама Духны Хрышчановіча. Гэты чэшскі шляхціц невядома як трапіў у Беларусь, але ў 1557 годзе баярка Дарота Сіруцёўна Калядзіная, якую "пакінулі яе бліжнія", перадае яму за выплату даўгоў адну трэць свайго маёнтка Ласосна. З часам шляхцянка прызнае чэха сваім сынам, а ён даглядае яе. Доўгія дзесяцігоддзі Чэхаўшчызнай і ваколіцамі валодалі нашчадкі Абрама Чэха і ягонай дачкі Марушы.



## Рыс
## на Ласасянцы

У 1949 годзе мясцовыя селекцыянеры, беручы прыклад з ленінградскіх навукоўцаў, спрабавалі праводзіць даследаванні па вырошчванні культываванага дзікага індыйскага рысу-тускарору ва ўмовах Гарадзенскай вобласці. Сярод іншага рыс вырошчваўся на рацэ Ласасянка, азёрах Белая ды Рыбніца, аднак у выніку з гэтага нічога (добрага) не атрымалася.

## Урочышча
## Сакрэт

Сёння гэтая назва згубілася на мапе горада. Нават цяжка зараз вызначыць яе дакладныя месца ды межы. А здаецца, яшчэ не так даўно гарадзенцы наведваліся сюды па грыбы ці суніцы. Адкуль пайшла тая назва, дакладна сказаць цяжка. Магчыма, яна звязана з… лацінскім прававым тэрмінам. Так раней называлі спрэчную тэрыторыю некалькіх феадалаў, на якую была накладзена судовая забарона. Магчыма, аднак, што нейкі час там мясціўся вайсковы пастарунак. На адной са старых мап Сакрэт пазначаны як тэлеграфная станцыя. Пазней тут, на ўскрайку Гародні, адбываліся дуэлі паміж вайскоўцамі, збіраліся рэвалюцыянеры падчас маёўкі, сустракаліся закаханыя. Сакрэт ён і ёсць – сакрэт. Таямніца…




# Ад “Галечы” да “Раскошы”

Сучасная вуліца Ажэшкі нейкі час называлася вуліцай Раскоша ад назвы карчмы, якая знаходзілася пры ўездзе ў горад. Прычым заканчвалася вуліца таксама карчмой, якая насіла назву “Галеча” (“Nędza”). Але калі “Галеча” лічылася месцам для заможных месцічаў, дык “Раскоша” была больш таннай, з адпаведнымі наведвальнікамі, што толькі падкрэслівала, наколькі непрадказальны чалавечы лёс і які кароткі шлях ад раскошы да галечы.

## Садовая

У другой палове XIX стагоддзя вуліца называлася Садовай, а ад пачатку XX стагоддзя у гонар былога губернатара атрымала назву Мураўёўскай. Казалі, што мясцовыя ўлады ўчынілі гэта наўмысна, каб зрабіць прыкрасць вядомай пісьменніцы ды польскай патрыётцы Элізе Ажэшцы, чый дом тут стаяў. У 1913 годзе з нагоды 300-й гадавіны царавання фаміліі Раманавых гарадскімі ўладамі было прынята рашэнне аб змене назвы вуліцы на Раманаўскую, аднак фактычна назва засталася старой. З усталяваннем польскай улады па рашэнні гарадской рады з 1920 года вуліца стала насіць імя Э. Ажэшкі.



## Новы Іерусалім

Спярша яна называлася вуліца Новы надзел – Nowaudzielana, дзе пасяліліся былыя жыхары камяніц з навакольля гарадзенскіх замкаў, замест дамоў якіх кароль Станіслаў Аўгуст загадаў пабудаваць… стайні. Пазней вуліца змяніла сваю назву з “новага надзела” на “новы Іерусалім”, як, мабыць, сімвал новага, лепшага жыцця. Аднак неяк з часам яе імя скрацілася да Іерусалімскай – вуліцы, якая вяла ўпрост да гарадскіх могілак. Пазней яна яшчэ некалькі разоў змяняла назву: спярша на Танкавую, у гонар савецкіх танкістаў, што загінулі падчас баёў за горад у верасні 1939 года, а ўжо пасля вайны – на Антонава, ад прозвішча савецкага генерала, які быццам бы тут нарадзіўся. Гэта была ўжо вуліца, якая вяла на так званы Скідзельскі рынак. Так і павялося: кожны з гарадзенцаў спяшаецца ўздоўж Антонава за агароднінай ды садавінай, каб аднойчы калісьці патрапіць на ўласную вуліцу Іерусалімскую…

## Новы Свет

Гэты адметны кавалак старога горада паўстае на абшары былой каралеўскай эканоміі – часткі Гарадніцы ды гэтак званага Станіславоўскага ключа. Сама ж яго назва, на думку некаторых даследчыкаў, звязана з лютэранскай абшчынай, якая ў свой час атрымала частку гэтых зямель ад апошняга манарха Рэчы Паспалітай. Толькі 24 чэрвеня 1875 года прадмесце Новы Свет было ўключана ў межы Гародні і пазней неаднаразова пашыралася за кошт суседніх уладанняў князёў Друцкіх-Любецкіх. На той момант гэта быў фактычна адзіны гарадскі квартал, дзе дазвалялася будаваць драўляныя дамкі.





# Залатая
# горка

“Не ўсё тое золата, што блішчыць”, – кажа прымаўка. І гэта якраз той выпадак! Золата, то бок грошы, маглі прыносіць ветраныя млыны, што стаялі тут на высокіх пагорках побач з горадам. Але ці так было насамрэч, невядома. Затое дакладна някепскія грошы атрымаў уладальнік маёнтка Станіславова, што распрадаў частку сваіх уладанняў пад прыватную забудову ў сярэдзіне 1920-х гадоў. Сёння гэты кавалак вуліцы Горкага, якраз насупраць гарадскога стадыёна, таксама спакушае сяго-таго, каб знесці ўжо паспеўшыя састарыцца дамкі, а зямлю зноў уладкаваць пад прыбытковую інвестыцыю. Ды ўжо нават нешта паспелі знесці. Але – не ўсё. Адзіны, апошні гаспадар, які парупіўся і абклаў хату новай цэглай, маёмасць сваю адстаяў. Таму і не пабудавалі нічога. І прыбытку не атрымалі. Вось толькі шкада таго гаспадара з Залатой горкі. Людзі кажуць, сэрца яго не вытрымала, пакуль змагаўся за сваю хату. З “золатам” часам гэтак бывае…



## Дом з ліліямі

Здольны гарадзенскі купец другой гільдыі дваранін Уладзімір Мікалаевіч Крэйцар амаль сто гадоў таму пабудаваў у самым цэнтры горада па тагачаснай Гарохавай вуліцы не проста асабняк у модным тады стылі мадэрн. Усё ў ім, пачынаючы ад першых у Гародні жалезабетонных калон да гіпсавай ляпніны, рабіла ўражанне. Дом з ліліямі, як яго называлі па выдатных упрыгажэннях на фасадзе, з'яўляўся ўвасабленнем мроі аб простым чалавечым шчасці, але лёс склаўся інакш. На пачатак Першай сусветнай вайны гаспадара выслалі па-за межы губерні ў сувязі з нямецкім паходжаннем. Пазней, ужо пасля вяртання сям'і, дачка купца Элеанора Крэйцар сышлася з авантурыстам Уладзімірам Фёдаравым. Знаёмства хуткаператварылася ў каханне, але праўда, моцна замешанае на… какаіне.

## Змены назваў

На пачатак 1864 года гарадзенскі паліцмайстар звярнуўся ў мясцовае губернскае праўленне з рапартам, у якім выказваў вострую заклапочанасць з нагоды неадпаведнасці вулічных назваў у горадзе. У краі толькі што было задушана чарговае паўстанне, і пільны прадстаўнік улады палічыў, што гэта добры момант, каб раз ды назаўжды навесці ў Гародні "парадак"! У выніку зусім хутка вуліца Дамініканская стала Саборнай, Бернардзінская – Мяшчанскай, Брыгіцкая – Купецкай, Баніфратарская – Татарскай, Раскоша – Садовай. Ну і, зразумела, на мапе горада з'явілася вуліца Паліцэйская! Да таго ж, па іроніі лёсу, прозвішча паліцмайстра таксама было красамоўным – Васілій ЗМЕЕЎ!..




# Гатэль “Надзея”

У пачатку ўжо мінулага стагоддзя занёманскі Фарштат развіваўся імкліва. Тут паўставалі новыя прадпрыемствы, прыстані, школы, вуліцы, а каля 1907 года з’явіўся новы гужавы мост праз Нёман. Гэтым і скарысталіся прадпрымальныя гродзенскія яўрэі *Любічы*, збудаваўшы тут гатэль са сціплай, але прыгожай назвай – “Надзея”. Мы не ведаем імя архітэктара камяніцы, аднак гатэль “Надзея” атрымаўся, напэўна, адным з самых прыгожых будынкаў Гародні. Такіх не будавалі ні да, ні пасля яго. Але добрыя надзеі не спраўдзіліся. Большасць выяў гэтага дома паходзіць з трагічных гадоў Другой сусветнай вайны, калі яўрэйская супольнасць горада была знішчана нацыстамі. У савецкі ж час будынак быў аздабленнем так званага П’янага кута. Праўда, камяніца з зоркай Давіда на цокалі выклікала… перасцярогу. А хутка, разам з чарговай рэканструкцыяй, яе і наогул знеслі…



# Даліна самагубцаў

“Калі ў Вас у наваколлі няма ні Альпаў, ні высакагорных лугавін, ні нават Жэнеўскага возера, тады і пагоркі ўздоўж Гараднічанкі могуць сысці за Швейцарыю. Асабліва калі побач – палац губернатара”. Разважаючы прыкладна гэткім чынам, гарадзенцы і залажылі парк з тэрасамі ды прыгожымі драўлянымі масткамі. Аднак пасля нешта пайшло не так: ці то старыя высокія дрэвы выклікалі нездаровую меланхолію, ці розніца паміж гарадзенскай ды сапраўднай Швейцарыяй атрымалася занадта відавочнай, але неяк зусім нечакана даліна ператварылася ў “любімае” месца для самагубцаў. Звычайна тут атручваліся з прымяненнем карболавай кіслаты. Прычым самыя розныя людзі. Толькі за 1912 год звясці рахунак з жыццём тут спрабавалі два чыноўнікі, столькі ж афіцэраў, пяць простых жаўнераў, тры прастытуткі, адзін зняволены, адзін работнік чыгункі, адна старая ды адзін селянін. Як бы там атрымалася далей – цяжка сказаць. Але ў савецкі час даліну засыпалі ды зрабілі з яе пляц. А каб ніякіх (іншых) кепскіх думак у галовы людзям не лезла, яго гэтак і назвалі – пляц Леніна. А Швейцарскую даліну ўжо пазней паспрабавалі адбудаваць, толькі ў іншым месцы, так што ранейшых пачуццяў яна ўжо не выклікала. І дзякуй Богу!





## Лермантаў, Чапай ды Маркс

Ужо ў пазнейшы час у Гародні захавалася некалькі “кепскіх” адрасоў, куды звычайна месцічы “накіроўвалі” асобу, што прыйшлася ім не даспадобы: ідзі вучыцца на Лермантава, палячыся на Чапая, пасядзі на Маркса. Па першым адрасе працавала школа для дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі, на Чапаева ў былой камяніцы Варашыльскага мясціўся венералагічны дыспансер, а ў былых мурах брыгіцкага кляштара на вуліцы К. Маркса знаходзіўся псіхіятрычны шпіталь. Прычым гэты апошні адрас гучаў асабліва двухсэнсоўна ў савецкім горадзе. Нічога дзіўнага, што хутка і самі назвы зрабіліся гарадскімі прымаўкамі, незалежна ад свайго папярэдняга зместу. Дарэчы, гэтая традыцыя захавалася да сёння, вось толькі замест Маркса зараз пасылаюць на Шчорса…

## П’яны вугал

Прыкладна тады ж у Гародні з’явіўся П’яны вугал. Так пачалі называць перакрыжаванне вуліц Ліпавай ды Ласасянскай (сёння – Гарнавых ды Савецкіх памежнікаў). Тут працавала адразу некалькі чайных: піўная крама ад гарадзенскага бровара, крама па продажы напояў арцелі “Чырвоны кастрычнік”, камерцыйная чайная ды павільён-сталовая трэста сталовых ды рэстарацый. Пасля на гэтым месцы пабудавалі Палац хімікаў, але сама назва яшчэ доўга захоўвалася сярод старэйшага пакалення гарадзенцаў як прыемны ўспамін пра былыя часы.



## Дзе быў? У лазні...

Адначасова на вуліцы Віленскай, побач са старой лазняй Фрумкінай, адкрылі новы медвыцвярэзнік, пасля чаго сярод сталых кліентаў дадзенай установы замацавалася прывітанне:

– Дзе быў?

– У лазні.

## Біржа, аўтапаілка ды тэлевізар... па-гарадзенску

У 1950-я гады скрыжыванне вуліц Ажэшкі ды Сацыялістычнай гарадзенцы паміж сабой называлі Біржай. Чаму – сказаць цяжка. Затое тут працавалі дзве вельмі цікавыя ўстановы: крама "Піва-сокі-воды", дзе можна было набыць напоі наўпрост з аўтаматаў, і таму яе хутка пераназвалі ў "Аўтапаілку", ды невялічкая кавярня насупраць, якую ўсе ведалі як "Тэлевізар".

## "У Хрыста за пазухай"

На пачатак 1970-х на пагорку адразу насупраць касцёла бернардынцаў адкрыўся піўны бар. І хаця афіцыйная яго назва была "Турыст", сярод ягоных наведвальнікаў бар называлі "У Хрыста за пазухай".





## “Скаціна” vs “Зубр”

Росквіт сацыялізму прынёс у Гародню не толькі новы ўзровень дабрабыту, але і значна дапоўніў пералік “злачных” месцаў. Зараз самі рэстарацыі ды бары збольшага насілі мілагучныя, нават рамантычныя назвы: “Радуга”, “Погребок”, “Беларусь”, “Зубр” ці, уласна, “Рамантыка”, – што не заўсёды адпавядала пануючым у іх норавам. У выніку неяк незаўважна “Зубр” пераўтварыўся ў “Скаціну”, “Погребок” – у “Яму”. Хутка за гэтым з’явіліся “Палуба”, “Акварыум”… Гэткія мянушкі хоць і не былі надта прыгожымі, затое шчыра папярэджвалі наведвальнікаў пра тое, што іх тут можа чакаць…

## Клетка

Некаторыя гарадзенскія назвы маюць цудоўную моц адраджацца ў новым абліччы. У савецкі час, напрыклад, любімым месцам адпачынку моладзі была танцпляцоўка ў старым парку, за якой замацавалася назва “Клетка”, таму што сваім выглядам яна нагадвала вялізную клетку. Пазней на нейкі час тая назва перайшла да клуба, які мясціўся таксама ў парку, у былым кінатэатры, які знеслі пры апошняй рэканструкцыі. Гэткае супадзенне падаецца тым больш цікавым, што менавіта ў парку калісьці захоўваліся першыя гадаванцы будучага заапарка, якіх таксама трымалі ў… клетках.





# Бог Гардунціс

Юзаф Ядкоўскі, які ці не першы зацікавіўся гарадзенскімі легендамі, пісаў з гэтай нагоды: "Характэрна, што сярод так званых беларусаў няма легенд аб узнікненні горада. Паданні гэтыя, якія адносяцца да вытокаў мінулага Гародні, трэба шукаць сярод літоўскага народа...". Сам Ю. Ядкоўскі ўзгадвае паданне, паводле якога недалёка ад сённяшняй Гародні знаходзіўся свяшчэнны гай, вядомы па ўсёй Літве. Тут, быццам бы, прыносілі ахвяры старажытнаму боству Гардуніцісу або Гардунцісу – ахоўніку хатніх жывёл. Пакінем на сумленні паважанага гісторыка ягоныя высновы. Але і ў літоўцаў падобных легенд мы амаль не сустрэнем, хіба што ў хроніцы Сямёна Груня першым гарадзенскім князем называецца Гарт – унук прускага караля Відзевута, якому дасталася ў валоданне так званая Малая або Ніжняя Літва. Таксама і І. Крашэўскі прыводзіць гісторыю пра князя Літво і яго сына Гарто, чыім імем быццам бы і назвалі замак. Вось толькі, на жаль, ні пра бога Гардунціса, ні пра князя Гарто ў крыніцах нічога не ўзгадваецца.





## ...Першы гарадзенскі князь

Тым часам традыцыйна ў якасці пачынальніка дынастыі гарадзенскіх князёў гісторыкамі называецца Усеваладка, сын уладзімір-валынскага князя Давіда Ігаравіча ды ўнук самога Яраслава Мудрага. Пасля смерці бацькі ён застаўся без уласнага надзела, патрапіўшы ў лік так званых "князяў-ізгояў". Аднак, на шчасце, лёсам Усеваладкі заняўся вялікі кіеўскі князь Уладзімір Манамах, які нават выдаў за яго сваю малодшую дачку Агаф'ю, а ў якасці пасагу перадаў землі над Нёманам. У летапісе пад 1116 годам з гэтай нагоды чытаем: "…в се же лето… Володимеръ отда дщерь свою Агафью за Всеволодка". Што праўда, упершыню як менавіта гарадзенскі князь Усеваладак узгадваецца ў Лаўрэнцьеўскім летапісе праз дзесяць гадоў.

## Агаф'я

З самага пачатку гісторыя Гародні пісалася мужчынамі. Нічога дзіўнага, што гэта яны на доўгі час сталі яе галоўнымі постацямі: князь-заснавальнік, першы стараста, першы губернатар, першы гісторык. Жаночае аблічча горада куды больш няўлоўнае, а пра ўласна гарадзенскіх жанчын летапісы ўзгадваюць толькі ўскосна, як пра тую ж дачку кіеўскага князя Агаф'ю. Што праўда, верагодна, гэта менавіта дзякуючы шлюбу з ёй князь-ізгой Усеваладка атрымаў у пасаг Гарадзенскую зямлю і здолеў запанаваць над усім Сярэднім Панямоннем. Таму яшчэ пытанне, хто ў гэтай гісторыі насамрэч галоўны…



# Пажар
# (з якога ўсё і пачалося)

Нават першая летапісная ўзгадка пра сам горад у 1183 годзе таксама нечым нагадвае легенду: “...Городенъ погоре весь и церкы каменая от блистания молние и шибения грома…”. Гэтак і ўяўляеш, як манах запісаў тыя радкі, атрымаўшы сумную навіну. Ён, мабыць, добра ведаў, дзе тая Гародня знаходзіцца і што ёсць там каменная царква, а магчыма – і не адна. Пройдуць стагоддзі – і гісторыкі будуць спрачацца, пра які, уласна, горад ідзе гаворка ў летапісе, пакуль археолагі не адшукаюць на Старым замку муры той самай царквы са слядамі моцнага пажару. Бо амаль у кожнай легенды ёсць свае карані…

## Таямнічае знікненне

Аднойчы з экспазіцыі мясцовага музея знік адзін з самых цікавых экспанатаў – старажытная шахматная фігурка ў выглядзе ладдзі, якую калісьці адшукалі археолагі на Старым замку. І вось зараз, праз столькі гадоў, нехта з наведвальнікаў падчас экскурсіі скраў яе з вітрыны, ды так, што ніхто і не заўважыў. Аказалася, каштоўны экспанат фактычна быў без аховы. Але і гэта не ўсё. Калі скрадзеную рэч абвясцілі ў вышук, раптам высветлілася, што яна і сапраўды “бясцэнная”, бо па старых, яшчэ савецкіх цэнах, паводле музейных дакументаў, зараз яна каштавала менш за школьны сшытак. Міліцыя толькі разводзіла рукамі – ладдзя можа і “бясцэнная”, але ж самі дакументы кажуць нешта зусім іншае. Гэтым разам, праўда, скончылася ўсё добра і праз некалькі гадоў шахматную фігурку адшукалі, калі злодзей-небарака спрабаваў высветліць яе кошт у мясцовых антыквараў. Відаць, не толькі адныя ўлады маюць праблему з ацэнкаю каштоўнасці гарадзенскай спадчыны…




## Каложа
## vs капішча

Легенда – гэта самы кароткі шлях паміж “чаму” ды “таму што”. “Чаму Каложу пабудавалі амаль над самым Нёманам?” – пытаем мы. “Таму што раней тут было паганскае капішча, якраз побач з “калючымі” – халоднымі крыніцамі, што білі з-пад пагорка”, – адказвае легенда. А камяні, якія сёння ўпрыгожваюць царкву, калісьці былі часткаю гэткага капішча. Намоленае месца, адным словам. Насамрэч, відаць, царква адразу будавалася як манастырскі храм. Акрамя таго, ад Нёмана храм доўгія стагоддзі аддзялялі сад ды праезны тракт. Што ж тычыцца капішча – гэтую здагадку цяпер даволі складана пацвердзіць. Зрэшты, як і абвергнуць. Ю. Ядкоўскі, напрыклад, лічыў, што Каложа нават перажыла другое ператварэнне ў капішча ў так званыя “цёмныя” часы…

## Нежык

Звычайна ў якасці архітэктара, які пабудаваў Каложу, называюць імя Пятра Міланега, што літаральна азначае “хто любіць адпачываць, нежыцца”. Адсюль і яго скарочаная мянушка – Нежык. Аднак, насуперак значэнню прозвішча, часу майстар не марнаваў, узвёўшы над Нёманам цэлы горад: акрамя ўласна Каложы былі пабудаваны яшчэ тры царквы (так званая Ніжняя, Прачысценская ды Уваскрасенская), княскі церам, абарончыя муры на Верхнім замку... Праўда, амаль поўная адсутнасць пісьмовых крыніц ператварае Пятра Міланега з рэальнага дойліда Гародні ў постаць хутчэй легендарную.



## Закапаная Каложа

Усе легенды падзяляюцца на неверагодныя, якія ніколі не здараліся і здарыцца не маглі, ды на праўдзівыя, што, магчыма, і мелі месца, ці, прынамсі, гучаць вельмі праўдападобна. Мабыць, самая праўдападобная з неверагодных гарадзенскіх легенд – гэта паданне пра тое, як падчас вайны Вялікага Княства Літоўскага з Масквой маскавіты, разабраўшы скляпенні Каложы і засыпаўшы храм да краёў зямлёю, усталявалі там гарматы, каб абстрэльваць замак на супрацьлеглым пагорку. Іншая легенда апавядае, што гэта быццам бы зрабілі шведы падчас Паўночнай вайны. Праўда, гісторыкі запэўніваюць, што маскоўскія войскі ў XVI стагоддзі да Гародні наогул не даходзілі, а Карл XII па замку з гармат не страляў. Тым горш для гісторыкаў…

## Кепскі знак

Ёсць гэткія архітэктурныя помнікі, мінулае якіх – адно суцэльнае паданне. Як, напрыклад, Каложа. Паводле першай вядомай нам узгадкі пра царкву, яна ўжо тады знаходзілася перад пагрозай разбурэння. Прычым пагроза для храма сыходзіла не толькі ад самога Нёмана ды Гараднічанкі, што бегла побач, але таксама ад крыніц, якія білі з-пад пагорка, на якім стаіць царква. Аднак калі ў сакавіку 1853 года Каложа ўрэшце абрынулася, усе былі перакананы, што тое – кепскі знак. І сапраўды, хутка распачалася Крымская вайна, якая скончылася для Расійскай Імперыі таксама катастрофай!




## Рунічная Гародня

Не ўсё тое, чым здаецца на першы погляд. Гэта тычыцца і таямнічых знакаў на цэгле гарадзенскіх цэркваў, якія яшчэ часам называюць рунамі, бо яны нагадваюць пісьмо старажытных германцаў ці балгар. На адной Каложы захавалася іх некалькі дзясяткаў – у выглядзе ключа, зоркі, сахі… Усіх і не пералічыш. Навошта майстры пакінулі іх? Гісторыкі сцвярджаюць, што гэтак пазначаліся розныя партыі плінфы – сярэднявечнай цэглы – падчас яе вырабу. Калі гэта і праўда, кожны сімвал і так мае ўласнае значэнне, быццам сама Каложа апавядае сваю легенду…

## Трубы гарадзенскія

Яшчэ адну загадку пакінуў нам аўтар "Слова аб палку Ігаравым". Зімой 1183 года Літва, якая да гэтага пакорліва плаціла даніну славянскім князям, раптам абуджаецца і здзяйсняе спусташальны паход на Полацк і Пскоў. Загінуў нават полацкі князь Ізяслаў, які "…прыбіў славу дзеда свайго Усяслава, а сам пад чырвонымі шчытамі на крывавай траве быў прыбіты літоўскімі мячамі". Апісваючы цяжкія часы, што перажывалі рускія княствы, аўтар "Слова…" у канцы дадае: "…Засумавалі галасы, панікла весялле, трубы трубяць гарадзенскія". Калі на хвілінку прадставіць, што гаворка ідзе менавіта пра Гародню, крэпасць амаль у цэнтры балцкіх земляў, адразу ўяўляеш сабе, як сумны гук вайсковых рагоў з высокіх мuроў заклікае на дапамогу, якая, бадай што, ужо не прыйдзе…



## ...І апошні князь

Добрая справа – традыцыя! Згодна з ёй, апошнім гарадзенскім князем лічыцца Юрый Глебавіч, унук Усеваладка. Паводле падання, у 1241 годзе мангольскі хан Кайдан уварваўся ў Гарадзенскае княства, аблажыў горад і пасля зацятага супраціву войскаў Юрыя захапіў яго. Юрый загінуў, яго армія была знішчана, замак спалены. Гэта потым прыдумаюць гісторыю пра тое, як Міндоўг адправіў літоўскага князя Эрдзівіла разам з братамі Вікіндам ды Таўцівілам шукаць сабе княствы ў славянскай зямлі, дзе яны і залажылі на месцы спаленай татарамі крэпасці новы замак.

## Каменны слуп

Пра камянецкую вежу-"слуп" сёння ведаюць усе. А вось пра гарадзенскую, якая не захавалася да нашых дзён, узгадваюць нямногія. Справа ў тым, што ў сярэдзіне XIII стагоддзя горад ператварыўся ў арэну жорсткай барацьбы паміж літоўскімі ды галіцка-валынскімі князямі. І калі валыняне ў чарговы раз спрабавалі захапіць дзядзінец, абаронцы горада замкнуліся ў той вежы і нельга міма яе было прайсці да горада, бо "пабівалі са слупа таго". Аднак у рэшце рэшт вораг захапіў вежу і "страх жа вялікі і жах упаў на горад…". А мы і зараз не ведаем ні калі і хто пабудаваў "слуп", ні як ён выглядаў, ні, уласна, месца, дзе знаходзіўся.





# Здрада

Палова ўсіх вядомых нам легенд будуецца вакол здрады. І Гародня – не выключэнне. Калі горад зноў сустракаецца на старонках летапісу, тут ужо кіруе літоўскі князь Трайдэн. У 1275 годзе ён паслаў "гараднян" захапіць Драгічын на Бугу, што тыя і зрабілі, пабіўшы ўсіх жыхароў горада "ад малога да вялікага". Тым самым гарадзенцы "здрадзілі" сваім братам па веры, ды яшчэ зрабілі гэта на Вялікдзень. Аднак адна здрада нараджае іншую. Той жа Трайдэн пасяліў у Гародні апошніх прусаў на чале з іх правадыром Скумандам, якія ўцяклі сюды ад пераследу крыжакоў. Хутка аказалася, што гэта было страшэннай памылкай! Пад сцены Гарты, як называлі замак крыжакі, упершыню нямецкіх рыцараў прывёў усё той жа Скуманд, які, "стаміўшыся выгнаннем", разам з часткай прусаў вярнуўся ў зямлю радзімы сваёй, дзе раптам "стаў раўніцелем хрысціянскай веры". Іншымі словамі, перайшоў на бок Ордэна. І здрадзіў сваім учорашнім памагатым…



# Давыд Гарадзенскі

Веды – вялікая сіла. Напэўна, ці не самым вядомым з гарадзенскіх князёў сёння можна лічыць Давыда, сына пскоўскага князя Даўмонта-Цімафея, праўнука Аляксандра Неўскага, зяця Гедыміна. Вось толькі што з пералічанага праўда – мы не ведаем. Звычайна сцвярджаецца, што каля 1312 года Давыд па запавеце бацькі прыбыў з Пскова ў Літву, дзе атрымаў месца гарадзенскага кашталяна – гэта значыць, ваяводы. За кароткі час ён не толькі здолеў перапыніць шэраг крыжацкіх аблог, але і ўзначаліў некалькі крывавых рэйдаў, якія прынеслі багатую здабычу. У адказ крыжакі спалілі алод Давыда – яго рэзідэнцыю каля Гародні. У гісторыкаў апошняя падзея набывае з часам шмат дадатковых падрабязнасцей: алод ператвараецца ў "радавы маёнтак", прычым дакладна ўзгадваецца яго месца – Верцялішкі. З'яўляецца кранальная гісторыя пра смерць жонкі Давыда, дачкі Гедыміна князёўны Біруты, якая нібыта загінула разам з дзецьмі. А зараз ужо "знайшлося" і месца пахавання – каля Калажы. Адно кепска: на двух помніках Давыду ў Гародні змешчаны дзве розныя даты нараджэння. "Гэта каб было смяшней", – кажа кіраўнік аддзела культуры…




# Акваманіл

Далейшыя падзеі зараз выглядаюць як помста за гібель блізкіх. Давыд з моцнай арміяй абрынуўся на ворагаў. У той жа “Хроніцы зямлі Прускай” П. Дусбурга маляўніча падаюцца жудасныя падрабязнасці рэйду Давыда ў наваколлі Франкфурта. Рэдкім помнікам той эпохі, у якой жыў гарадзенскі ваявода Давыд, з’яўляецца адмысловы бронзавы сасуд-акваманіл у выглядзе віцязя вярхом на кані, што калісьці захоўваўся ў Каложы. Звычайна гэткі посуд выкарыстоўвалі для абмывання падчас літургіі. Адной рукой воін прытрымліваў павады, тады як другая нібы спрабуе выхапіць меч, ад якога даўно не засталося і следу. Сам вадаліў з’яўляецца ці не адзіным прадметам, які нейкім цудам ацалеў у храме і сёння зберагаецца ў Музеі гісторыі рэлігіі. Перш чым зноў апынуцца ў Гародні, ён амаль сорак гадоў правёў у запасніках Інстытута гісторыі Літвы, пакуль акваманіл не вярнуў тагачасны дырэктар музея Аляксей Карпюк. З вялікай доляй верагоднасці можна сцвярджаць, што гарадзенскі вадаліў – трафей, а імя таго, хто яго здабыў, упрыгожвае сёння вялікі камень у некалькіх кроках ад Каложы.



# Чаму быў забіты князь Давыд

“Скажы, як ты загінуў, і я скажу – хто ты”. Гарадзенскі кашталян загінуў, вяртаючыся з паходу. Польскі храніст М. Стрыйкоўскі піша з гэтай нагоды: “Знайшоўся нейкі Анджэй, шляхціц правы, змяшаўся з літвінамі, як другі Сцэвола, і ў шатры ўваткнуў доўгую дзіду ў Давыда”. Калі хтосьці забыўся, Гай Муцый Сцэвола – гэта герой старажытнарымскай легенды, які спрабаваў забіць цара этрускаў, што пагражаў Рыму. Нямецкія крыніцы, праўда, не называючы імя забойцы, падрабязна тлумачаць прычыну яго ўчынка: “...За войскам ішоў адзін паляк, моцна смуткуючы ад гэткай колькасці забітых хрысціян. Калі ж яны прыйшлі ў прызначанае месца, ён на вачах у многіх забіў Давіда, кашталяна Гарты і правадыра гэтай вайны, які нанёс незлічоныя злачынствы веры ды хрысціянам…”. І толькі беларускія гісторыкі ўпэўнены, што забойцу да Давыда падаслалі крыжакі. Бо ўсе зло – ад іх.




# Цуды каменя Давыда

У Гародні рэдка гісторыя заканчваецца на апошняй старонцы. Гэтак і легенда пра магілу князя Давыда каля Каложы мае свой працяг. Праз колькі часу пасля таго, як Міхась Ткачоў падняў тост у гонар гарадзенскага ваяводы, што знайшоў свой пасмяротны супакой каля старажытных муроў, іншы гарадзенскі руплівец Апанас Цыхун загарэўся марай паставіць на магіле помнік у гонар князя-ваяра ў выглядзе вялікага волата-валуна. Усе тады толькі пасмяяліся – шукаць той камень, пасля везці невядома як ды глядзець, каб яшчэ сама царква не абвалілася ад гэткага "суседства"?! Але аднойчы праз два-тры гады, калі спадара Апанаса ўжо не стала, падчас будаўнічых прац адкапалі каля Каложы вялікі камень. Яго неяк выцягнулі з зямлі ды ўжо збіраліся некуды звезці, як раптам прыгадалі даўнюю ідэю. Вось так валун, які, верагодна, калісьці "пахавалі" на месцы будучага храма, ператварыўся ў помнік князю, які тут ніколі не спачываў. Аднак і гэта яшчэ не канец! Мой сусед па лецішчы неяк з натхненнем распавядаў пра цудоўны камень у Новым парку, недалёка ад старой царквы: дастаткова да яго дакрануцца – і галава адразу перастае балець. Вось толькі што на тым валуне напісана, сусед ужо не ўзгадаў…



# Забыты герой

А вось гарадзенскага князя Патрыка прускія хронікі называлі нават “гарадзенскім каралём”. У 1363 годзе тэўтонскія рыцары арганізуюць адразу два крыжовыя паходы на Літву, адзін з якіх – у накірунку Гародні – ачоліў нямецкі арыстакрат Ульрых фон Хатноў, а ўдзельнічаць у ім падахвоціліся лепшыя з англійскіх і шатландскіх рыцараў. Гораду пагражала смяротная небяспека, а шанцаў выстаяць у князя Патрыка і яго дружыны было няшмат. І раптам князь, які да гэтага не раз з мячом у руцэ сустракаў крыжакоў, загадвае адкрыць гарадскую браму, з якой насустрач ворагу выходзіць доўгай чарадой працэсія з крыжамі ды харугвамі! Замест ваяўнічых, крыважэрных язычнікаў, якіх чакалі ўбачыць у гэтай лясной чашчы рыцары, па старадаўнім звычаі Патрык сустрэў братоў па веры хлебам ды соллю. Абураныя падманам з боку крыжакоў, якія вялі рыцараў праз усю Еўропу для барацьбы з “апошнімі язычнікамі”, саюзнікі павярнулі коней прэч ад горада. У выніку наступны раз крыжакі з’явіліся пад сценамі гарадзенскіх замкаў толькі праз дзесяць гадоў. Праўда, Кейстут не ацаніў крок гарадзенскага князя, і той неўзабаве быў пазбаўлены сваіх уладанняў і адпраўлены на ўсходнія межы Вялікага Княства, пакінуўшы нам па сабе адно толькі прыгожую легенду...




# Ланцуг праз Нёман

Існуюць легенды, якія лепш за ўсе распавядаць, гледзячы са Старога замка на няспешную плынь Нёмана ўнізе і ўяўляючы, як падымаюцца старыя замкавыя муры, а разам з імі паскарае свой бег рака. Як бы неверагодна тое ні гучала, але ў 1390 годзе, падчас вайны з Ягайлам, Вітаўт даручыў крыжакам на чале з маркграфам Зальцбахам абараняць гарадзенскі замак ад свайго стрыечнага брата! У выніку, хаця Ягайла і прывёў вялізарнае войска, адразу захапіць горад яму не ўдалося. Тым часам Вітаўт, які разам са сваімі хаўруснікамі стаў лагерам на супрацьлеглым беразе, спрабаваў выратаваць крэпасць ды яе абаронцаў. Ён загадаў працягнуць праз Нёман жалезны ланцуг, з дапамогай якога ў замак перадаваліся зброя ды ежа. Гародня вытрымала пяцьдзясят дзён аблогі. Вытрымала б, верагодна, і больш, але Ягайла, у сваю чаргу, загадаў валіць лес вышэй горада ды сплаўляць бярвенні ўніз па рацэ. Векавыя дрэвы парвалі ланцуг, а гарнізон, застаўшыся без дапамогі, вымушаны быў здаць замак.



# Тры замкі

А ці чулі вы легенду пра тры замкі – Нойгартэн, Рытэрсвердэр ды Мітэнбург? Калі праз год князь Вітаўт разам з вялікім магістрам Конрадам Валенродам адваяваў горад, за дапамогу ў вайне крыжакі атрымалі дазвол узвесці побач з горадам "Новы Гродна" ды яшчэ дзве іншыя крэпасці, што дазваляла Ордэну трымаць пад сваім кантролем увесь сярэдні Нёман. Чарговая аблога магла б зацягнуцца надаўжэй, калі б літвіны, якія баранілі замак, не перайшлі на бок Вітаўта, пакінуўшы польскіх рыцараў адных. Канчаткова здацца гарнізон прымусіў пажар, які раптам пачаўся ў замку. У давяршэнне да ўсяго, Валенрод загадаў пакараць смерцю пятнаццаць палякаў, а астатніх адправіў у Мальбарк. Аднак ужо неўзабаве Вітаўт, не жадаючы канчаткова страціць кантроль над сваімі ўладаннямі, загадаў знішчыць крыжацкія ўмацаванні, ды гэтак, што сёння ніхто і не ведае, дзе гэтыя крэпасці знаходзіліся.

# Харугвы на Грунвальд

Гародня таксама можа лічыцца месцам, дзе нарадзілася будучая беларуская выведка. Справа ў тым, што тут збіраліся разам харугвы Вялікага Княства Літоўскага, перш чым адправіцца пад Грунвальд. Тым часам, чакаючы войска, Вітаўт высылае сваіх лазутчыкаў у бок Прусаў, каб даведацца, як ідуць справы ў крыжакоў. Сёння ж на пагорку побач з Каложай стаіць "Пагоня на Грунвальд" – сімвалічны знак у гонар перамогі…





# Вітаўт, малпачка і марскі коцік

Кажуць, што гусі вырataвалі Рым. У падзяку за гэта старажытныя рымляне птушак вельмі шанавалі. Гарадзенскі ж замак выратавала малпачка. У 1418 годзе вялікі князь Вітаўт адзначаў тут свой шлюб з князёўнай Юльянай. Малады гэтак "насвяткаваўся", што спаць упаў як сноп. За гаспадаром пазасыналі і слугі, так што ніхто і не заўважыў, як агонь з каміна перакінуўся на столь ды пайшоў далей. Яшчэ б трошкі – і ўвесь замак загарэўся. Невядома, чым бы ўся справа скончылася, калі б не маленькая малпачка, якую вялікі князь вазіў за сабою. Жывёлка, можа, і была невялічкай, але вэрхал падняла гэткі, што пабудзіў бы нават мёртвых, чым усіх выратавала. Што праўда, некаторыя гісторыкі сцвярджалі, што насамрэч тое была не малпачка, а марскі коцік. У любым выпадку – нічога дзіўнага, што наступныя вялікія князі трымалі ў Гародні ўжо цэлы звярынец…



## Святы Казімір

Не кожны горад можа пахваліцца ўласным святым. А ў Гародні іх адразу некалькі. Першы і ці не самы знакаміты з іх – Святы Казімір. Каралевіч з малога ўзросту вылучаўся незвычайнай кемлівасцю і здольнасцю да навук, а яшчэ вялікай рэлігійнасцю. Ён мог босы з замка прыйсці пад гарадзенскую Фару ды ўсю ноч маліцца на каленях перад зачыненай брамаю касцёла. У Гародні ён і памёр 4 сакавіка 1484 года на руках свайго сакратара і сябра Яна Канарскага, пазней кракаўскага біскупа, які асабліва прычыніўся да кананізацыі Казіміра. Новы святы амаль адразу стаў сімвалам абароны Айчыны, як, напрыклад, падчас чарговай вайны з Маскоўскім княствам, калі ў цяжкі момант бітвы ягоная постаць з'явілася беларуска-літоўскаму войску і дапамагла атрымаць перамогу. Невыпадкова на цудоўных абразах Казімір, які толькі аднойчы прымаў удзел у вайсковым паходзе, прадстае ў рыцарскім даспеху.

## Выгнанне жыдоў

Кепска жыць, будучы спрадвечным "іншаземцам". Нічога дзіўнага, што гісторыя гарадзенскіх яўрэяў пачынаецца з... выгнання! Увесну 1495 года вялікі князь Аляксандр загадаў яўрэяў, якіх тады па ўсім Вялікім Княстве Літоўскім было не больш за тры тысячы, "з зямлі нашай вон выбіць"! Прычым сваю маёмасць яны павінны былі пакінуць на карысць дзяржавы. Праз сем год, праўда, яўрэям было дазволена вярнуцца, але ж і гараджане часу не марнавалі. Яны паспелі частку камяніц, дзе жылі іх былыя суседзі, разам з бажніцай ды могілкамі разбурыць. Гарадзенскія яўрэі досвед гэткі засвоілі і парупіліся абзавесціся фальшывым прывілеем, які быццам бы паходзіў ад самога Вітаўта! На ўсялякі выпадак...




# Забойства Яна Забярэзінскага

Ворагаў трэба выбіраць асцярожна. Вось, напрыклад, у гарадзенскага старасты Яна Забярэзінскага быў заяты вораг князь Міхаіл Глінскі. Што сталася прычынай іхняй узаемнай варожасці, зараз дакладна сказаць цяжка. На працягу колькіх гадоў яны рабілі адзін другому прыкрасці, плялі змовы. Дайшло да таго, што Ян Забярэзінскі амаль адкрыта абвінаваціў Глінскага ў тым, быццам бы той атруціў вялікага князя і караля Аляксандра! Каб адстаяць сваё імя, князь запатрабаваў адкрытага суда, прыцягнуўшы да справы гаспадароў сумежных краін. Калі ж і гэта не дапамагло, Глінскі, які не захацеў сцярпець паражэнне, узяўся за зброю! Казалі, быццам бы ён вырашыў захапіць уладу ды абвясціць сабе гаспадаром… Вялікага Княства Рускага. На чале атрада ў семсот вершнікаў Глінскі таемна накіраваўся ў бок Трокаў! Аднак, выпадкова здарылася так, што на шляху загаворшчыкаў трапілася палюбоўніца Забярэзінскага, якая якраз вярталася з сустрэчы з каханкам! Судзячы па ўсім, план помсты нарадзіўся раптоўна. Зладзіўшы ўпрост на дарозе “дазнанне” няшчаснай жанчыне, Міхаіл Глінскі высветліў, што ягоны найгоршы вораг знаходзіцца не дзе-небудзь, а побач, у Гародні, – і ў той жа час загадаў паварнуць коней! Пераправіўшыся праз Нёман, атрад атачыў двор Забярэзінскага, які быў захоплены ўпрост у сваёй пасцелі і тут жа пазбаўлены жыцця. “Быў нашым мячом забіты за тое, што ён са сваімі спадручнымі над намі хацеў учыніць”, – апраўдваўся пазней князь. Адсекшы галаву няшчаснаму і начапіўшы яе на канец шаблі, загаворшчыкі выйшлі ў двор, пасля чаго атрад праскакаў яшчэ амаль чатыры мілі, пакуль не выкінулі крывавы трафей у возера пры дарозе. Гэткі крок вельмі дорага каштаваў князю. У выніку сваёй выправы на Гародню Глінскі паўсюль спазніўся, мяцеж ягоны скончыўся нічым, а сам ён быў вымушаны ўцякаць у Маскву, дзе пасля трапіў у вязніцу.



# Каралева
# Бона

Нават калі вы не шукаеце жанчыну, жанчына знойдзе вас. Прынамсі, так сталася з Гародняй, якую фактычна ўзяла пад сваю апеку каралева Бона. Спачатку яна паставіла войтам свайго чалавека, а яшчэ праз некалькі гадоў выкупіла Гарадзенскае староства ў князя Радзівіла, які паспеў тут загаспадарыць. Пасля гэтага каралева загадала магістрату тэрмінова забрукаваць плошчу і дарогі, ачысціць калодзеж, адбудаваць дом войта. Горад атрымаў земскія суды, ратушу з гадзіннікам ды водаправод. Пры каралеве перабудоўваецца Фара Вітаўта і з'яўляецца літоўская капэла, узводзіцца каралеўскі палац на Гарадніцы і касцёл Святога Духа са шпіталем. Акрамя таго, Бона зацвярджае выяву гарадской пячаткі. Адным словам, навяла парадак!

# Святы Губерт
# vs Святы Яўстафій

Са святымі цяжка, а з аленямі святых дык зусім кепска. Вось, напрыклад, возьмем выяву гарадзенскага герба, на якім алень з крыжом паміж рагамі пераскоквае праз плецены паркан. Мы сёння называем яго аленем Святога Губерта ўздагон за легендай пра тое, як падчас палявання сын аквітанскага герцага сустрэў цудоўную істоту, пасля чаго жыццё яго гэткім жа цудоўным чынам змянілася. Аднак існуе прынамсі яшчэ адзін падобны алень, які з'яўляецца сімвалам іншага святога, што прыняў пакутніцкую смерць яшчэ ў часы імператара Адрыяна – Святога Яўстафія. І той, і другі святы – апекуны паляўнічых. Чаму гарадзенскі герб звязваюць менавіта з Губертам, а не з Яўстафіем, ніхто не ведае. Акрамя, магчыма, Юзафа Ядкоўскага, які адным з першых так яго назваў.




## Каралеўскі дом

У каралеўскага горада павінны быць легенды пра манархаў. Як, напрыклад, паданне, быццам Стэфан Баторый хаваўся ў Гародні ад некаханай жонкі, каралевы Ганны, якая была старэйшая за мужа на дзесяць гадоў. Акрамя таго, кажуць, ён баяўся, што дачка самой каралевы Боны можа яго… атруціць, а таму з'язджаў сюды з нагоды, быццам едзе на паляванне. Тым больш што ў хуткім часе Баторый знайшоў у гарадзенскай пушчы сапраўднае каханне – прыгожую дачку ляснічага, якая нарадзіла яму сына. Нашчадкі караля быццам і зараз жывуць у Гародні, толькі пад іншым прозвішчам – Князёўскія.

## Шатландзец на даху

Дзе заканчваецца гістарычная праўда ды пачынаецца праўдзівая легенда? Вось, напрыклад, служыў у Стэфана Баторыя акцёр-шатландзец, які паўсюль яго суправаджаў ды карыстаўся вялікай ласкай караля. Аднойчы, калі манарх са світай гасцяваў у Гародні, раптам пачаўся пажар, ды гэткі моцны, што акцёр, ратуючыся ад агню, быў вымушаны залезці на самы высокі шпіль. Які ж было здзіўленне людзей пасля таго, як паменшала дыму і яны пабачылі на замку… шатландца, які ўвесь гэты час прасядзеў на даху. Больш позні варыянт гэтай гісторыі апавядае, што гэта не акцёр, а сам каралеўскі архітэктар, майстар Скота з Пармы, які жыў ля замка, "пры светлым дні выбраўся наверх цераз дах" ды патушыў пажар "без вады ці прыкладання сваіх рук". У любым выпадку, нехта на дах злазіў, і тое – праўда…



## Фара па справядлівасці

Фарай Вітаўта першы гарадзенскі касцёл пачалі называць толькі ў міжваенны час, калі лічылася, што мураваны храм быў пабудаваны пры вялікім князі Вітаўце. Да гэтага гісторыкі былі перакананы, быццам яго ўзвялі пры Боне на месцы старога драўлянага. Насамрэч касцёл Боны таксама быў драўляны. Каменны храм у гонар Найсвяцейшай Панны Марыі загадаў пабудаваць толькі Стэфан Баторый, а таму гэты храм справядліва было б называць… Фарай Баторыя. Замест гэтага ў Гародні захавалася Баторыеўка, ці, як напісана на самім будынку, "Дом Баторыя", да якога сам манарх ніякага дачынення не меў.

## Баторыеўка

Сёння, мабыць, кожны гарадзенец пакажа Баторыеўку на Савецкай плошчы, а магчыма, нават раскажа, што тут жыў сам кароль. На самой справе сваю назву гэты будынак атрымаў… па непаразуменні. "Сапраўдная" Баторыеўка – рэзідэнцыя гарадзенскага ландвойта ці, як яе яшчэ называлі, Замкавы двор, вялікая камяніца ў стылі рэнесансу – знаходзілася якраз насупраць, на рагу вуліцы Замкавай ды Рынка. Тады як, хутчэй за ўсё, у часы Баторыя сённяшняга палаца яшчэ наогул не існавала. Калі ж ён і быў "домам" нейкага караля, дык хіба Аўгуста І Моцнага, які яго "пазычыў", а дакладней – канфіскаваў за здраду ў князёў Сапегаў. Кажуць, што са спальні караля ў палацы можна было па крытай галерэі трапіць адразу ў фарны (тады езуіцкі) касцёл насупраць. Палац нават служыў месцам для правядзення сеймаў, пакуль не пабудавалі Новы замак!




# Таямніца смерці

Вельмі часта постаці, якія пры жыцці былі легендамі, гэткімі ж застаюцца і пасля смерці. А часам і сама іх смерць – легенда. Як, напрыклад, сталася са Стэфанам Баторыем. Раптоўны скон караля ў канцы 1586 года, ды яшчэ ў самы разгар падрыхтоўкі да новага паходу, выклікаў вялікія падазрэнні. Гучалі папрокі, што манарха не тым ды не ад таго лячылі, а нехта адкрыта казаў, што караля атруцілі! Каб зняць усякія падазрэнні, было прынята рашэнне правесці анатамічнае ўскрыццё цела для высвятлення прычын смерці. Ускрыццё адбывалася ў галоўнай зале палаца ландвойта ў прысутнасці больш чым трыццаці сведак. Вынятыя з цела органы складвалі ў вялікі сярэбраны таз. І хоць лекары так і не прыйшлі да адзінага меркавання, усе пагадзіліся з тым, што кароль памёр натуральнай смерцю. Насамрэч Баторыя забіў… алкаголь, ад якога, нягледзячы на перасцярогі прыдворных лекараў, ён так і не змог адмовіцца. Нездарама пасля караля ў падвалах гарадзенскага замка засталося з паўсотні бочак з моцным венгерскім віном!



## Каралеўскае сэрца

Яшчэ амаль паўтара года труна з целам караля чакала ў Гародні, пакуль будзе арганізавана ўрачыстае пахаванне ў Кракаве. Паводле падання, саркафаг з забальзамаванымі парэшткамі Баторыя ўвесь гэты час стаяў у крыптах пабудаванага па яго загаду касцёла. Нарэшце труну змясцілі на аздоблены чорным сукном і аксамітам рыдван і працэсія рушыла на другі бераг Нёмана да старога Варшаўскага тракту. Адразу за ёй у жалобнай калоне вялі прыбранага адпаведным чынам каня Стэфана Баторыя. Вось толькі, як казалі, сярэбраную урну з сэрцам памерлага манарха на Вавель так і не прывезлі. Магчыма, што сэрца караля так і засталося ў горадзе, які ён па-сапраўднаму любіў…

## Гарадзенскія скарбашукальнікі

Багаццем трэба дзяліцца, асабліва калі яно чужое. У 1588 годзе кароль Зыгмунт Ваза выдаў прывілей, якім дазволіў нейкаму пушкару Міхаілу Дуляцкаму ды яго-наму памочніку Фёдару Манкевічу капаць скарбы на грунтах гарадзенскіх ды мясцовых фальваркаў. Іншымі словамі, даў згоду шукаць “хабар” як у Гародні, так і ў наваколлі, але з перасцярогай: па засеяным полі не хадзіць ды крыўды не рабіць! Узамен скарбашукальнікі павінны былі са знойдзеных рэчаў “золата, срэбра, грошай ды падобнага, жэмчуга ды каштоўных камянёў” палову аддаць у скарб Вялікага Княства. Так у Беларусі з’явіліся першыя археолагі. Ці “чорныя капальнікі” – хто ж зараз разбярэ!..




# Ян Хадкевіч і трафеі

У Гародні захавалася легенда, быццам бернардынскі касцёл быў пабудаваны за грошы жаўнераў, якія вярталіся пасля паходу на Маскву. Праходзячы праз горад, кожны з воінаў ахвяраваў на заканчэнне пабудовы храма па талеру з конскага капыта, тады як сам гетман польны Вялікага Княства Літоўскага Ян Хадкевіч даў адразу тры тысячы. Ці так было насамрэч, зараз сказаць цяжка. Дакладна вядома толькі, што ў 1606 годзе пасля адной са сваіх самых гучных перамог – бітвы пад Кірхгольмам – Ян Хадкевіч завітаў у Гародню. Але тут гетмана чакала няшчасце. З Вялікай суботы на нядзелю здарыўся пажар, падчас якога той страціў вялікую частку маёмасці! “Больш за ўсё, – звяртаўся ён у сваім лісце да жонкі, – шкада мне згарэўшых трафейных штандараў, пра што, Бог сведка, пішу табе са слязьмі. Ледзь удалося выратаваць каля трыццаці, ды і тыя – пагарэлыя! Шаблі, палашы аздобленыя, некалькі шатаў ды іншы рыштунак, грошы гатоўкай каля шаснаццаці сот злотых; усяго маю шкоды на тысяч пяць”. Але ж сапраўдны жаўнер не наракае. “Пан Бог няхай будзе за ўсё пахвалёны: ён даў, ён узяў…” – з пакораю заканчваў свае пасланне Ян Хадкевіч.



## Абкрадзеныя абразы

“Нічога святога!” – дзіўна гэткае пачуць у горадзе, дзе захавалася столькі старажытных святынь. Але ж і на месяцы ёсць плямы. Ноччу 1672 года нейкі Ян Тучка ўзламаў замок Прачысценскай царквы і абакраў цудоўны абраз Марыі Панны. Не пабаяўшыся боскай кары, ён вынес з храма сярэбраную карону з дыяментамі і залатой ружай, вотыўныя таблiцы, срэбра, перлы ды пярсцёнкі. Частку сваёй здабычы ён закапаў недзе на беразе Нёмана, а частку прадаў мясцоваму яўрэю Азыку Якубовічу, з якім быў у змове. Але ж нацешыцца багаццем яму не ўдалося – злодзея хутка знайшлі. Прысуд аказаўся нечакана лагодным. Суд прыгаварыў злачынца да спалення, але, насуперак Статуту, рубіць руку перад тым, як адаслаць на стос, не стаў. Вось яна – першая праява надыходзячай эпохі гуманізму…

## Хібы прафесіі

Гуманізм гуманізмам, але ж нехта павінен прысуд выконваць. Горш, калі сам кат аказваўся злачынцам і яго трэба было неяк пакараць. У 1669 годзе падчас сваркі загінуў гарадзенскі кат Марцін Загурскі. Загінуў ад рук свайго ж памочніка Мацея Грабоўскага. Што сталася прычынай сваркі, да канца не вядома, але ж тое і не вельмі істотна. Казалі, быццам бы гэта Загурскі першым кінуўся на Грабоўскага са зброяй. Як бы там ні было, суддзі прыгаварылі памочніка да смерці, аднак… перадумалі. У выніку забойца павінен быў даглядаць жонку забітага ды надалей сам выконваць абавязкі гарадскога ката.

 

# Лава

Сярод скарбаў гарадзенскай гісторыі ёсць адзін, які не падобны да ўсіх іншых. Гэта – лава ў капліцы ў Фарным касцёле. Аднак гэта не проста старая мэбля, яна яшчэ і ўнікальны дакумент. Справа ў тым, што на лаве змешчаны выявы, якія распавядаюць пра цуды, звязаныя з абразом Маці Божай Студэнцкай. На шаснаццаці малюнках адлюстраваны найбольш драматычныя абставіны з гісторыі гэтай найкаштоўнейшай з гарадзенскіх святынь. Як распавядае легенда, у 1696 годзе з абраза ў касцёле, які ўжо тады славіўся сваімі цудамі, была ўкрадзена сярэбраная шата. У тую ж ноч Казіміру Сапегу ў сне з'явілася Найсвяцейшая Панна, якая прадстала перад ім у лахманах. Прачнуўшыся ранкам і даведаўшыся пра злачынства, уражаны ваявода падараваў на абраз шату з чыстага золата. На выяве якраз і паказаны касцёл, злодзеі, што здзіраюць шату з абраза, а ўнізе – спальня ў палацы гетмана. На ложку спіць магнат, побач дрэмле варта – дваране і гайдукі. На другой частцы малюнка – працэс замаўлення шатаў у майстра. Цікава, што самога Сапегу за два гады да гэтага віленскі біскуп адлучыў ад Касцёла за тое, што яго войскі бяспраўна займалі на пастой касцёльныя маёнткі.



## Самы
## стары гадзіннік

Быць самым-самым цяжка. Заўсёды знойдзецца нехта, хто захоча аспрэчыць тваю выключнасць. Калі, напрыклад, ты кажаш, што на гарадзенскім касцёле езуітаў самы стары гадзіннік у Еўропе, абазнаны госць толькі сціпла пасміхаецца. Тады ты дадаеш: “Самы стары з захаваным механізмам супрацьвагаў”. Пасля гэтага суразмоўца пачынае глядзець з пэўнай зацікаўленасцю. “Першапачаткова гадзіннік знаходзіўся на гарадской ратушы, але пасля пажару яго перанеслі на вежу езуіцкай калегіі, а пасля – на новапабудаваны касцёл”. Госць здаецца. “Ды наогул, гэты гадзіннік зафундавала яшчэ сама каралева Бона”, – дадаеш, канчаткова сам паверыўшы ў тое, што і гадзіннік, і горад, ды і сам ты, які тут жывеш, выключныя!

## Каралеўская
## крыніца

У каралеўскім горадзе каралеўскімі бываюць не толькі замкі! Напрыклад там, дзе ручай Юрыдыка ўпадае ў Гараднічанку, недалёка ад былога палаца Валіцкіх, пра які гаворка яшчэ наперадзе, б'е невялічкая крыніца. Яе таксама называюць – Каралеўскай. Мясцовыя краязнаўцы любяць распавядаць, быццам бы ваду адсюль пілі ўладары Рэчы Паспалітай. Калі гэта і праўда, тое было вельмі даўно. Настолькі, што нават цяжка прыгадаць. Ды і ці было наогул?




# Пра чараўніка Знака

Большасць гарадзенскіх легенд жыве на старонках судовых спраў. У студзені 1691 года ў гарадскую ратушу даставілі падданага гарадзенскіх брыгітак Максіма Знака з блізкага Каханова, якога абвінавачвалі ў чараўніцтве. Супраць яго меў паказаць гарадзенскі шынкар з жонкай, на якіх Знак, быццам бы, навёў порчу. Справа павінна была разглядацца па тагачасным звычаі. Калі пасля трох катаванняў, знаходзячыся ў добрым розуме, Знак сваёй віны не прызнае, шынкар Юхальскі заплаціць грашовую кампенсацыю на карысць брыгітак. Калі ж Знак прызнае выстаўленыя супраць яго абвінавачанні, дык будзе "спалены на лом". І тут вылучыўся здольнасцямі гарадзенскі кат. Хапіла і аднаго разу, каб Знак прызнаўся, што кінуў чары на шынок Юхальскага. Больш за тое! Знак выдаў імёны сваіх саўдзельнікаў, перш за ўсё арандатаркі другога шынка – Полькі Жыдоўкі. Але найбольш страшэнным і небяспечным з усіх аказаўся нейкі чараўнік Расол з Верцялішак (Вярцелісак) – "найлепшы і старшы чараўнік". Другое і трэцяе катаванні Максіма Знака прайшлі пры "немалым натоўпе", аднак нічога новага не дадалі. Выкрыць астатніх ён згаджаўся толькі тады, калі возьмуць самога Расола. Па загаду суда чараўнік быў кінуты ў лёхі гарадзенскай ратушы. Аднак горад ужо ахапіў жах. Знайшліся нават сведкі, якія бачылі на ўласныя вочы самога Расола. Быццам бы той, з'явіўшыся ў Гародні, абышоў навокал ратушы, дзе быў зняволены Знак, пасля чаго прамовіў прысутным людзям: "Нічога з гэтага не будзе, хоць бы яго спяклі, ні ў чым не прызнаецца". На гэтым месцы актавыя дакументы раптоўна абрываюцца...



## Пётр і пушкі

Кажуць, што пасля паражэння пад Нарвай у пачатку Паўночнай вайны цар Пётр I доўгі час пазбягаў адкрытай сутычкі са шведскім каралём Карлам XII. І калі вясной 1706 года армія саюзнікаў – манархаў Рэчы Паспалітай ды Расіі – аказалася асаджанай шведамі ў Гародні, расійскі цар аддаў распараджэнне таемна пакінуць горад, адступіўшы па збудаваных пераправах праз Нёман. Праўда, узамен расейцам прыйшлося ахвяраваць абозам разам са ўсёй сваёй артылерыяй. Усяго ў Нёмане было затоплена не менш за паўсотні гармат. Затое шведы не паспелі рушыць услед за сваім праціўнікам. А ўжо праз год цар паслаў у Гародню спецыяльны атрад з мэтай вярнуць каштоўную зброю. Аднак падняць артылерыю са дна Нёмана аказалася значна цяжэй, чым адправіць яе туды. Тым больш што, як неўзабаве аказалася, частку гармат прадпрымальныя гарадзенцы ўжо выцягнулі самі і нават паспелі прадаць. З мэтай высветліць усё ж такі, у якім месцы "пахавана артылерыя", рускія арыштавалі мясцовага рабіна і трох старшын, але так нічога і не даведаліся.

## Студэнты

У кожнага – свае прывілеі! Напрыклад, студэнты яшчэ з часоў сярэднявечча адрозніваліся схільнасцю да авантур. Гарадзенскія студэнты – не выключэнне. Аднойчы навучэнцы гарадзенскага калегіума езуітаў уварваліся ў гарадскую турму і вызвалілі адтуль аднаго са зняволеных сваіх калег, раней прыгаворанага да казні. Нягледзячы на гэткае свавольніцтва, рэктар пакараў вінаватых толькі розгамі, аднак у рукі суда не выдаў.




## 40 тысяч імшаў

Нябесная бухгалтэрыя таксама патрабуе дакладнасці. У 1727 годзе гарадзенскі земскі пісар Міхал Бухавіцкі завяшчаў кляштару дамініканцаў у Сейнах 40 тысяч злотых за 40 000 святых імшаў за спачын сваёй душы. Гэта азначае па злотым за імшу. Гэтага павінна было хапіць больш чым на сто гадоў штодзённага служэння за вылікам галоўных святаў. Аднак пры выкананні завяшчання выявілася, што Бухавіцкі схітрыў. Маёнтак, які павінен быў пакрыць выдаткі на службы, аказаўся перададзены ў спадчыну нейкаму ягонаму кроўнаму. У выніку пасля амаль пятнаццаці гадоў судовай справы дамініканцы атрымалі толькі палову з адпісанай сумы, але тады скарацілі колькасць службаў у два разы…

## Кармеліты ды казарма

Манахі-кармеліты былі людзьмі сучаснымі і стараліся зрабіць свой касцёл і кляштар у Гародні не толькі максімальна прыгожымі, але і камфортнымі для жыхароў. Устаў ордэна быў строгі, манахі трымаліся аскетычнага ладу жыцця, але гаспадарка кляштара была арганізавана “на выдатна”. Манахі жылі ў кляштары, будынак якога захаваўся дасюль, а вось служба: кравец, гадзіннікавы майстар, цырульнік, кухар – разам з сем’ямі пасялілася ў камяніцы, размешчанай вышэй па вуліцы Маставой. Яе пабудавалі ў сярэдзіне XVIII стагоддзя, адначасова з узвядзеннем аднаго з самых прыгожых гарадзенскіх касцёлаў. Кляштар і касцёл кармелітаў закрылі ў 1840-х гадах. Спачатку ўлады хацелі яго перарабіць у гарадскую турму або будынак суда, але вайсковае ведамства забрала кляштар сабе і, зруйнаваўшы большую частку храма, зрабіла там казармы...



## Горшае месца на свеце

У 1693 годзе ў Гародні праходзіць чарговае пасяджэнне сейма. Французскі консул напярэдадні з горыччу пісаў пра горад Людовіку XIV, што няма горшага месца на свеце. Быццам бы ў наступства ягоных слоў ужо ў хуткім часе гэты сейм фактычна быў сарваны, а сам француз памёр проста ў Гародні, так і не дачакаўшыся аўдыенцыі ў польскага караля. "Цяпер ён будзе даваць справаздачу свайму патрону на нябёсах", – заўважыў з гэтай нагоды ў сваім дзённіку адзін з мясцовых магнатаў.

## Сфінксы Новага замка

Некаторыя з гарадскіх паданняў існуюць адразу ў некалькі абліччах, як, напрыклад, паданне пра амураў, што асядлалі сфінксаў над уязной брамай Новага замка. Хтосьці распавядае пра монстра, які па начах краў немаўлят з дамоў месцічаў, пакуль адно малое не затрымала яго да ўзыходу сонца, пасля чаго пачвара акамянела. Настаўнікі гісторыі звычайна выбіраюць байку, паводле якой сфінксы маюць твар Боны Сфорцы, той самай каралевы, што падарыла Гародні герб. Камусьці яшчэ ў дзяцінстве давялося чуць аповед пра жудасную маці, якая быццам бы збіралася пазбавіцца ад сваіх дзяцей. Аднаго за адным яна кідала іх у цёмныя воды Нёмана, але апошні з сыноў аказаўся спрытнейшы ды сам яе патапіў. Кажуць таксама, што неяк па дарозе з Варшавы кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст III заехаў у Беласток і завітаў да ўласніка горада Браніцкага. Той меў шыкоўны палац, але каралю асабліва прыглянуліся сфінксы на браме, і ён замовіў такія ж для свайго новага замка ў Гародні. Падобна нават, што адзін з тых сфінксаў мае твар самога Аўгуста III, а другі – твар ягонай жонкі. Праўда, за доўгія гады шчаслівага сямейнага жыцця кароль і каралева сталі выглядаць амаль аднолькава, таму зараз і не адрозніш, хто з іх хто.




## Падземныя хады

Таямнічыя калідоры, закінутыя падвалы, правалы ў зямлі, праз якія відаць ці то пустэчу, ці то пячору... Гісторыі пра падземныя хады пад Гародняй заўсёды выклікалі вялікую цікавасць сярод месцічаў і абуджалі самыя неверагодныя фантазіі. Яшчэ ў 1911 годзе вядомы гарадзенскі гісторык Я. Арлоўскі на пасяджэнні мясцовага педагагічнага таварыства зрабіў даклад пра правал, які ўтварыўся побач з мастом. З нагоды гэтага ў горадзе ўзніклі чуткі, што быццам тое пачатак падземнага хода праз Нёман. Арлоўскі нават спускаўся ўніз. У глыбіні склепа былі знойдзены дзверы, за якія, праўда, ён ужо не рызыкнуў заглянуць, асцерагаючыся абвалу. Гэтыя паданні пра падземныя хады будуць паўтарацца яшчэ шмат разоў, пакуль у Гародні не з'явіцца падземны горад-двайнік.

## Непрыдатная сталіца

Восенню 1752 года Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, тады яшчы дваццацігадовы юнак, быў абраны дэпутатам на Сейм і першы раз трапіў у Гародню. "Трэба ўявіць сабе гэтую нібыта другую сталіцу, – узгадваў ён ужо на закаце свайго жыцця гэты свой першы прыезд у горад, – дзе акрамя каралеўскага палаца было ўсяго толькі два каменныя дамы; усе астатнія былі драўлянымі, на першы погляд вельмі ветхія і ўбогія; што праўда, іх унутранае ўбранства прэтэндавала на пэўную раскошу, якая рабіла яшчэ большае ўражанне таму, што побач віднеліся сляды варварства і збяднення [...]. Аднак, – дадаваў Панятоўскі, – у гэтых драўляных асабняках, ці хутчэй хацінах, жылі найпрыгожанькія жанчыны; іх мужы былі вельмі гасціннымі, і ў іх дамах танчылі кожны дзень...".



# Нямы сейм

Мабыць, самае знакамітае гарадзенскае паданне – гэта гісторыя пра апошні, “нямы”, сейм Рэчы Паспалітай. У сярэдзіне 1793 года паслы сабраліся ў Гародні, каб фактычна пацвердзіць чарговы па-дзел краіны. Сейм суправаджаўся бесперапыннымі балямі, карнаваламі і застоллямі, аднак, на ўсялякі выпадак, каб паслы не разбегліся, расійскі пасол граф Якаў Сіверс загадаў нікога з горада не выпускаць. “Жыццё ў Гродне падчас сойму, – пісаў польскі даследчык, – было напоўнена нейкім вар’яцтвам. Гук танцавальнай музыкі, бразганне застольных келіхаў, звон златага, які без памяці кідалі на картачнае палатно, запаленыя на плошчах вогнішчы аховы чужаземных лагераў і затоеныя дзесьці ў кутках чыстых, беззаганных сэрцаў роспач і глухі і бяссільны боль…”. Нарэшце пад час пасяджэння 23 верасня замак быў атачаны войскамі і гарматамі, побач з якімі стаялі кананіры з запаленымі кнотамі. Аднак калі пад пагрозай гармат ад паслоў запатрабавалі падпісаць у рэшце рэшт ганебную ўмову, сейм раптам адказаў… маўчаннем. Некалькі гадзін сабраныя ў зале адмаўляліся задаволіць патрабаванні іншаземных паслоў, калі раптам адзін з паслоў выгукнуў, што “маўчанне азначае згоду”, у чым яго падтрымаў маршалак сейма, падкуплены раней праз Сіверса! Якраз у гэты час палацавы гадзіннік гучна прабіў палову на чацвёртую раніцы.




## Каралеўскі аловак

Януш Тазбір у кнізе "Silva rerum historicarum" узгадвае пра кульмінацыйны эпізод, калі надышоў момант падпісання акта згоды на перадачу польскіх земляў Прусіі. Нечакана высветлілася, што ва ўсёй палаце дэпутатаў дзіўным чынам не знайшлося чарніліцы з атрамантам. У гэты момант кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі дастаў свой асабісты аловак. Адзін з дэпутатаў упаў перад каралём на калені з лямантам і просьбаю не дапамагаць "канальям"! Аднак каралеўскім алоўкам акт быў падпісаны.

## Высокая дыпламатыя

Страчанае аднымі пераходзіць у рукі да іншых. Гэтак сталася і з Гародняй пасля падзення Рэчы Паспалітай. Праблема, як заўсёды, паўстала падчас падзелу здабычы паміж пераможцамі. У пачатку 1796 года ў горадзе распачала працу пруска-расійская дэмаркацыйная камісія, якая павінна была вызначыць новую мяжу. Раптам высветлілася, што нямецкі бок запатрабаваў аддаць ім увесь Фарштат на левым беразе Нёмана! Праўда, ужо хутка, не жадаючы сварыцца з Пецярбургам, прускія дыпламаты ў выніку выступілі з адмысловым мемарыялам, заявіўшы, што нямецкі ўрад адмаўляецца ад занёманскага прадмесця, жадаючы захаваць добрыя адносіны з Расіяй і зрабіць асабісты падарунак яе манарху. На гэта ўжо расійскія дыпламаты адказалі, што "прускі кароль не можа адмовіцца ад прадмесця, так як ён усё роўна не мае на яго права". У рэшце рэшт справа вырашылася асабістай перапіскай паміж расійскім паслом ды прускім імператарам, а ўся Гародня засталася ў складзе Расійскай Імперыі...



# Князь Цыцыянаў

Усё мае свой кошт, тым больш – свабода. Вясной 1794 года, з пачаткам паўстання ў Рэчы Паспалітай, расійскі гарнізон у Гародні стаяў як на нажах, з хвіліны на хвіліну чакаючы “смуты”. Генерал П. Цыцыянаў нават загадаў размясціць на Гарадніцы гарматы ды войска, каб трымаць месцічаў у пастраху, а тым часам расійскае камандаванне сабралася на нараду, як трэба паступіць з Гародняй. Частка афіцэраў выступіла за тое, каб разбурыць горад да аснавання, як ужо тое зрабілі ў Вільні. Усё вырашыў голас П. Цыцыянава, які быццам бы нават паабяцаў “зняць з сябе генеральскую стужку і пешшу сысці ў Маскву”, калі ад яго ўсё ж стануць патрабаваць знішчыць Гародню! Праўда, у выніку горад павінен быў заплаціць за сваё цудоўнае збавенне каля 130 тысяч польскіх злотых, велізарную па тых часах суму, трэць якой, аднак, да казны так і не дайшла, бясследна растварыўшыся ў кішэнях саміх вайскоўцаў. Тыя ж самыя злыя языкі пагаворвалі, што такім чынам сам Цыцыянаў пастараўся кампенсаваць уласныя выдаткі, панесеныя ім падчас заляцанняў да Франусі.




# Франуся

Франуся была адной з гарадзенскаіх прыгажунь. Адзін з тагачасных мемуарыстаў пакінуў нам апісанне яе выгляду падчас "рэдуты": Франуся была "апранута з празмернай модай […]. Ножкі ў яе босыя, а на ўсіх пальцах ног аздобленыя дарагімі камянямі пярсцёнкі... на ёй не было кашулі, толькі сукенка з нейкай вельмі лёгкай тканіны, паднятая на правай назе гірляндай вышэй калена, грудзі цалкам адкрытыя, зусім не аслоненыя...". Нічога дзіўнага, што расійскі генерал П. Цыцыянаў, які якраз бавіў час у Гародні ў якасці дыпламата, без памяці закахаўся ў мясцовую прыгажуню. Злыя языкі, праўда, казалі, быццам Франуся зрабілася палюбоўніцай расійскага саноўніка з ведама мужа, а само захапленне каштавала П. Цыцыянаву амаль 30 тысяч рублёў – фантастычную па тых часах суму, а разумная прыгажуня разам з мужам улажыла гэтыя грошы ў каштоўнасці і мэблю.





# Легенда пра падманутых майстроў

Звычка хаваць праблемы за прыгожымі фасадамі таксама мае ў Гародні даўнюю традыцыю. Калі, напрыклад, Антонію Тызенгаўзу спатрэбіліся кваліфікаваныя майстры для яго мануфактур на Гарадніцы, прадстаўнікі гарадзенскага старасты аб'ездзілі ў пошуку "фабрыкантаў" усю Нямеччыну, Італію ды Францыю. Пры гэтым, як адзначае адзін з гісторыкаў, "толькі абяцанне залатых гор праз Тызенгаўза было ў стане прывабіць у глухую… пушчу разумных ды спрытных іншаземных майстраў ды фабрыкантаў". Існуе легенда, быццам спачатку тыя паслалі ў Гародню свайго прадстаўніка, якому тут паказалі цэлую вуліцу прыгожых мураваных дамоў, пабудаваных спецыяльна для замежных майстроў. Зразумела, што наіўныя еўрапейцы адразу спакусіліся і пачалі збіраць рэчы, не ведаючы, што ў дамоў каменнымі былі толькі фасады, за якімі хаваліся маленькія драўляныя хаткі. Аднак было ўжо запозна! Патрапіць на Гарадніцу было лягчэй, чым адтуль пасля выбрацца.





# Басняцкія дамкі

Цікава, што тыя камяніцы калісьці яшчэ называлі "басняцкімі дамамі". Справа ў тым, што Антоній Тызенгаўз прывёз у горад баснякоў – жорсткіх мусульманскіх наёмнікаў, якія павінны былі сачыць за парадкам у гарадзенскай эканоміі. Абавязкі камenданта "гарадзенскага эканамічнага гарнізона" выконваў інжынер-маёр Францішак Фроеліх. Менавіта пад ягоным кіраўніцтвам знаходзіліся "гвардзейцы" падскарбія – "басняки". Гэтак называлі жаўнераў лёгкай кавалерыі. Складаліся яны з жыхароў Босніі, Албаніі, Харватыі, часткі сучаснай Малдовы. "Баснякі" служылі дзеля грошай, былі адданыя свайму гаспадару, каб толькі плацілі. Асабістая гвардыя Тызенгаўза выконвала ўсе ягоныя загады… Магчыма, што менавіта тут, у гэтых камяніцах, ахоўнікі–"баснякі" і жылі. Сёння, праўда, з амаль дваццаці дамкоў захаваўся толькі адзін па цяперашняй вуліцы Ажэшкі, колішняй Раскошы.



## Апошнія рыцары

Дарэчы, той жа Фроеліх па загаду падскарбія стварае на Гарадніцы кадэцкую, ці, як яе яшчэ называлі, рыцарскую школу. Згодна рэгламенту, акрамя вайсковай справы тут выкладалі малюнак, геаграфію, геаметрыю, алгебру, нямецкую мову ды… фармаванне характара – гэта значыць каліграфію (амаль як у японскіх самураяў!). З уласна вайсковых дысцыплін былі ўрокі фехтавання шпагаю, палашом ды мушкетам з багінетам. Хутчэй за ўсё, пры навучанні выкарыстоўваўся гэтак званы “ланкастарскі метад”, калі вучні старэйшых класаў выкладалі асобныя прадметы для малодшых. Саміх вучняў набіралі з ліку дзяцей шляхты Гарадзенскага павета – з весак Ласосна, Вялікія Эйсманты, Саламянкі ды іншых. На жаль, напярэдадні паўстання Касцюшкі ўмовы ўтрымання вучняў тут сталі настолькі жахлівымі, што навучэнцаў перавялі ў Полацак…

## Няўдзячныя госці

“Гэта нагадвае разбуранае места: амаль бязладная маса хат, дамоў, палацаў, якія прыходзяць у заняпад, а ад сваёй ранейшай велічнасці захоўваюць толькі прыгожыя дзверы”, – такім было ўражанне ад Горадні ангельскага падарожніка Уільяма Кокса, які наведаў горад у 1778 годзе. Цікава, што сам Антоній Тызенгаўз пераконваў ангельца яшчэ на нейкі час застацца ў горадзе, а нехта з атачэння гарадзенскага старасты нават загадаў употай работнікам, якія рамантавалі экіпаж госця, працаваць як мага павольней. “І хаця мы заўважылі гэтыя крокі, – узгадваў пазней ангелец, – тым не менш зрабілі выгляд, быццам нічога не адбылося. А каб не ствараць нікому нязручнасці, мы вырашылі выехаць з горада ноччу, не папярэджваючы...”.




# Каралеўскі землямер

У афіцыйных дакументах Іосіф Маркевіч значыўся ў якасці "геаметра Ягонай Каралеўскай Вялікасці" ды яшчэ быў віленскім каморнікам. А на Гарадніцу, мабыць, яго прывабілі велічнасць замыслаў ды абяцаныя вялікія заробкі. Дастаткова хутка, аднак, віленскі каморнік назаве сваю новую працу "ярмом бясконцых абавязкаў"! Сярод іншага на мапе Гарадзенскай эканоміі землямер пакінуў, хутчэй за ўсё, свой уласны партрэт. У левым ніжнім вугле, побач з апісаннем мапы, мы бачым сельскі краявід. Побач, у цяні дрэва – тры постаці ў акружэнні вымяральных інструментаў: тэадаліта, компаса, секстанта. Адзін з іх, у цэнтры, з паднятай угару рукой, і ёсць, хутчэй за ўсё, Іосіф Маркевіч. Побач можна прачытаць таямнічы надпіс па-лацінску: "Dulcius quies falsis", – што ў вольным перакладзе гучыць так: "Адзіны адпачынак ад хлусні". Некаторыя з гісторыкаў звязваюць яго са складанымі адносінамі паміж картографам і ягоным працадаўцам, які не спяшаўся з аплатаю абяцаных ганарараў. Існуе і іншая версія, згодна якой на мапе намаляваны Антоній Тызенгаўз, а ўзгаданы вышэй допіс трэба тлумачыць як "Адзіны адпачынак для лгуна" і адносіцца ён уласна да самога падскарбія!

## Зменлівы лёс

На вайне, якая цягнецца больш за дваццаць год, усё можа здарыцца. Таму, калі рускія і шведскія палкі сышліся ў сутычцы на вуліцах Гародні, у палон па чарзе ледзь не трапілі расійскі цар ды шведскі кароль! Спачатку, усяго праз некалькі гадзін пасля таго, як з Гародні з'ехаў Пётр I, у горад, адкінуўшы амаль двухтысячны рускі заслон, імкліва ўварваўся Карл XII. Пасля чаго, даведаўшыся, што шведаў зусім няшмат, цар загадаў войскам вярнуцца і зараз ужо прыйшлося адступіць Карлу XII. Прычым на дапамогу шведам прыйшлі… самі гарадзенцы. У выніку, адбіўшыся ад рускіх, шведы ўзламалі падвалы езуіцкага калегіума, дзе захоўваліся запасы ежы і пітва, ды "перапіліся да смерці".

## Карыснае vs Прыемнае

Гісторыя з затопленай у Нёмане падчас Паўночнай вайны расійскай артылерыяй мела свой нечаканы працяг. Накіраваны праз некалькі гадоў у Гародню падымаць гарматы са дна ракі князь Галіцын, карыстаючыся выпадкам, узяў у закладнікі па тры святары з кожнага гарадзенскага манастыра і запатрабаваў выкуп! Салдаты не адставалі ад свайго камандзіра і грунтоўна спустошылі аптэку і бібліятэку айцоў езуітаў. У давяршэнне да ўсяго, выязджаючы з горада, расейцы выкралі з бурсы двух музыкаў, якіх разам з гарматным абозам вывезлі ў Маскву.

 

# Крывавы навет

Сярод забабонаў адносна яўрэяў адным з найбольш трывалых заставаўся міф пра выкарыстанне ва іўдаізме ў рытуальных мэтах хрысціянскай крыві, гэтак званы “крывавы навет”. Гэтак у канцы XVIII стагоддзя гарадзенскі равін Лазар Вержбалоўскі быў публічна чацвяртаваны на старым Рынку па абвінавачванні ў рытуальным забойстве – атручванні дзвюх хрысціянскіх дзяўчынак, – пасля чаго часткі ягонага цела былі выстаўлены па чатырох канцах горада. Апошні з вядомых працэсаў, звязаных з “крывавым наветам” у Гародні, меў месца ажно вясной 1816 года. Якраз напярэдадні Пасхі ў мясцовую паліцыю звярнуўся мешчанін Адамовіч, які заявіў пра знікненне сваёй дачкі Марыяны, а ў хуткім часе каля горада было знойдзена цела дзяўчынкі. Падазрэнне адразу пала на суседа Адамовічаў – Шолама Лапіна, які адразу быў арыштаваны. Справа цягнулася некалькі год і нарэшце была спынена толькі па патрабаванні імператара.



## Святы Клімент

Сярод розных каштоўнасцей касцёла Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі брыгіцкага кляштара асаблівай увагі заслугоўвае адна рэліквія – частка мошчаў Святога Клімента. Праз шкляныя "вокны" невялікай драўлянай дамавіны кожны можа ўбачыць чэрап, фрагменты рук і косці святога, убраныя ў залацісты плашч. У студзені 1768 года мошчы Св. Клімента былі перададзены ў дар самім Папам Рымскім Кліментам XIII падчас асабістай аўдыенцыі земскаму пісару гарадзенскага павета Каралю Літавору Храптовічу – "дзеля найбольшай хвалы Усемагутнага Бога і гонару Яго святых". Праўда, сам Храптовіч, як палітычны злачынца, змог вярнуцца ў Гародню толькі праз трынаццаць гадоў. Тады ж адбылося і ўрачыстае ўнясенне рэліквій Св. Клімента ў касцёл сясцёр брыгітак. З гэтага часу вернікі кожны год ушаноўвалі Св. Клімента як аднаго з заступнікаў горада.

## Дом масонаў

Гарадзенцы, сярод іншага, ганарацца тым, што захоўваюць чужыя таямніцы. Гэтак, плануючы будаўніцтва Гарадніцы, А. Тызенгаўз вымушаны быў звярнуцца да паслуг архітэктара з Вероны Джузэпэ Сака. Той, аднак, не толькі вывучаў фартыфікацыю і архітэктуру ва ўніверсітэце, але быў сапраўдным "вольным мулярам" – гэта значыць сябрам таемнай масонскай ложы. Сака прывёз на Гарадніцу новую, аўтарскую архітэктуру ды пры нагодзе пабудаваў уласную рэзідэнцыю, якую месцічы пазней так і называлі між сабою: "Дом масонаў". Мабыць, для канспірацыі…




## Гарадзенскі тэатр

Кажуць, быццам тэатр пачынаецца з вешалкі. Гарадзенскі тэатр, аднак, пачынаецца з анекдота пра расійскага імператара Аляксандра I, на якога падчас прадстаўлення абваліўся тынк. У чэрвені 1802 года цар адведаў горад ды нават прысутнічаў на адмысловым прадстаўленні ў свой гонар. Паказвалі "Паляванне Генрыха IV", а на сцэне выступала бліскучая Саламея Дэшнер. Спектакль, нягледзячы на прыкры выпадак, напэўна, вельмі спадабаўся высокаму госцю, калі ён на дзесяць гадоў перадаў тэатр у карыстанне акцёрам. На жаль, у дамове не агаворвалася справа рамонту будынка, а таму прадстаўленні і надалей адбываліся пад дзіравым дахам.

## Кароль Вестфаліі

Сцвярджаюць, што гэта гарадзенскія жанчыны прывялі да згубы войска Напалеона. 16 чэрвеня 1812 года ў горад уступілі ўланы князя Панятоўскага, а ўжо праз дзень у Гародню прыбыў і сам брат імператара кароль Геранім Вестфальскі, які размясціўся ў палацы віцэ-губернатара Максімовіча, дзе амаль адразу пачаў... святкаваць у атачэнні мясцовых прыгажунь. Замест таго, каб спяшацца далей уздагон за адступаючай рускай арміяй, французы ў палацы спраўлялі бесперапынныя святы і балі. Калі нарэшце вестфальскі кароль змог адарвацца ад танцаў, Баграціён быў ужо далёка. "Усе плады маіх манеўраў і выдатныя выпадкі, якія магчыма толькі ўявіць сабе на вайне, страчаны ў выніку гэтага дзіўнага забыцця..." – пісаў Напалеон у роспачы! Ці так было насамрэч, цяжка сказаць, затое сёння ў рэстарацыі, змешчанай у былым палацы, можна пакаштаваць дэсерт "Геранім Банапарт".



## Дзяніс Давыдаў і гарадзенцы

У канцы 1812 года аўстрыйцы з ліку Вялікай арміі, якія павінны былі абараняць горад, здалі яго без бою ў рукі расійскага гусара Дзяніса Давыдава, якога мясцовае яўрэйскае насельніцтва сустракала як сапраўднага вызваліцеля. Гэтага нельга было сказаць пра польскую частку гарадзенцаў, перад гэтым выразна прыняўшых бок Напалеона. У выніку Давыдаў урачыста ўехаў у Гародню пад… габрэйскім балдахінам. Пасля гэтага ён на плошчы сышоў з каня і загадаў ударыць у паліцэйскія барабаны. Калі нарэшце ўсе сабраліся, Давыдаў выступіў з кароткай урачыстай прамовай: “...Я ўвайшоў сюды праз мірную дамову, а мог тое ж зрабіць сілаю зброі... Адзін стрэл – і гора ўсяму гораду! Нявінныя загінуць з вінаватымі... Усё – у прах і ў попел!”. Пасля гэтага загадаў польскім жыхарам Гародні апрануцца ў чорнае адзенне ў знак жалобы!

## Губернатар пад фартухом

Цяжка сказаць, якім чынам былы дырэктар першай маскоўскай гімназіі Іван Шпэер узначаліў Гарадзенскую губерню, ды яшчэ напярэдадні чарговага паўстання, калі справа даходзіла да сапраўдных вулічных маніфестацый. “Шаноўны Шпэер, – пісаў адзін з яго сучаснікаў, – меў вялікія вартасці і як чалавек наогул, і, уласна, як педагог, аднак ужо ў якасці губернатара ён апынуўся не па тых цяжкіх абставінах...”. У выніку за гэтую сваю нерашучасць у 1861 годзе ён і быў зняты з пасады. У дзень ягонага выезду з Гародні ў вялікай карчме на Пагулянцы, каля якой і павінен быў праехаць ужо былы губернатар на шляху да Вільні, сабраўся вялікі натоўп месцічаў, плануючы зрабіць яму ганебнае развітанне. Аднак задумка не ўдалася: нехта папярэдзіў Шпэера – і гарадзенскі спраўнік Магнус вывез яго з горада акольным шляхам, пад фартухом сваёй брычкі. Праўда, сама гісторыя з уцёкамі надоўга захавалася ў памяці гараджан.

 

## Мураўёў-вешальнік

Кожнага Гародня адорвае па-рознаму: некаму дае каханне ды натхненне, некаму – кар'еру ды чыны. А некаму магла падараваць мянушку, як, напрыклад, чарговаму гарадзенскаму губернатару Міхаілу Мураўёву. Будучы "людаед", як назваў яго Герцэн, пачынаў сваю кар'еру зусім не на ваеннай ніве. Ва ўзросце всего трынаццаці гадоў ён паступіў у Маскоўскі ўніверсітэт на фізіка-матэматычны факультэт! У шаснаццаць гадоў удзельнічаў у Барадзінскай бітве і быў паранены ядром у нагу. Пазней М. Мураўёў быў арыштаваны па справе дзекабрыстаў, але быў апраўданы па ўсіх артыкулах. Ужо неўзабаве новы губернатар прыдбаў сабе рэпутацыю "праўдзіва рускага чалавека, бязлітаснага знішчальніка крамолы". Шырока вядома гісторыя пра тое, як Мураўёў, даведаўшыся, што адзін з мясцовых жыхароў запытаўся ў некага з чыноўнікаў, ці не з'яўляецца новы губернатар сваяком таго самага дзекабрыста Мураўёва, які быў павешаны, Мураўёў ускіпеў гневам і сказаў: "Скажыце гэтаму ляху, што я не з тых Мураўёвых, што былі павешаны, а з тых, якія вешаюць!". Фраза, кінутая ў гарачлівасці, ужо вельмі хутка набыла злавесны сэнс.



## Два д’яблы

“Добра там, дзе нас няма”. Нават д’яблы тое ведаюць. Вось і ў ананімнай паэме сярэдзіны XIX стагоддзя “Два д’яблы” гаворка вядзецца пра нячысцікаў, якіх Сатана паслаў спакушаць людзей выпіўкай. Аднаго – у Віцебск, другога – у Гародню:

Сатане было заўгодна
З пекла нас дваіх паслаць:
Цябе – ў Віцебск, мяне – ў Гродна
Душы п’яніц самушчаць.

Аднак калі першаму пашчасціла – “дзе ні ўзгляну – ўсюды п’яны”, дык з Гародні другі чорт амаль вырваўся жывы:

Абшарпаны, абадраны,
Без рагоў і без хваста,
У юсе морда, ўсюды раны –
Бес кульгае з-за куста.

Справа ў тым, што ў 1850-я гады на Гарадзеншчыне распачынаецца арганізаваны праз каталіцкіх святароў супраціў п’янству ды ўтвараюцца таварыствы цвярозасці. Вось чорту і не пашчасціла…

## “Пошце не наліваць”

У кожнай прафесіі існуюць свае цяжкасці. І паштальён – не выключэнне. У сувязі з тым, што паштальёны, якія накіроўваліся з казённымі пасылкамі ды лістамі, неаднаразова пакідалі свае рэчы ў прыдарожных корчмах, гарадзенскі губернатар выдаў загад гаспадарам тракціраў ды корчмаў з забаронай адпускаць гарэлку паштальёнам падчас выканання імі службовых абавязкаў…




## “Зосенька”

Аднойчы, падчас паказу фільма ў кінатэатры “Зосенька” гарадзенскі паліцэйскі Г. Неўман спыніў сеанс, запатрабаваўшы вынесці з залы лішнія крэслы і выдаліць выпадковых гледачоў – сярод апошніх аказаліся дзеці ды нават асобы з… сабакамі. Гэты выпадак выклікаў скандал на старонках мясцовага друку. У адказ паліцыя адгукнулася на здарэнне вялікім рапартам, са зместу якога вынікала, што паліцэйскі паступіў згодна з загадам, а ўся адказнасць за непаразуменне ляжыць на гаспадарах кінатэатра...

## Сэрца маршала

Упершыню ў якасці дзейнага кіраўніка дзяржавы Юзаф Пілсудскі прыязджаў у Гародню вясной 1919 года, пасля чаго ягоныя візіты сюды набываюць амаль рэгулярны характар. Ён неаднаразова заязджаў сюды па вайсковых справах, аднак куды часцей гэта адбывалася выпадкова, па дарозе ў Вільню ці на адпачынак у Друскенікі. Існавала нават паданне, што маршал з’яўляўся тут інкогніта ды наведваўся на стары рынак, каб паразмаўляць пра справы з мясцовымі жыхарамі. Іншая легенда ўзгадвае, што едучы цягніком, ён заўсёды нагадваў свайму ад’ютанту абудзіць сабе перад гарадзенскім чыгуначным мостам, каб нацешыцца нёманскімі краявідамі. Бадай што ў апошні раз Гародня сустракала Ю. Пілсудскага ў самым канцы мая 1935 года, калі праз горад праязджаў жалобны цягнік на Вільню, які вёз сярэбраную урну з сэрцам маршала.





# Людзі ды кветкі з-над Нёмана



# Ажэшка
# ды Багушэвіч

“Малодшая сястра Адама Міцкевіча”, “гарадзенская самотніца”, “стражнічка крэсаў” – гэта ўсё пра яе. Постаць Ажэшкі для Гародні цяжка пераацаніць. У доме па тагачаснай Садовай збіраліся ўсе тыя, хто імкнуўся да ўвасаблення шчырых нацыянальных ідэалаў, і не толькі польскіх. “Некалькі тыдняў таму, – паведамляла пісьменніца ў адным з лістоў, – у мяне гасціў… пан Багушэвіч. Вельмі прыемна правяла з ім некалькі гадзін. Чытаў мне сваю беларускую паэзію. Нават перапісаў для мяне адзін верш, таксама па-беларуску. На самой справе гэта вельмі ладныя рэчы; яны маюць нейкую сваю асаблівую прывабнасць, і мне вельмі цікава зразумець іх і пасмакаваць...”. Польская пісьменніца нават збіралася пачытаць гэтыя вершы сваім сялянам – яе цікавіла, ці зразумеюць тыя мову Багушэвіча…

## Прататып

Аднойчы ў госці да Элізы Ажэшкі прыехала Марыя Канапніцкая. Пайшоўшы гуляць па Гародні, яна ўбачыла ў акне псіхбальніцы, што мясцілася ў самым цэнтры горада, сімпатычную жанчыну, якая гучна спявала. Вярнуўшыся да Ажэшкі, Канапніцкая расказала ёй пра ўбачанае. На гэта пісьменніца адказала: “Ведаю, менавіта з яе я спісала вобраз галоўнай гераіні сваёй аповесці «Хам»”…





## Ажэшка
## і жыды

Беднае жыдоўскае насельніцтва Гародні называла дом Ажэшкі "домам Аўраама", які, паводле падання, быў адчынены са ўсіх бакоў, каб жабракі маглі заўсёды зайсці ў яго. Калі пісьменніца пры канцы жыцця моцна занемагла, гарадзенцы пасцялілі на брукаванку каля яе дома салому. Каб грукат колаў не перашкаджаў хворай…

## Ажэшка і рэдакцыя "Северо-Западной жизни"

У доме Бібліна па вуліцы Садовай у 1912 годзе мясцілася рэдакцыя газеты "Северо-Западная жизнь", якая прытрымлівалася пазіцый рускага нацыяналізму. Па ўспамінах І. Саланевіча, чый бацька быў яе рэдактарам, ім прыйшлося абараняць газеты ад "яўрэйскіх рэвалюцыянераў", прычым аднойчы справа дайшла да стральбы. Ужо пасля Другой сусветнай на месцы былой камяніцы, дзе працавала рэдакцыя, паставілі бюст Элізы Ажэшкі, погляды якой, мякка кажучы, былі супрацьлеглымі пазіцыям бацькі ды сына Саланевічаў.



## Гарадзенскі фаталізм

Тое, што пісьменніца шчыра любіла горад і яго наваколле, добра відаць праз яе творы. Аднак і ў каханння ёсць адценні. Вось і Эліза Ажэшка аднойчы адкаментавала ў адным са сваіх лістоў: “Гародні выключна не шанцуе: узамен аднаго Баторыя, які тут памёр, у ім жыве некалькі тысячаў дурняў…”. Цікава, гэта як жа “дасталі” месцічы пісьменніцу, што яна гэткае напісала. Пазнаю любімых гарадзенцаў!

## Партрэты Ажэшкі

Невядома, хто будзе тваім суседам на тым свеце. Але яшчэ пры жыцці Э. Ажэшкі мастак Ленц намаляваў адразу два яе партрэты: адзін быў уласнасцю сям’і Абрэмскіх, з якой пісьменніца сябравала, тады як другі пазней упрыгожваў гарадзенскую гарадскую ўправу. Цікава, што побач з выявай Ажэшкі там вісеў у залатой раме партрэт былога губернатара Пятра Сталыпіна, набыты горадам за 175 рублёў у кіеўскага мастака Маркава. Захавалася нават паштоўка з пасяджэння былой управы ўжо з часоў першай нямецкай акупацыі, дзе за плячыма кайзераўскага афіцэра добра бачны боты губернатара ды сукенка пісьменніцы. Але і Сталыпіну таксама не пазайздросціш: сёння “па суседству” з дошкай у ягоны гонар на палацы віцэ-губернатара вісіць такая ж дошка, але ў знак пашаны… Фелікса Дзяржынскага.




## Нахумка

Іншай легендарнай постаццю ў горадзе быў рэбе Нахум Каплан, ці, як яго яшчэ называлі, Нахумка. Выконваючы запавет жыдоўскага цадзіка, ён разам са сваёй сям’ёй вёў напаўжабрацкі лад жыцця, але пры гэтым збіраў вялізарныя ахвяраванні на дапамогу бедным. Тым, хто пытаўся, дзе ён знаходзіць сілы ўвесь час працаваць дзеля іншых, рэб Нахум адказваў: “Я не хачу згубіць барыш, бо дабрачыннасць – мой гандаль”. Пры гэтым у адносінах да заможных яўрэяў Нахумка мог быць даволі “настойлівым”. Кажуць, што аднойчы, калі нейкі багаты чалавек даў яму аплявуху за нахабства, Каплан запытаў: “Гэта для мяне, а што для бедных ды галодных?”.

## Шабат

Аднойчы, праходзячы па Школьнай вуліцы, Нахумка пагрукаў у вакенца беднага рамесніка, што прыпазніўся за работай. Сказаўшы яму, што пара ўжо закончыць працу, наш знаёмы рушыў далей, але пачуў злосныя словы, кінутыя яму ў спіну жонкай бедняка: “У яго ўжо шабат, а мне няма на што нават набыць свечку!”. У тую ж хвіліну ён вярнуўся назад, зноў паўтарыў: “Шабат!” – і, кінуўшы ў вакенца купюру, знік.

## Дарагі госць

Ведаючы, што многія з салдат-яўрэяў, якія служылі ў Гародні, не маюць магчымасці выканаць прадпісаныя іўдаізмам тры суботнія трапезы, Н. Каплан узяў на сябе складаную місію размеркавання салдат па сем'ях іх адзінаверцаў. Казалі, што адзін заможны яўрэй кожны раз на прапанову Н. Каплана запрасіць да сябе ў шабат салдата адказваў, што ў яго вячэрае бедны сваяк. Дабрачынец здагадваўся, што міфічны сваяк – толькі адгаворка сквапнага суседа, і таму вырашыў яго правучыць. Вечарам перад святам Н. Каплан прыйшоў да яго і папрасіў дазволу правесці святочную вячэру ў яго сям'і. Чалавек узрадаваўся, бо прымаць праведніка ў сваім доме на свята – вялікі гонар, але здзіўлена запытаўся: "Чаму шаноўны рэб не хоча ў такі дзень раздзяліць трапезу з уласнай сям'ёй?". "Маеце рацыю, так будзе лепш, але я пакіну вам замену," – адказаў той і правёў у хату некалькі салдат. Пасаромлены яўрэй больш ніколі не адмаўляўся ад гасцей на шабат.

## Вялікі куш

Аднойчы вечарам Н. Каплан апынуўся ў заможным яўрэйскім доме, дзе ішла буйная гульня ў карты і на стале ляжаў ужо вялікі пачак грошай. Нечакана для прысутных са словамі: "Панове, я выйграў!" – Нахум згроб грошы ў свой мяшэчак для ахвяраванняў. Маладыя людзі не толькі не абразіліся, але дадалі яшчэ значную суму, дзякуючы, што ён напомніў ім ісціну: у шчасці заўсёды памятай пра тых, хто зараз у нястачы. Наколькі вялікім аўтарытэтам карыстаўся Нахум у горадзе, стала відавочна, калі правесці цела шаноўнага рэбе ў апошні шлях, на могілкі, прыйшла амаль палова Гародні! Нават Эліза Ажэшка ўвекавечыла памяць аб Нахуме Каплане ў навэле "Дай кветку"…




## Доктар Бянецкі

У гэты самы час адной з самых каларытных асоб у медыцынскім свеце горада быў доктар Бянецкі. Беднякоў ён лячыў задарма, а з багатых браў вялікія ганарары. Да таго ж дазваляў сабе несамавітыя ўчынкі, як, напрыклад, пасадзіў аднойчы гарадавога ў бочку з півам. На пахаванне Бянецкага сабралася болей за тры тысячы чалавек, а ў міжваенны час ягоным імем была названа адна з вуліц. Пасля Другой сусветнай, аднак, назву прыбралі (паводле складзенай кіраўніцтвам гарадзенскага музея інфармацыйнай запіскі ў гродзенскі гарвыканкам: “Бянецкі – урач-філантроп, дамаўласнік. Нічым сябе не праявіў. Брат яго супрацоўнічаў з немцамі...”).

## Доктар Беклямішаў

Да нашага часу захавалася шмат гісторый з жыцця гарадзенскіх лекараў. Адна з іх – пра Мікалая Беклямішава, які паступіў на службу старшым урачом гарадзенскага акружнога шпіталя і вельмі хутка яго ўзначаліў. Аднойчы ўначы Беклямішава тэрмінова выклікалі да хворай, якая страціла прытомнасць. Калі ён прыбыў на месца, дык застаў наступную сцэну: збялелы заклапочаны муж, перапалоханыя дзеці, прыслуга мітусіцца навокал. Аднак ужо нават пасля агульнага агляду ўрач зразумеў, што хворая на самой справе звычайная сімулянтка. Тады Беклямішаў загадаў усім выйсці, а калі застаўся з “пацыенткай” сам-насам, адвесіў ёй шчырую аплявуху. Жанчына ўскочыла і стала абурацца: “Ды як Вы смееце!..”, – на што Беклямішаў спакойна і ветліва адказаў: “Вельмі рады, што Вам ужо лепш і не спатрэбіцца паўтараць лячэнне!”.

# Міхал Валіцкі

Адзін з самых адметных авантурыстаў, амаль сучаснік знакамітага Каліостра, яго сапраўднае прозвішча было не менш гучным, чым тое, пад якім ён увайшоў у гісторыю – Міхал Міцкевіч. Спачатку Міхал вучыўся ў мінскіх іезуітаў, пасля ў Магілёве, працаваў віцэ-рэгентам у мінскіх судах, аднак такое жыццё хутка надакучыла маладому чалавеку. Яшчэ з дзяцінства маючы схільнасці да розных прыгодаў, ён кідае надакучлівыя заняткі і пераязджае ў Кракаў. Тут малады шляхціц без асаблівых заняткаў хутка асвойвае азы гульні на більярдзе, дасягнуўшы ў гэтым вялікіх поспехаў. Аднaчасова ён становіцца выключным гульцом у карты. Вялізарныя картачныя выйгрышы дазволілі Міхалу Міцкевічу выкупіць у ваяводы Б. Валіцкага ягонае прозвішча, тады як месца кароннага падстольнага наваяўлены Міхал Валіцкі выйграў у карты, а тытул графа набыў падчас паездкі па Італіі. На нейкі час ён становіцца фаварытам самой французскай каралевы Марыі Антуанеты, выконваючы сакрэтныя і далікатныя просьбы каралеўскай сям'і! Аднак тут пачалася Вялікая французская рэвалюцыя, і пасля дваццаці год М. Валіцкі зноў вяртаецца ў Рэч Паспалітую. Свае апошнія гады жыцця ён правёў паміж палацамі ў Вільні ды Гародні. У горадзе, у доме сям'і Касцялкоўскіх калісьці вісеў стары партрэт графа. Гэта быў вялікі холст, на якім Валіцкі быў намаляваны ва ўвесь рост пасярод свайго кабінета. Ён сядзеў у крэсле за сталом, апрануты ў багаты французскі кафтан; перад ім стаяў расчынены ларэц, напоўнены каштоўнымі камянямі, а ў руцэ былі ніці каштоўных брыльянтаў, якімі фантастычны граф быццам бы задуменна гуляў. Дарэчы, былы палац Валіцкіх захаваўся да нашых дзён па сучаснай вуліцы Горкага, толькі зараз тут – епархіяльны падворак…




# Легенды старога падвор'я

Сярод легенд архіерэйскага дома, таго самага былога палаца Валіцкіх, існавала і гэткая, быццам пад тынкам тут захаваліся старыя фрэскі з выявамі святых. Як тое не аднойчы бывала ў Гародні, легенда аказалася праўдай…

## Ксёндз Фардон

У верасні 1915 года падчас баёў паміж расійскімі ды нямецкімі войскамі ксёндз мясцовага касцёла Мельхіёр Фардон выратаваў сябраў добраахвотнага пажарнага таварыства, сярод якіх былі яўрэі, палякі, беларусы, ад непазбежнай смерці. Справа ў тым, што пажарныя працягвалі несці сваю варту на каланчы і пазней былі западозраны нямецкімі вайскоўцамі ў дыверсіі – быццам бы з вежы давалі сігналы расійскай артылерыі! Пажарных арыштавалі і адправілі да муроў францысканскага кляштара, каб там у хуткім часе расстраляць. Даведаўшыся пра гэта, айцец Мельхіёр пабег да нямецкага афіцэра і прапанаваў сабе замест няшчасных, тлумачачы, што пажарныя ні ў чым не вінаватыя, а кожны з іх мае жонак ды дзяцей. Уражаны гэткім учынкам, афіцэр вызваліў арыштаваных…

## Помнік Тызенгаўзу ў Фарным

У паезуіцкім касцёле недалёка ад алтара Святога Казіміра можна пабачыць помнік былому падскарбію, зроблены львоўскім скульптарам Томашам Дукасам. На ім выява кабеты з залачонай бронзы і бронзавы медальён з бюстам Тызенгаўза. Паставіла яго адна з нашчадкаў – графіня Марыя Пшэздзецкая з роду Тызенгаўзаў у другой палове XIX стагоддзя. Першапачаткова помнік планавалася ўсталяваць у горадзе на адным з пляцаў, але ў сувязі з забаронай з боку мясцовых улад яго ўсталявалі ў касцёле…

## Памяць пры жыцці

Адным з найлепшых майстраў надмагільных помнікаў у Гародні лічыўся сын шляхціца з Ваўкавыскага павета майстар Баляслаў Шышкевіч. Яго працы былі настолькі добрыя, што канкурэнты з ліку гродзенскіх муляраў падалі скаргу на яго з патрабаваннем, каб ён уступіў у іх цэх, маўляў, праца скульптара падобная да працы муляра. Шышкевіч абвергнуў абвінавачанні ў свой адрас ды нават за свае заслугі атрымаў званне ганаровага грамадзяніна горада. На жаль, майстар хутка памёр ад сухотаў і быў пахаваны ў запраектаванай ім самім магіле. Гэта фамільны склеп у памяць не толькі самога майстра, але і яго сястры і бацькоў, якія спачываюць, праўда, у іншых месцах.




## Помнік
## былога рэстаратара

Гаспадар вядомай у міжваенны час у горадзе цукерні *Леанард Шыпоўскі* акрамя таго, што трымаў па вуліцы Паштовай (Орліч-Дрэшара) адну з найлепшых кавярняў, яшчэ і прымаў актыўны ўдзел у грамадскім і спартыўным руху. Напрыклад, у 1925 годзе на сваім Indian ён заняў другое месца падчас гонак на матацыкле. Памёр ужо пасля Другой сусветнай і пахаваны на каталіцкіх могілках, прычым надмагільная пліта была зроблена са століка з яго былой кавярні.

## Лесвіца на
## Завяршчызну

Яшчэ і сёння на вуліцу Завяршчызна можна патрапіць па старой гранітнай лесвіцы, не падобнай ні на адну іншую. Яна акуратна выкладзена каменем, са сцёкам для дажджавой вады. Існуе легенда пра тое, што лесвіца гэта была пабудавана ў гады вайны з надмагільных пліт з габрэйскіх могілак. Лесвіца ўжо грунтоўна пашліфавана тысячамі ног, якія прайшлі па ёй, але кожны раз, ступаючы на гэтыя гладкія ад часу камяні, на секунду нібы заміраеш, успамінаючы старую легенду...





# Доўгая, доўгая дарога...

## Зялёны, але цухне

“Водары Гародні”, – з гэткімі словамі мая жонка зачыняе ўвечары вокны нашай кватэры. А ў міжваенны час пра наш горад казалі: “Зялёная, але – смуродзіць (цухне)”. Справа ў тым, што ў Гародні было шмат сквераў ды паркаў, але адсутнічала каналізацыя, а сцёкі выліваліся ўпрост на вуліцы, адкуль яны траплялі ў Гараднічанку, якая нават пазней насіла адпаведную назву – Ванючка. У выніку заказ на эскіз праекта каналізацыі быў накіраваны інжынеру Веславу Кнаке, аднак прапанаваны план аказаўся занадта дарагім для горада. Тады ў 1934 годзе было вырашана пачаць будаваць каналізацыю ў некалькі этапаў. Пасля гэтага пахі Гародні трошкі палепшыліся, але, як аказалася, не надоўга…

## Справа пекараў

Цяжка ісці ў ногу з часам. Аднойчы гарадзенскі стараста выдаў распараджэнне аб закрыцці тых гарадскіх пякарняў, якія знаходзяцца ніжэй узроўню вуліцы ці падворка. Тлумачылася тое перш за ўсё тагачаснымі санітарнымі нормамі. Але рапатам аказалася, што тады ў горадзе будуць зачынены кожныя дзевяць з дзесяці пекарняў. У выніку мясцовы самаўрад звярнуўся да старасты з просьбаю адкласці мадэрнізацыю гарадскіх пякарняў да часу “паляпшэння гаспадарчай сітуацыі ў краі”.

 

# “Бочкавозы” і Virtuti militari

Выраз “пахі мінулага” гучыць дастаткова двухсэнсоўна, калі гаворка ідзе пра гісторыю камунальных службаў. Справа ў тым, што яшчэ з царскіх часоў адкіды з гарадскіх прыбіральняў вывозіліся на суседнія з горадам палі ў спецыяльных асенізатарскіх бочках. На гэты конт існаваў нават вершык:

Że postęp w naszem Grodnie
Szybkimi kroki chodzi,
W tem każdy niezawodnie
Ze mną się chętnie zgodzi.
I wszystko by wspaniale
Tu działo się bez sprzeczki,
Gdyby nie pewne „ale”:
Niebięskie... wonne... beczki...

Падчас аднаго з урачыстых мерапрыемстваў па адзначэнні ордэнам Virtuti militari вайскоўцаў на гарадской плошчы свята папсавалі “бочкавозы” – асенізатары, якія раптам з’явіліся ў вялікай колькасці і сваімі пахамі “засмуродзілі” ўсё свята.



## І зноў паром

Яшчэ амаль дзесяць год пасля сканчэння польска-савецкай вайны галоўным сродкам камунікацыі паміж дзвюма часткамі горада заставаўся паром. Вядома, не абыходзілася без здарэнняў. Некалькі разоў на пароме падчас перавозкі пасажыраў праз Нёман абрываўся трос, і той нясло ўніз па цячэнні. Аднойчы нават сам гарадскі староста К. Рагалевіч вымушаны быў ратавацца з гэткага парому, які імкліва нёсся, кладучыся на дно лодкі, што плыла побач…

## Справа картаграфавання Гродна

Пасля Першай сусветнай вайны горад застаўся без дакладных мапаў. Тым часам ад гэтага ў значнай ступені залежала перадача самаўраду дзяржаўных абшараў ды будоўля той жа каналізацыі. Мапа, якую зрабіла мясцовае бюро па памерах, абышлася Гродна ў амаль 100 тысяч злотых, аднак аказалася непрыдатнай. Сярод іншага разглядалася прапанова з боку адной з прыватных фірм, якая бралася правесці ўсю патрэбную працу на працягу... трох гадоў. У выніку гораду прыйшлося ўзяць чарговы крэдыт у банку для заканчэння працы…




## Заапарк. Пачаткі

Першымі экспанатамі гарадзенскага заапарка, створанага пры мясцовай гімназіі, былі… акварыумныя рыбкі ды бабёр, якога Ян Каханоўскі выратаваў на Нёмане. Першапачаткова жывел трымалі ў самой гімназіі ды ў вальерах у гарадскім парку, пакуль воўк не пакусаў малога – сына капітана Стэбальскага…

## Крымінальная Гародня

“Чорны спіс” гарадзенскага камісарыята з найбольш небяспечных асоб сягаў да паўсотні прозвішчаў. Часамі ствараецца ўражанне, што дзейнічалі цэлыя дынастыі злачынцаў: Эмерты, Лапідусы, Плаховічы, Шаўчукі! Сустракаліся і арганізаваныя банды, якія спецыялізаваліся на рабунках са зброяю ў руках. Вышэй за ўсіх у крымінальнай іерархіі стаялі так званыя kasiarze. Іх было дастаткова мала, таму што падобная “прафесія” патрабавала як высокай кваліфікацыі, гэтак і дастаткова дарагіх прыстасаванняў. Напрыклад, вядомыя бандыты Іцхок Хутаранскі і Чэслаў Красоўскі абрабавалі ў Беластоку тытунёвага прадпрымальніка Якуба Ліпшыца, пасля чаго схаваліся ў Гародні.



## Бронік Тарасевіч

Легендарным злодзеем міжваеннай Гародні быў Бронік Тарасевіч! Газеты друкавалі паведамленні пра яго часта і шмат: крадзяжы, бойкі, авантура з паліцыяй. Ужо традыцыяй стала абвінавачваць Броніка Тарасевіча амаль у кожнай падобнай справе. Нават мясцовая турма, дзе ён рэгулярна спыняўся па некалькі месяцаў, была не ў стане змяніць ягоны нораў.

## Прастытуткі ды “кантралёры”

За злом трэба сачыць. У Гародні наглядам за прастытуткамі займаўся паліцэйскі чыноўнік, якога называлі “кантралёрам”. Сярод іншага “кантралёр” скардзіўся, што ў горадзе большасць прастытутак складаў “прышлы элемент” – не мясцовыя, ды на выгляд вельмі прыстойныя, нярэдка – даволі заможныя. Самі ж прастытуткі, у сваю чаргу, наракалі на “кантралераў” ды іх шматлікія злоўжыванні. Пры гэтым уласна суцянёрства нікуды не знікла ды па-ранейшаму заставался справай вельмі прыбытковай. Напрыклад, гаспадыні публічнага дома Сара і Рэйза Глаз нават пабудавалі ў горадзе за свае грошы новы двухпавярховы мураваны будынак пад… чарговы бардэль.




## Неадпаведная рэклама

Барацьба за маральнасць вялася ўладамі на розных напрамках. У чэрвені 1910 года гарадзенскі віцэ-губернатар Сталяроў загадаў мясцовым паліцмайстрам усталяваць нагляд за зместам аб'яў, якія друкаваліся ў часопісах ды газетах. Не павінна была з'яўляцца рэклама кніг з "апісаннямі распусных палавых пачуццяў", сродкаў кантрацэпцыі ды лекаў на ўзмацненне патэнцыі, а таксама аб'явы, якія "прапаноўвалі ўступіць у незаконную сувязь". Іншым прадпісаннем забаранялася выкарыстоўваць гіпноз дзеля медыцынскіх мэтаў усім, за выключэннем лекараў.

## Шымон Відгорчык

Ён можа прэтэндаваць на званне першага гарадзенскага рэкеціра, гэткага мясцовага Бэню Крыка, персанажа адэскіх апавяданняў Бабеля. Гарадзенскі Бэня "трымаў" гарадзенскіх фурманшчыкаў ды вадавозаў, акрамя того быў знаны са сваіх наведванняў дарагіх рэстаранаў. Ш. Відгорчык зладзіў, магчыма, першы ў горадзе турнір па боксе паміж жыхарамі Гародні ды афіцэрамі Вяцкага палка. Праўда, сам арганізатар хутка быў асуджаны за збройны налёт. Аднак за кратамі затрымаўся не надоўга. Відгорчык збег з этапа і праз некалькі год апынуўся ў Палестыне, дзе праявіў свае арганізацыйныя таленты ў якасці кіраўніка сельскагаспадарчага кааператыва. Там ён і загінуў падчас збройнай сутычкі з бедуінамі…



# Другая сталіца БНР

“Другая сталіца БНР”, як пасля назавуць Гародню, пачыналася, па сутнасці, з Барыса-Глебскага манастыра па вуліцы Маставой, 9. Зараз на гэтым месцы знаходзіцца будынак драматычнага тэатра. Менавіта тут, у манастырскіх скляпеннях, яшчэ ў красавіку 1916 года была адкрыта першая ў Гародні беларуская школка, а праз два гады тут размясцілася першая легальная беларуская арганізацыя – Сувязь культурна-нацыянальнага адраджэння Беларусі.

## Сугучнасць

У гатэлі “Еўропа”, ці “Еўрапейскі”, на пачатку 1919 года спыніўся тагачасны прэм’ер-міністр БНР Антон Луцкевіч. Назва гатэля як нельга лепш адпавядала той мэце, якая прывяла Антона Луцкевіча ў Гародню: ён збіраўся на мірную канферэнцыю ў Парыж, дзе вырашаліся пасляваенныя лёсы Еўропы і ўсяго свету. Цікава, што ў гэтым самым гатэлі годам пазней спыніўся штаб савецкіх кавалерыстаў, якія таксама імкнуліся ў Еўропу, каб распаліць пажар сусветнай рэвалюцыі!




## Ізноў – першая

У канцы 1918 года ў зале афіцэрскага казіно ў так званым доме Мураўёвых адбыўся першы ў горадзе беларускі мітынг. Аркадзь Смоліч праз гады ўзгадваў, што "лозунгі БНР карысталіся тады ў Гародні поспехам". Гародні таксама належыць гонар святкавання першых угодкаў абвяшчэння БНР. Падчас урачыстай вечарыны кіраўнік беларускага ўрада Антон Луцкевіч звярнуўся да беларусаў з заклікам не кідаць працы на нацыянальнай ніве да часу, пакуль Беларусь не стане незалежнай.

## "Казённы дом"

Гісторыя гарадзенскай вязніцы бярэ свой пачатак з 1802 года, калі пад губернскую турму быў адведзены двухпавярховы каменны флігель, які ўваходзіў у комплекс былога езуіцкага калегіума. За царскім часам у гарадзенскую турму з беларускіх дзеячаў, здаецца, ніхто патрапіць не паспеў. Затое ў міжваенны час яна сталася прытулкам шмат для каго. Аднымі з першых гарадзенскую вязніцу "пакаштавалі" беларускія эсэры. Тым не менш і ў гісторыі здараюцца выключэнні, а таму не заўсёды беларусы былі толькі вязнямі турмы. Гэтак падчас бальшавіцкага панавання летам 1920 года старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта С. Баран стварыў камісію па пераглядзе спраў зняволеных. Праўда, пазней ён сам трапіў туды па абвінавачванні ў антыдзяржаўнай дзейнасці...



## Адпаведнае слова

Часам гісторыя наўпрост пакідала на гарадзенскіх камяніцах свой адбітак. Напрыклад, на фасадзе былога акруговага суда (сёння – Савецкая, № 31), на самым версе, над вокнамі, і зараз бачна слова “Законъ”. Вось толькі змест саміх законаў паспеў ужо некалькі разоў грунтоўна змяніцца. Нічога дзіўнага, што ў гэтых залах у міжваеннай Польшчы судзілі спачатку беларускіх партызан, а ўжо пазней партызан польскіх, што са зброяй у руках змагаліся супраць савецкай улады. Распавядаюць, што гэта сюды ў 1957 годзе прыйшоў скласці зброю апошні жаўнер былой Арміі Краёвай…

## Павароты сюжэта

Там, дзе зараз стаіць помнік польскай пісьменніцы Э. Ажэшцы, адразу каля моста праз Гараднічанку, у сярэдзіне красавіка 1919 года атрад Польскай арганізацыі вайсковай ажыццявіў напад, каб вызваліць беларускага дзеяча Казіміра Цвірку-Гадыцкага з рук… беларусаў! Справа ў тым, што якраз напярэдадні той быў арыштаваны па загаду ўрада БНР за тое, што завёз у Варшаву ліст з просьбай уключыць Беларусь у склад Польшчы ад імя прыдуманага ім “краёвага” з’езда. Арыштаванага пад эскортам эскадрона беларускага палка везлі з турмы на вакзал, калі адбылася кароткая сутычка з палякамі. У выніку адзін з нападнікаў загінуў, аднак адбіць К. Гадыцкага не атрымалася. Яго ўсё ж такі адправілі ў Коўна, дзе пазней ён быў апраўданы праз суд.




## “Беларуская хатка”

“Беларускай хаткай” называўся клуб, які працаваў па вуліцы Палявой летам 1919 года (сёння камяніца па Карбышава, № 10). Гэты дом яшчэ і гісторыя аднаго кахання: менавіта ў сценах камяніцы па Палявой успыхнула пачуццё, што звязала паміж сабою дзвюх вельмі прыкметных асоб – кіраўніка беларускіх эсэраў Тамаша Грыба ды беларускую настаўніцу Паўліну Мядзёлку. Праўда, была яшчэ адна асоба – таксама эсэрка Палута Бадунова, што ўспрыняла гэтае каханне як уласную трагедыю. У выніку, калі польскія ўлады арыштавалі Грыба, да мясцовага следчага звярнуліся адразу… дзве ягоныя нявесты!

## Паліто для кіраўніка БНР

З’язджаючы вясной 1919 года з горада, беларускі ўрад пакінуў тут на руках гарадзенскага губернскага камісара БНР Паўла Алексюка частку наяўных грошай. А ўжо хутка на адрас П. Алексюка з Берліна прыйшла тэлеграма ад прэм’ер-міністра БНР Антона Луцкевіча: “Bitte smolitsch zu nachrichtigen dasz ich warte berlin also man sall nachrichten nur kondratowitsch und zwei herren und sofort meine palto schicken”. Змест тэлеграмы тлумачыўся даволі дзіўна – А. Луцкевіч прасіў тэрмінова пераслаць яму… паліто! Цяжка сабе ўявіць, каб у такі драматычны момант, калі вырашаўся будучы лёс краіны, старшыня ўрада ў першаю чаргу клапаціўся б аб уласным аддзенні. Сапраўдны змест тэлеграмы, аднак, становіцца зразумелым, калі замяніць слова “паліто” на… “грошы”!



# Тадзік Ясінскі

Міжваенная Гародня з часам сама ператварылая ў легенду і нават сталася часткай нацыянальнага канону, што праўда, суседняй польскай дзяржавы. Тры дні баёў мясцовага грамадзянскага насельніцтва і парэштказ вайсковых аддзелаў ды паліцыі з савецкімі часткамі восенню 1939 года далі пачатак новай традыцыі. Гродна з'яўляецца фактычна адзіным вялікім горадам, які гэтак доўга супрацьстаяў Чырвонай арміі. Сімвалам гэтых падзей з'яўляецца постаць трынаццацігадовага польскага хлопчыка Тадзіка Ясінскага, які бутэлькай бензіну спрабаваў падпаліць савецкі танк. Дзіця кінула бутэльку, але яе не запаліла. У выніку танкісты злавілі хлопчыка і прывязалі да танка наперадзе. Эпізод, аб якім ідзе гаворка, звычайна прыводзіцца па кнізе ўспамінаў Гражыны Ліпінскай. Праўда, успаміны іншых удзельнікаў абароны ўжо не такія дакладныя. Адзін з польскіх афіцэраў, напрыклад, наогул узгадвае, што памятае пра савецкі танк з чалавекам на бране, аднак падчас бою ён не паспеў разглядзець, хто, уласна, гэта быў. Таму на пытанне свайго падначаленага: "Што рабіць?" – даў кароткі адказ: "Агонь!". Яшчэ больш далёкі ад першай версіі расповед мясцовай беларускі, згодна якой, маці хлопчыка крычала і праклінала нават не савецкіх жаўнераў, што забілі яе сына, а тых дарослых, якія далі яму ў рукі зброю і паслалі на смерць. Нават ягонае пахаванне на гарадскіх могілках – усяго толькі кенатаф. У архівах удалося адшукаць толькі доказ, што хлопчык рэальна існаваў і жыў разам з маці па вуліцы Баніфратарскай, № 9. Тым не менш, ужо ў наш час Тадзік Ясінскі быў прадстаўлены да дзяржаўнай узнагароды – Камандорскага Крыжа ордэна Адраджэння Польшчы, ягонае імя носяць вуліцы адразу ў некалькі польскіх гарадах.




## Бітва за Гародню

Паводле польскай традыцыі, у першых савецкіх танках, што ў верасні 1939 года ўвайшлі ў горад, знаходзіліся мясцовыя яўрэі, якія збеглі ў Савецкі Саюз перад пачаткам Другой сусветнай вайны. Сярод іншых бачылі: Александровіча, Ліпшыца, Маргуліса і іншых. Яны паказвалі камандам танкаў стратэгічныя пункты ў горадзе. Існуе нават паданне, згодна якому ў танку, што згарэў на скрыжаванні з вуліцай Ажэшкі, загінуў той самы яўрэй, які забіў польскага марака і выклікаў пагром, а пазней уцёк у Савецкую Расію. Савецкая інтэрпрэтацыя тых падзей была, зразумела, зусім іншай, аб чым сведчаць вуліцы і помнікі ў гонар савецкіх жаўнераў і мясцовых дзеячаў, што загінулі ў гэтых падзеях: Бертэля, Гарнавых, Квітко.

## Лазня

Д'ябал крыецца ў дробязях. З аднаго боку, Чырвоная армія прынесла жыхарам Заходняй Беларусі вызваленне ад прыгнёту ды ўціску. З другога – савецкая ўлада пазбавіла жыхароў горада "маленькіх" прыемнасцей, да якіх тыя, што найгорш, паспелі прызвычаіцца. Напрыклад, перад Вялікай Айчыннай вайной у Гародні засталася ўсяго адна лазня, якая да таго ж абслугоўвала толькі… вайскоўцаў. Для ўласна гарадзенцаў быў вызначаны толькі адзін дзень на тыдзень, чаго, безумоўна, не хапала. Свецкія ўлады, праўда, збіраліся пабудаваць новую лазню, але, здаецца, гэтак і не паспелі да пачатку вайны…



## “Пан Тадэвуш” з-за крат

Напэўна, “за польскім часам” самым вядомым беларускім вязнем гарадзенскай турмы з’яўляўся Браніслаў Тарашкевіч. Сваё зняволенне ён адбываў у адзіночнай камеры пад № 45. Яго ўтрымлівалі як асабліва небяспечнага злачынца і нават на шпацыр выводзілі асобна ад іншых. Праўда, гэта не перашкодзіла яму падчас зняволення перакласці на беларускую мову паэму “Пан Тадэвуш”.

## Падарунак для прэзідэнта

У сувязі з маючым адбыцца візітам у горад прэзідэнта Польшчы гарадскі магістрат вырашыў падараваць высокаму госцю памятны фотаальбом з выявамі Гародні. З гэтай мэтаю нават мелася паўстаць асобная камісія дзеля апрацавання ўзора альбома і тэксту прысвячэння, а таксама для падбору і прыгатавання найбольш цікавых і прыгожых відаў горада ў форме паштовак, каб раздаваць іх гасцям у мэтах прапаганды.

## Суд над школьніцай

Здараліся і яшчэ больш неверагодныя гісторыі. Напрыклад, у міжваенны час бацька адной з вучаніц гімназіі імя А. Міцкевіча прыцягнуў да суда вучаніцу за тое, што тая абліла ягоную дачку чарніламі. У выніку суд прысудзіў бацькам “злачынцы” сплаціць штраф у 6 тысяч злотых.




## Прэзідэнт і заапарк

Падчас візіту ў канцы 1933 года ў Гародню прэзідэнта Польшчы Ігнацыя Масціцкага выкладчык гімназіі імя Адама Міцкевіча Ян Каханоўскі быццам бы паскардзіўся высокаму госцю на тое, што нядаўна створаны заапарк не мае дастатковай тэрыторыі. У выніку прэзідэнт зрабіў заўвагу мясцовым уладам і тыя за вялікія грошы выкупілі ў князя Яна Друцкага-Любецкага кавалачак зямлі. У хуткім часе гарадзенскі заапарк стаў адным з найлепшых заапаркаў міжваеннай Польшчы (што, мабыць, таксама мясцовая легенда).

## Пагром

Адзіны за ўсю шматвекавую гісторыю Гародні яўрэйскі пагром адбыўся 7 чэрвеня 1935 года. Гэтым днём у горадзе адбывалася пахаванне забітага напярэдадні Уладыслава Кушча. Як успаміналі старэйшыя людзі, той быў ці матросам, ці навучэнцам марскога вучылішча і на некаторы час прыехаў у Гародню на пабыўку. На вячэрніх танцах ён схапіўся з некалькімі яўрэйскімі хлопцамі (кажуць, што размова ішла пра дзяўчыну) і, атрымаўшы ўдар нажом, загінуў. Забойцы трапілі ў турму, але на пахаванні Кушча на гродзенскіх каталіцкіх могілках прагучалі галасы, што трэба адпомсціць яўрэям. У выніку каля тысячы чалавек рассыпаліся па ўсім горадзе і пачалі біць шыбы ды збіваць яўрэяў на вуліцах. Былі цяжка паранены два яўрэі, якіх перанеслі ў яўрэйскі шпіталь, але яны ўсё адно хутка памерлі. Тыя падзеі, аднак, пакінулі па сабе настолькі моцныя ўражанні, што нават шмат год пасля ў Гародні пераказвалі паданне пра тое, быццам бы пасля пагрому на Нёмане плылі целы ахвяр.



# Дом, ад якога засталася толькі рыбка

Гарадзенскія рыбакі заўсёды карысталіся папулярнасцю ў валадароў Рэчы Паспалітай, асабіста забяспечваючы каралеўскі стол свежай рыбаю. Ды і простыя гродзенцы елі шмат рыбы, а рыбакам было дадзена права гандляваць напрамую, мінуючы купцоў, што значна павышала іх канкурэнтаздольнасць. Невыпадкова яшчэ ў XVI стагоддзі на тады самай галоўнай, Замкавай вуліцы паўстаў аднапавярховы будынак цэха рыбакоў, які ўпрыгожвала выява каменнай рыбкі – эмблема цэха. Што праўда, яна найбольш нагадвала старажытную рыбу лацімерыю, якая ў Нёмане дакладна ніколі не вадзілася. На жаль, гэтая камяніца ў канцы 1960-х стала ахвярай будаўніцтва Дома быту. Яе знеслі, а каменная рыбка апынулася ў музеі.

## TEPSIVA

Гародня часам нагадвае выспу скарбаў. Прычым у літаральным сэнсе. Над вокнамі трэцяга паверха камяніцы Нахіма Індурскага па вуліцы Batанічнай, № 15 можна пабачыць рэльефныя лацінскія літары TEPSIVA, якія, магчыма, з’яўляюцца скаротам лацінскага выразу: “Табе, што праходзіць звонку, шлях да ісціны важнейшы”. Існуе і іншае іх тлумачэнне, быццам напіс узнік ужо пазней, падчас рамонту дома, калі будаўнікі дзеля жарту змясцілі кожны па літары свайго імя. Насамрэч tepsiva у перакладзе з фінскай мовы азначае… “для разумных”! Дарэчы, іншае паданне, звязанае з гэтым домам, сцвярджае, быццам бы падчас рамонту ў старой печцы тут быў знойдзены клад залатых манет, які потым бясследна знік. Цалкам верагодна, што напіс дачакаўся свайго адрасата…




## “Дом з ільвамі”

На вулачку Студэнцкую вельмі рэдка заходзяць не тое што турысты, але і самі жыхары горада. Аднак ужо хто зайшоў, той абавязкова падыдзе да сімпатычнага дома, з якога на мінакоў глядзяць даволі злыя зубастыя львы. Камяніцу гэтую пабудаваў афіцэр расійскай арміі Георгій Чэлакаеў. А Чэлакаеў – гэта зрусіфікаваная версія грузінскага прозвішча Чалакашвілі. Князі Чалакашвілі былі адным са старажытных родаў Грузіі, які паходзіў ці тое ад мангола-татараў, ці тое ад генуэзскіх рыцараў, якіх занесла ў Дагестан, а пасля ў Грузію. Таму леў з’явіўся на доме зусім нездарма, бо львы былі ўлюбёным сімвалам грузінскай знаці. Нават на дзяржаўным гербе сучаснай Грузіі шчыт са Святым Георгіем таксама трымаюць львы.

## Леанід Федарук

Сын дырэктара мясцовай беларускай школкі, сяміразовы прадстаўнік Польшчы на міжнародных спаборніцтвах, трохразовы рэкардсмен краіны, двухразовы чэмпіён у кіданні дыска, трохразовы віцэ-чэмпіён, бронзавы медаліст чэмпіянату па штурханні ядра. Ён быў уключаны ў склад польскай алімпійскай зборнай на Алімпіяду ў Хельсінкі, якой так і не наканавана было адбыцца. Перад самай Другой сусветнай Леанід скончыў танкавую школу. Ужо пазней уступіў у армію Андэрса, быў падпаручнікам легендарнага танкавага палка “Скарпіёны”. Удзельнічаў у баях у Афрыцы і ў бітве за Монтэ-Касіна. Загінуў падчас баёў за “Вал готаў” і быў пахаваны на могілках у Ларэта. Як сапраўдны герой...



## Гарадзенскі “Мефіста”

На цяперашняй вуліцы Астроўскага любіў трэніравацца Вітольд Герута, легенда міжваеннага спорту, які захапляў гледачоў як сваімі дасягненнямі, гэтак і разнастайнасцю талентаў. Нарадзіўся ён у Харбіне, скончыў гімназію ў Гародні. Лёгкаатлет-дзесяціборац, рэкардсмен у штурханні ядра, сярэбраны медаліст чэмпіянату Еўропы, удзельнік Алімпійскіх гульняў у Лондане, адзін з заснавальнікаў гарадзенскага баскетбола, ён падаваўся настолькі неверагодным, што сярод заўзятараў атрымаў мянушку Мефіста!

## Карл Румель

Мабыць, самым вядомым перад вайной з гарадзенскіх спартсменаў быў падпалкоўнік кавалерыі Карл Румель, удзельнік адразу трох Алімпійскіх гульняў. Выпускнік Адэскага кадэцкага корпуса і Акадэміі мастацтваў, ротмістр Румель на Алімпійскіх гульнях у Стакгольме быў адзначаны спецыяльнай узнагародай – залатым медалём, адлітым па загаду самога караля Швецыі. Справа ў тым, што спартовец, атрымаўшы цяжкую траўму, не сышоў з дыстанцыі. На апошнім бар’еры яго конь Берасцянка зачапіў бэльку і паваліўся, падмяўшы вершніка. Амаль губляючы прытомнасць ад болю, Румель усё ж учапіўся ў аброць, узлез на каня і, прыціскаючы руку да грудзей, накіраваўся да фінішу. Ужо пазней, падчас Другой сусветнай, Румель знаходзіўся ў палоне ў канцлагерах Дахаў і Маўтхаузен і не зламаўся – мужнасці яму было не займаць.




## Ігральныя карты Лапіна

Гарадзенцы шмат у чым аказаліся першымі. У 1923 го-дзе браты Аляксандр і Абрам Лапіны заснавалі ў Гародні "Першую краёвую фабрыку ігральных карт". На фабрыцы Лапіных друкавалі карты народныя, ракайлевыя, венскія, рэйнскія. Усе яны былі высокай якасці, іх выкарыстоўвалі для гульні ў скат, брыдж, покер, віст. Таксама тут існавала калода "з каралямі". Гэтыя карты ўнікальныя – і не толькі таму, што яны былі распрацаваны ды друкаваліся ў Гародні. Гэта адзіныя карты, дзе каралі адлюстроўваюць гістарычных асоб польскай ды беларускай гісторыі: Яна Сабескага, Казіміра Вялікага, Жыгімонта Аўгуста і Стэфана Баторыя. Нейкі час таму, дзякуючы адмыслоўцам, калоду ўдалося аднавіць, і зараз яна з'яўляецца выдатным сувенірам. Што ж тычыцца фабрыкі, дык з усталяваннем савецкай улады яна была нацыяналізавана, а яе былыя гаспадары пазней загінулі ў гарадзенскім гета.

## Гітлер з Гародні

Як гэта ні дзіўна гучыць, мела Гародня і свайго… Гітлера. Шэвель Гітлер – купец ды грамадскі дзеяч, у міжваенны час з'яўляўся нават сябрам гарадской рады ад яўрэйскага нацыянальнага блока. Больш за тое, гарадзенскі Гітлер змагаўся з антысемітызмам. Пры абмеркаванні бюджэту ён выступіў ад імя фракцыі з прапановай пакараць кіраўніцтва гандлёвай школы пры Польскай Мацежы Школьнай за тое, што яно так і не адрэагавала на мінулыя папярэджанні адносна ўлётак аднаго з настаўнікаў, дзе адзначалася, што "гандлёвая школа створана дзеля барацьбы з яўрэйскім гандлем". Гітлер прапанаваў зменшыць субсідыі для школы на 1 злоты. У выніку рада прыняла прапанову большасцю галасоў.



## “Гарадзенская” зебра

Мясцовы бестыярый, акрамя сфінксаў, аленяў з крыжамі паміж рагоў, легендарных тураў, утрымлівае і зусім звычайных на першы погляд жывел, як, напрыклад, зебру. У наборы сувенірных паштовак “Губерні Расійскай Імперыі”, выдадзеным у 1856 годзе, на гербе губерні замест зубра, які там павінен быць, намалявана… зебра! Адзінае магчымае тлумачэнне, якое прыходзіць у галаву, гэта тое, што мастак рабіў малюнак паводле пісьмовага апісання і здарылася памылка з літарамі “у” і “е”. Пазней гэта памылка перакачавала ў камплект ігральных карт з выявамі расійскіх губерній. Аднак і гэта яшчэ не ўсё! Зебру таксама можна пабачыць на некаторых варыянтах… гузікаў на адзенні чыноўнікаў Гарадзенскай губерні! Нічога дзіўнага, што тыя не хацелі сюды ехаць. Дзіч, край света. Нават зебры жывуць.

## Нічога асабістага

Каб мы былі анёламі, жылі б у небе. У канцы XIX стагоддзя гарадская ўправа адмовіла дочкам былога яе ж кіраўніка, якія звярнуліся за фінансавай дапамогай у сувязі з псіхічнай хваробай бацькі. У сярэдзіне 1930-х гадоў гісторыя паўтарылася. На гэты раз на псіхічную хваробу пакутаваў былы дырэктар электрастанцыі, які знаходзіўся ў гарадскім шпіталі. Ён і ягоная сям’я апынуліся ў поўнай галечы. Акрамя таго, жонка няшчаснага павінна была аплаціць кошт лячэння. У выніку рада пастанавіла не толькі адмовіць у дапамозе былому супрацоўніку, але… за даўгі выставіць ягоную маёмасць на аўкцыён.




## Першыя савецкія выбары

У кожнай традыцыі свае карані. У сакавіку 1940 года ў Гародні прайшлі ПЕРШЫЯ выбары ў савецкія дзяржаўныя органы. Як пасля рапартавалі ў справаздачах мясцовыя кіраўнікі, выбаршчыкі пачалі збірацца каля урнаў яшчэ а дванаццатай гадзіне ночы. Шмат хто каля урнаў выступаў з кароткімі прамовамі, выказваючыся ў любові да таварыша Сталіна ды Радзімы. На адным выбарчым участку прыйшла галасавць 88-гадовая жанчына, на другім – 102-гадовая старая. А ўсяго ў выбарах прынялі ўдзел… 99,42 % жыхароў горада.

## Гарадзенскае радыё

У міжваенны час гандляры радыёпрыёмнікамі выстаўлялі свой тавар побач з уваходам у краму і, каб прыцягнуць кліентаў, уключалі гук на ўсю моц. Паслухаць музыку збіраліся звычайныя месцічы, якія гэтак бавілі вольны час, а паколькі крамак было шмат, уся Дамініканская ператваралася ў адну музычную залу, на што неаднаразова скардзіліся жыхары суседніх камяніц. Пры савецкай уладзе ўсё змянілася. Уся тэхніка ў горадзе знаходзілася пад пільнай увагаю дзяржавы, якая кантралявала, каб яна была абавязкова зарэгістравана ў аддзяленні сувязі, а кожны набыты радыёпрыёмнік або тэлевізар уладальнік быў абавязаны паставіць на ўлік у паштовай канторы на працягу трох тыдняў...





## Дзіўныя справы

Некаторыя рэчы сапраўды вельмі цяжка патлумачыць. Вось, напрыклад, гарадскі “дом умалишенных” – псіхбальніца больш чым восем дзесяцігоддзяў існавала ў самым цэнтры Дварцовай, ці Губернатарскай, плошчы. Адным словам, шалёныя жылі літаральна ў двух кроках ад дома гарадзенскага губернатара і назіралі за кожным яго крокам. Ды – наадварот! Установа была сумная і адначасова дастаткова вясёлая. Лекары не мелі ніякіх сучасных псіхатропных сродкаў, і хворых проста трымалі быццам у заключэнні. Летам яны спявалі і крычалі праз адчыненыя вокны, што стварала дзіўнае суседства дзяржаўным установам на плошчы. Псіхбальніцу прыбралі з гэтага дома толькі пасля вайны, падабраўшы для яе не менш каларытнае месца ў былым брыгіцкім кляштары. А ў будынку на плошчы Леніна размясціўся… гаркам партыі!

## Запрацаваны аўтарытэт

У міжваенны час гаспадыня камяніцы на Тэатральнай плошчы (зараз замест яго аўтобусны прыпынак “Тэатр лялек”) Зоф’я дэ Вірыён была вельмі шанаванай у Гародні грамадскай дзеячкай. Сярод іншага, яна актыўна працавала ў таварыстве апекі над зняволенымі “Патранат”. Існуе легенда, што аднойчы падчас адсутнасці гаспадыні яе дом абакралі, пра што наступным разам, адведваючы турму, яна паскардзілася вязням, якімі апекавалася. Усяго праз некалькі дзён невядомыя вярнулі ўсё скрадзенае, пакінуўшы ліст з выбачэннямі.

## Гарадзенскія дзівакі

ХХ стагоддзе аказалася таксама па-сапраўднаму “багатым” на мясцовых блажэнных. Сярод іх Саша-“кабан”, які пужаў сваім дзіўным абліччам малых на гарадскіх вуліцах яшчэ “за цара”; гэтак званая “генеральша Самсонава”, што сядзела на прыступках перад Пакроўскім саборам; дачка Азнабішыных, якая страціла розум пасля забойства бальшавікамі яе бацькоў летам 1920-га. У 1930-я гады на вуліцы Грандзіцкай можна было сустрэць асаблівую постаць – высокую, апранутую ў цёмную адзежу жанчыну сярэдніх гадоў, якую ўсе клікалі Інспектарша. Гэтай псіхічна хворай кабеце не падабаліся ўсе іншыя сустрэчныя жанчыны, якіх яна пачынала голасна раўнаваць да свайго мужа, які якраз служыў інспектарам у нейкай мясцовай канторы. Былі і іншыя. Напрыклад, вартаўнік гродзенскай семінарыі Сільвестр, які аддаў амаль трыста злотых на аднаўленне былога кляштара бернардынак. “Кожны, – пісаў Юзаф Ядкоўскі, – хто хаця б аднойчы бачыў Сільвестра, у стане па-сапраўднаму ацаніць усю глыбіню ягонага ўчынка”…

## Дурны Янка

Прыкладна ў той самы час жыў у Гародні і іншы дзівак, якога ўсе навокал клікалі дурным Янкам. Ён хадзіў па горадзе басанож, брудны, апрануты ў рванае адзенне. Аднойчы, згодна мясцовай легендзе, ужо пасля таго, як у горад завіталі бальшавікі, Янка трапіўся на вочы малой дачцэ савецкага афіцэра, што прыехалі сюды сям’ёй з савецкага “раю”. Дзіця, убачыўшы Янку, на хвілінку аслупянела, а пасля голасна і радасна выбухнула: “Татка, татка, глядзі, а тут таксама ёсць калгаснікі!”. Ужо пазней, як распавядае іншая легенда, падчас дэпартацыі Саветамі мясцовага польскага насельніцтва Янка быццам бы меў прароча адзначыць: “Вязуць іх усіх у «Рай зямны»”…

## Пра дырэктарку настаўніцкай семінарыі

З прыходам бальшавікоў Вікторыя Чапувна, дырэктарка настаўніцкай семінарыі, каб пазбегнуць арышту, была вымушана хавацца. Яе пляменніца ўзгадвала пазней, як цёця Тола, як яе называлі кроўныя, пакідала Гародню: “Тола была вельмі вядомаю асобай… Павінна была ўцякаць пераапрануўшыся… Я ехала разам з мамаю дарожкай, вельмі паволі. Побач, тратуарам, падпіраючыся тоўстым кіем, ішла цёця Тола – без акуляраў, абвесіўшыся бруднымі шматамі, у шэрай хустцы на галаве, з вялікім клункам на плячах… Пасля вайны “цёця Тола” доўгі час працавала дырэктарам інтэрната для сірот у Варшаве.

## Ян Каханоўскі ды Мічурын

Выкладчык мясцовай гімназіі ды заснавальнік гарадзенскага заапарка Ян Каханоўскі быў накіраваны савецкімі ўладамі ў Мічурынск пераймаць передавы савецкі досвед у агранамічных навуках. Пасля вяртання ён быццам бы дазволіў сабе выказацца ў тым сэнсе, што пераймаць, уласна, няма чаго, і ўсё "передавое" даўно ў Гародні вядома ды практыкуецца. Пасля такой "заявы" Каханоўскі апынуўся ў савецкай турме, адкуль вызваліўся толькі… 22 чэрвеня 1941 года, калі немцы разбамбілі вязніцу.

## Вітрына з гадзіннікам

Апавядаюць, што аднойчы, якраз перад вайной з Нямеччынай, у савецкага афіцэра зламаўся гадзіннік і ён зайшоў у крамку на рыначнай плошчы, дзе ў вітрыне стаяў вялікі гадзіннік з боем.

– Адрамантуйце мне гадзіннік, – папрасіў ён старога яўрэя, які там сядзеў за сталом.

– Але ж мы не рамантуем гадзіннікі, – адказаў той.

Я– к гэта не рамантуеце? А чым вы тады займаецеся?! – абурыўся вайсковы.

– Тут робяць абразанне.

Афіцэр ажно пачырванеў.

–А чаму тады ў вас на вітрыне стаіць гадзіннік?

– А што там, па-вашаму, павінна стаяць? – запытаўся са шчырым здзіўленнем гаспадар крамкі.

## Месінг у Гародні

Вядомы ілюзіяніст ды гіпнатызёр Вольф Месінг яшчэ да вайны прыязджаў у Гародню з выступленнямі, а ў 1939 годзе ён нават на нейкі час аказаўся зняволеным савецкімі ўладамі ў мясцовай вязніцы. Менавіта з гэтым арыштам, быццам бы, звязана гісторыя, калі ў якасці эксперыменту Месінга папрасілі выйсці з камеры з дапамогай яго здольнасцей гіпнатызёра і той праз нейкі час апынуўся на вуліцы побач з вязніцай, прайшоўшы праз усіх ахоўнікаў, якія самі адчынілі перад ім усе дзверы.

## Немцы vs гішпанцы

У першыя дні акупацыі нямецкія жаўнеры зрабілі ўражанне на гарадзенцаў сваёй бялізнай, добрай вопраткай і стрыманымі адносінамі да мясцовых. Куды горш за немцаў аказаліся гішпанскія жаўнеры з гэтак званай Блакітнай дывізіі, якіх лічылі гвалтаўнікамі і таму старэйшыя папярэджвалі маладых дзяўчын да іх не падыходзіць.

## Канцлагер Калбасіно

Існуе легенда, быццам некалькі дзясяткаў ваеннапалонных, каб выслужыцца перад немцамі, сталі ахоўнікамі гэтага лагера, а потым пайшлі на павышэнне і сталі ахоўнікамі ў Аўшвіцы. Большасць з іх выжыла і яны не былі асуджаныя...

## Несапраўдны помнік

Не заўсёды варта верыць таму, што бачыш. Італьянская газета "La Vittoria" летам 1941 года змясціла на вокладцы здымак з Гародні, на якім жыхары горада скідваюць помнік Сталіну, а над ім напіс: "La Guerra al comunismo" (Вайна з камунізмам). Так і не зразумела – ці гэты помнік сапраўды стаяў перад будынкам сённяшняга ўніверсітэта, ці яго паставілі з савецкіх "запасаў" на патрэбу прапагандысцкай фотасесіі...

## Таемная школа

Пры немцах у горадзе існавала толькі дзве школы – для фольксдойчаў ды невялічкая беларуская. Інакш вучыцца было нельга. Таму ў горадзе існавалі патаемныя школкі. Адна з іх мясцілася ў доме пані Гэлены Ражко па сённяшняй вуліцы Ватуціна. Хадзіла туды каля дванаццаці вучняў, а сама "школа" працавала ў тры змены. Пры гэтым адзін з вучняў стаяў "на шухеры", гэта значыць назіраў, ці не набліжаецца нямецкі патруль. У выпадку пагрозы дзеці беглі на паддашша, дзе хаваліся пад вялікай старой ваннай ды іншымі вялікі старымі рэчамі.

## Фурман-небарака

А яшчэ распавядалі, як падчас апошняй вайны немцы абавязалі нейкага гаспадара з суседняй з Гародняй вескі ехаць у гета па нейкіх там справах, а там ён згубіў пропуск і яго ўжо не выпускалі. Дык няшчаснаму прыйшлося пакінуць каня ў гета, а яго самога яўрэі праз патаемны ход выправадзілі ў горад...

## Расчараваныя

З пачатку Вялікай Айчыннай вайны шмат у якіх гарадах, далучаных напярэдадні да Савецкага Саюза, а зараз акупаваных немцамі, адбыліся яўрэйскія пагромы. Самі нацысты глядзелі на тое скрозь пальцы, а часцей упрост падбухторвалі мясцовае насельніцтва да крывавых выступленняў. У Гародні, як і наогул на Беларусі, гэткага не адбылося. У ліпені 1941 года, калі ў горад наведаліся Гімлер ды Гейдрых, яны выказалі сваё выключнае незадавальненне тым, што пры гэткай колькасці яўрэйскага насельніцтва ў Гародні да гэтага часу было знішчана "ўсяго толькі 96 яўрэяў". Зразумела, што мясцовае кіраўніцтва пастаралася як мага хутчэй "выправіцца"…

## Дом Нохума Фрэйдовіча

Нохум Фрэйдовіч быў дзедам Фелікса Зандмана, аднаго з нешматлікіх вязняў гродзенскага гета, якім удалося ўратавацца. Яшчэ гадоў дваццаць назад у сцяне ягонага былога дома, дзе ў міжваенныя гады знаходзілася прадпрыемства па вырабу бетоннай пліткі, бардзюраў, трубаў (сёння – Маркса, № 28), існавала адтуліна, праз якую з падвала ў гады вайны ратаваліся ад паліцыі гродзенскія яўрэі, што мелі там схоў. Унук гаспадара, які вырас у гэтым доме, пасля вайны стаў мільянерам, займаўся дабрачыннасцю, напісаў успаміны "Ніколі не гасне надзея".

# Ян Каханоўскі

Пачынаючы з лета 1942 года нацысты пачалі арыштоўваць прадстаўнікоў інтэлігенцыі і браць іх у закладнікі за забітых нямецкіх вайскоўцаў. Так быў арыштаваны дырэктар школы нумар восем, бацька чатырох дзяцей прафесар Юзаф Вевюрскі. Яго павінны былі расстраляць, але па просьбе бяздзетнага прафесара Яна Каханоўскага, стваральніка гарадзенскага заапарка, Вевюрскага замянілі Каханоўскім. Так загінуў адзін з найбольш знакамітых гарадзенцаў. Дырэктар Вевюрскі пражыў яшчэ год, пакуль ізноў не быў арыштаваны як закладнік і расстраляны. Гэтым разам ратаваць яго ўжо не было каму…

...

Адступаючы летам 1944 года, немцы паспелі замініраваць увесь цэнтр горада. Аднак пра планы нацыстаў узарваць Гародню даведалася савецкай выведка, своечасова перахапіўшы нямецкую шыфроўку! Выратаваць горад ад знішчэння здолелі жаўнеры 1-й гвардзейскай Магілёўскай штурмавой брыгады, якія, можна сказаць, былі спецназам таго часу. Брыгада мела выдатны ўзровень падрыхтоўкі, аўтаматычную зброю, бронекамізэлькі, з-за чаго яе яшчэ часам называлі "панцырнай пяхотай". Праўда, па ўспамінах старажылаў, савецкія салдаты на захопленым піўным заводзе ўмудрыліся гэтак напіцца, што пасля плавалі ў чанах з віном. Але ж гэта, відавочна, – няпраўда…

## Першы рок-канцэрт

Нешта заўсёды адбываецца аднойчы ў першы раз. Першы рок-канцэрт у Гародні ў 1964 годзе супаў з прызначэннем новага Генеральнага сакратара – Леаніда Ільіча Брэжнева – і ў маштабе краіны наўрад ці прайшоў заўважаным. Аднак для горада гэта сталася пачаткам новай эпохі. І пачыналася яна са скандалу падчас музычнага вечара ў школе № 10. Некалькі вучняў старэйшых класаў напярэдадні цішком пранеслі на сцэну актавай залы апаратуру і, калі занавес адчыніўся, без папярэджання раптам зайгралі рок-н-рол! Ураженне было як ад разарванай бомбы. Ну ці як пасля раптоўнай змены кіраўніка партыі. Настаўнікі на першых радах аслупянелі, апрытомнелі толькі на другой песні, паклікалі камсамольцаў – і тыя выкінулі ўсіх на двор разам з інструментамі. Ужо пазней, прадстаўляючы свой ансамбль перад рознымі адказнымі музычнымі камісіямі, гарадзенскія музыкі папярэджвалі: “Зараз прагучыць песня партовых рабочых Амерыкі”.

## Канцэрт на пляжы

З першымі гарадзенскімі рок-гуртамі звязана і яшчэ адна гісторыя. Распавядаюць, што аднойчы летам гарадзенскія музыкі нават здолелі зладзіць выступ на мясцовым пляжы. Адбылося гэта наступным чынам. Стаяла невыносная спёка, увесь бераг быў забіты людзьмі. Нехта гуляў у мяч, нехта плёскаўся ў вадзе, іншы проста ляжаў на пяску. І раптам з гукаўзмацняльнікаў, праз якія звычайна выратавальнікі папярэджваюць купальшчыкаў, разнесліся гукі A hard day’s night, вядомыя кожнаму бітламану! Які́м жа было здзіўленне месцічаў, калі яны пабачылі каля драўлянага дамка выратавальнікаў музыкаў у адных плаўках, але з гальштукамі і гітарамі. Гэтак яны выканалі яшчэ некалькі песень, пасля чаго хуценька сабралі інструменты ды… зніклі.

## Прыхаваны правадыр

Легенды быццам бы апавядаюць нам пра мінулае, аднак часам у іх прыхаваны прадказанні для будучых пакаленняў. З гэтай прычыны некаторыя з мясцовых паданняў маюць адразу два варыянты: аптымістычны і, так бы мовіць, больш сумны. Вось, напрыклад, гісторыя з помнікам Сталіну па сённяшняй вуліцы Савецкай. Пасля таго як на ХХ з'ездзе камуністычнай партыі высветлілася раптам, што былы правадыр – тыран ды злодзей, ягоны помнік знік на працягу аднаой ночы. Можна толькі ўявіць, з якімі пачуццямі глядзелі месцічы ранкам на пусты пастамент у цэнтры горада. Пазней казалі, быццам бы гіпсавага Сталіна вывезлі ды ўпотай кінулі ў Нёман ці нейкі кар'ер. Паводле ж іншых, помнік закапалі побач з тым месцам, дзе ён стаяў, і правадыр толькі чакае нагоды, каб вярнуцца.

## "Стары" і "новы" Ленін

Часам месца, дзе пастаўлены манумент, мае не меншае значэнне, чым тое, каго ён увасабляе! Напрыклад, стары помнік Леніну раней стаяў на ўваходзе ў парк Жылібера, якраз недалёка ад абеліска з Вечным агнём. Казалі, між іншым, быццам бы ягоны пастамент быў зроблены з надмагілляў з былых яўрэйскіх могілак. Той Ленін сваёй рукой паказваў на вуліцу Горкага, гэта значыць, на дарогу ў літоўскі Друскінінкай. Гарадзенцы жартавалі, што ён паказвае шлях у сытую Прыбалтыку, дзе ёсць каўбаса і сыр. Калі ж помнік замянілі новым і паставілі побач з гаркамам партыі, гарадзенцы знайшлі новае тлумачэнне, маўляў, зараз Ленін стаіць плячыма да ўлады, каб не бачыў, як тая… крадзе!

## Абеліск з-пад зямлі

Аднойчы, напярэдадні сямідзясятай гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, падчас рэканструкцыі плошчы Леніна ў самым цэнты горада з-пад зямлі раптам быў адкапаны помнік – частка вялікага абеліску без аніякіх распазнавальных знакаў. Ягонае з'яўленне было нечаканым, незразумелым, непрадказальным, а таму выклікала сярод будаўнікаў ступар – вялізарны кавалак бетону выцягнулі і проста кінулі побач на ўскрайку плошчы. Адбывалася ўсё гэта ў тыя часы, калі адносіны ўлад да гісторыі зрабіліся больш складанымі. Паўсталі пэўныя ідэалагічныя свабоды, якія дазвалялі пашырыць афіцыйныя межы мінулага з тым, каб падоўжыць ужо існуючы савецкі пантэон. Нават ужо тое, што незапланаваная знаходка затрымалася на ўскрайку траншэі, было чымсьці новым. У кабінетах мясцовых партыйных кіраўнікоў паважна пачалі разважаць наконт таго, ці не помнік гэта вядомаму расійскаму гусару, які ў свой час вызваліў Гародню ад французскіх войскаў. Падобна нават, ужо ішлі кулуарныя размовы, каб ізноў паставіць абеліск на ягонае старое месца, што ён адпавядае новаму бачанню гісторыі і г.д. Але тут адчыніліся дзверы і з'явіўся невядомы гісторык-аматар, краязнаўца са стосам старых паштовак. Можна толькі здагадвацца, што рухала гэтым чалавекам. Магчыма, ён быў не адзіны ў Гродна, хто ведаў, што за помнік ляжаў на плошчы, аднак ён быў адзіным, хто быў у стане пра гэта распавесці! Уяўляецца, што размова атрымалася нядоўгай. Калі кіраўнікі горада даведаліся, які помнік перад імі, далейшая дыскусія адразу страціла сэнс. Аказалася, гэта быў той самы абеліск у гонар перамогі над бальшавікамі. Ужо ноччу бетонныя парэшткі знайшлі свой апошні прытулак на дне крэйдавага кар'ера дзесьці ў наваколлі – канчаткова і безальтэрнатыўна. Праз некалькі месяцаў побач з месцам нечаканай знаходкі паставілі новы – чарговы помнік Леніну.

## Т-34

Бадай што ніводзін іншы помнік не мае столькі розных паданняў, як танк Т-34, усталяваны ў самым цэнтры горада ў гонар вызвалення Гародні ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Напрыклад, зорачкі на ім павінны азначаць колькасць падбітых варожых танкаў. Аднак справа ў тым, што танкі ў вызваленні горада ўдзел не прымалі – і гэта гістарычны факт. Ды і сама машына на п’едэстале была сабрана ўжо пасля вайны. Самі ж гарадзенцы пазней жартавалі, што калі танк стрэліць, значыць міма яго прайшла “нявінная” дваццацігадовая дзяўчына. Але па гэты дзень танк гэтак і не выстраліў...

## Страчаныя літары

З гэтым помнікам звязана і яшчэ адна гісторыя. Быццам бы, калі рабілі надпіс да яго, са ўсіх падрыхтаваных літар, адлітых па спецыяльнай замове дзесьці ў Ленінградзе, раптам згубілася тры, тыя самыя – “цікавыя”. Часам распавядаюць, што літары забраў нейкі піянер, які разам са школьнай экскурсіяй праходзіў каля будаўнікоў, калі тыя, расклаўшы іх каля пастамента, адвярнуліся на хвілінку. Каб не няславіцца і не ехаць за новымі літарамі невядома куды, замест металічных зрабілі падобныя, але з… пафарбаванай фанеры. А вядома ж, што нічога так надоўга не застаецца, як часовае. У выніку яшчэ некалькі гадоў раз-пораз фанерныя літары адвальваліся ад пастамента…

## Вагнер

Гэты маленькі, але надзвычай прыгожы драўляны дом амаль насупраць старога тэатра пабудаваў гарадзенскі сталяр-чырванадрэўшчык па прозвішчы Вагнер, уклаўшы ў яго ўсё сваё майстэрства. Пазней тут жыў ягоны ўнук Мікалай, ці, як яго называлі паміж сабой месцічы, Коля Вагнер, які зрабіў свой дом "кропкай", дзе збіраліся гарадзенскія хіпі ды гучала самая модная ў пачатку 1970-х гадоў рок-музыка. Выдатны акцёр ды інтэлектуал, адрынуты савецкай сістэмай ("нетрадыцыйная" арыентацыя ў тыя часы магла каштаваць волі), ён па даносах "добразычліўцаў" перыядычна "лячыўся" ў мясцовым псіхіятрычным шпіталі. І сапраўды, знешні выгляд Вагнера-малодшага быў незвычайны, як на савецкія часы: хадзіў ён у доўгім чорным плашчы з паднятым каўняром, з абвітым некалькі разоў вакол шыі доўгім белым шалікам, у чорным шыракаполым капелюшы, доўгіх белых пальчатках ды... з ручным крумкачом на плячы. І, напэўна, не меншае здзіўленне выклікала яго "фірмовая" трысціна з убудаваным у ручку міні-магнітафонам. Зрэшты, пра крумкача ды трысціну з магнітафонам – гэта ўжо гарадзенская легенды. Як і пра тае, быццам бы менавіта ў ягоным доме спыняўся Чэслаў Неман, калі ўжо знакамітым музыкантам наведваў Гародню...

# Дзіцячы садок імя Лютэка

Сёння ў інтэрнэце можна лёгка адшукаць старонку, прысвечаную гарадзенскім фрыкам – так па-сучаснаму клічуць зараз розных дзівакоў. Тут і Маякоўскі з Пашай Манджыкам, і Шахматыст, а яшчэ Баксёр і Афрыка, Элвіс – бомж з бакенбардамі на Савецкай плошчы, Іка Цой… Аднак ці не самым вядомым гарадзенскім дзіваком з савецкага часу застаецца Лютэк. Сапраўднае яго прозвішча – Аляксандр Ермаловіч. Кажуць, ягоныя бацькі перад вайной мелі ў горадзе пякарню, але ў хату патрапіла нямецкая бомба, і сын гаспадароў на ўсё жыццё стаў інвалідам. Чалавек невядомага полу, с тонкім голасам, апрануты ў лахманы, ён бадзяўся па горадзе ў пошуку шклатары. За пустую бутэльку Лютэк мог зрабіць шмат, напрыклад, праспяваць гучна пеўнем на ўсю вуліцу! Сярод месцічаў пра яго хадзілі розныя чуткі. Казалі, што на самой справе ён вельмі багаты чалавек і мае прыхаванымі некалькі тысячаў рублёў, якія зарабіў на шклатары. Ужо пазней казалі, што ўсе свае грошы ён ахвяраваў у фонд міру… Мне ж асабіста вельмі падабаецца паданне пра тое, як быццам бы Лютэк прапанаваў мясцовым уладам вялікую суму на новы дзіцячы садок, але пры адной умове – каб той назвалі ў ягоны гонар. Дзіцячы садок імя Лютэка!

## Легенда пра Стары мост

Доўгі час у Гародні не было сталага моста, а калі ў рэшце рэшт яго вырашылі пабудаваць, раптам высветлілася, што месца для яго вызначана далёка па-за межамі горада, каб вайскоўцам было зручней дабірацца да іх летніх лагераў на Румлёўцы. Аднак, як кажуць, гарадзенскія купцы, якія неслі велізарныя выдаткі праз адсутнасць сталай камунікацыі ў горадзе, сабралі пэўную суму грошай ды накіравалі свайго прадстаўніка да найбольш уплывовых мясцовых генералаў. Аргумент аказаўся пераканаўчым, і мост перанеслі ў самы цэнтр Гародні, дзе ён застаецца і да сёння…

## Самы доўгі мост

З новапаўсталай мяжой пасля падзелу Рэчы Паспалітай звязана і яшчэ адна гісторыя – пра "самы доўгі мост на свеце", што знаходзіцца якраз у наваколлі Гародні, – якая сёння ўжо сталася класікай сярод мясцовых экскурсаводаў. Гаворка ідзе, зразумела, пра звычайную гульню слоў – "доўгім" мост праз Ласасянку быў таму, што жыхары па адзін яго бок – у Расійскай Імперыі – на той момант жылі паводле юліянскага календара, а па другі, у Прусіі, – паводле грыгарыянскага. У выніку, каб перайсці праз мост, трэба было "згубіць" некалькі дзён календара.

## Асётр

Яшчэ ў першай палове мінулага стагоддзя Нёман быў вельмі багаты на самую разнастайную рыбу. У памяці гарадзенцаў надоўга застаўся асётр вагой 96 кілаграмаў, злоўлены ў 1927 годзе недалёка ад горада і прададзены рыбакамі ў мясцовы рэстаран "Еўропа". Што праўда, дырэктар гарадзенскага музея прыроды Станіслаў Жыўна прасіў, каб хоць скуру гэтага гіганта аддалі ў музей, але замест гэтага асятра прыгатавалі ды выставілі на продаж у вітрыне рэстарана, і гарадзенцы разабралі яго па кавалачках літаральна за два дні!

## Хрыстос не ў той бок

Як вызначыцца з накірункам свайго шляху? Куды, у які бок рухацца па жыцці? У Гародні адказаць на гэтае пытанне дапамагаюць… помнікі. Напрыклад, постаць Хрыста каля езуіцкага касцёла з паднятай дагары рукою паказвае на паўночны захад. У савецкі час жартаўнікі казалі, быццам бы ён дае параду хутчэй з'язджаць за мяжу. Праўда, першапачаткова, калі ў пачатку мінулага стагоддзя вернікі вырашылі яго ўсталяваць, расійскія ўлады загадалі паставіць Хрыста спіною да плошчы, і толькі ў міжваенны перыяд яго развярнулі ў іншы бок.

???

У пасляваенныя гады савецкія органы дзяржбяспекі былі ўпэўнены, што гарадзенскі педінстытут засмечаны "чуждымі", нацыяналістычнымі элементамі. Найбольш прыкметнай "беларускай" справай стаў арышт у сярэдзіне 1950-х выкладчыка Барыса Ржэўскага, які напісаў ліст да партыйных улад у абарону беларускай мовы. "У Гародні на бясконцых допытах, – узгадваў пазней Янка Брыль, – яго не білі, нават і не надта лаялі. Следчы… слухаючы беларускія тлумачэнні пажылога педагога, толькі зверху пасміхаўся: «И кому это нужно?.. Ком-му эт-то нуж-но?..»".

## Зламаныя машынкі

Кожны час мае свае норавы. Як і ўласныя кошты. У першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі ў цырульні на гарадзенскім чыгуначным вакзале па прэйскуранце за галенне бралі 3 рублі, як і за стрыжку пад польку. Аднак калі кліент вырашаў падстрыгчыся "пад машынку", дык сустракаў катэгарычную адмову майстроў, якія адразу казалі, што спраўных машынак у іх няма. Тлумачылася гэта тым, што цана за стрыжку машынкай па прэйскуранце была ў два разы ніжэйшая – 1 рубель 50 капеек.

## Закапаны танк

Гэтая гісторыя яшчэ раз нагадала: у Гародні магчыма нават самае неверагоднае! Паводле сямейнага падання, Свідэрскі, гаспадар дома па колішняй вуліцы Паўночнай, у канцы вайны закапаў у сваім агародзе побач з домам… падбіты нямецкі танк! Верагодна, гарадзенскі каваль збіраўся пазней выкарыстаць металічныя часткі для працы ў кузні, але неяк рукі не дайшлі. Маўляў, гэтак танк і застаўся ў зямлі. Зразумела, ніхто ў гэтае апавяданне не верыў. Аднак калі сям'я пераехала і стары дом знеслі, унук каваля ўсё ж такі ўгаварыў будаўнікоў капнуць экскаватарам трошкі ўбок ад будоўлі. На ўсялякі выпадак. Гэтак высветлілася, што паданне – чыстая праўда. Вось толькі дзед закапаў не танк, а часткі ад нямецкага гусенічнага цягача. Ці, дакладней, гэта тое, што ўдалося адшукаць…

## Лягенда пра п'янага прараба

А вось іншая легенда – пра тое, быццам былы Палац тэкстыльшчыкаў па віне п'янага прараба пабудаваны замест фасада тыльнаю часткай да Савецкай плошчы, – легендай з'яўляецца толькі напалову. Прынамсі, у тым, што тычыцца памылкі. Першапачаткова новы "савецкі" палац планаваўся пабудаваць паводле прынцыпаў тагачаснага "сталінскага ампіру". Аднак усяго праз некалькі год пасля смерці самога Сталіна густы ў краіне раптоўна змяніліся, як і сам праект. Пацярпеў галоўны фасад будынка, які выходзіў на плошчу: было вырашана прыбраць балконы і спрасціць карнізы. Часткі інтэр'еру, што меліся быць з сапраўднага арэхавага дрэва, зараз былі заменены фанерай. Мабыць, тады і нарадзілася тая самая легенда, у якую і сёння шмат хто верыць.

## Гарадзенскія жахі

Хто з нас не чуў розныя “страшэнныя” гісторыі пра змрочныя забойствы ды таямнічы праклен? У Гародні іх таксама хапае. Распавядалі, што яшчэ да ліквідацыі гета ў горадзе здарыўся выпадак, калі адзін з мясцовых жыхароў схаваў у сябе яўрэяў, якія быццам бы паабяцалі яму за выратаванне заплаціць золатам. Гаспадар аднак не ўтрымаўся ды распавёў пра ўсё жонцы, а тая пачала сварыцца, пагражаючы, што данясе немцам. Тады мужык са злосці ўзяў ды жонку… зарэзаў, а цела няшчаснай кінуў у Нёман. Хутка пасля гэтага гаспадара па даносе суседзей арыштавалі, а яўрэяў знайшлі ды забралі ў гета…

## Страшнае месца

Жыхары шматпавярховага дома побач з вайсковымі могілкамі ўзрушана распавядаюць наступнае паданне: “Тут усё стаіць на касцях... Калі дом будавалі, то выявілі цынкавую труну. Казалі, што загінулым быў нейкі Аляксандр. Павезлі гэтую труну ў невядомым кірунку. А калі людзі сталі засяляцца ў дом, пачаліся кашмары. Сталі паміраць Сашы – адзін за адным. Хтосьці выскачыць з акна, кагосьці машына саб’е. Усяго пяць або сем мужчын. З часам мы сталі клікаць святароў, каб яны ў доме правялі малітву і асвяцілі яго. На працягу трох гадоў яны да нас хадзілі, а потым праклён знік…”.

## Белая дама, Баторый ды іншыя

“Я велька гжэшніца Катажына Волковіч зачэнам тэн зешыт в Гродне Кворта Фэбруары року 1659 од народзэня Сына Божэго в кляшторнэй цэлі зопісаня жывота мэго для сына едынака...”. Гэтак распачынае свой расповед пра прывід старога кляштара Алесь Карпюк на старонках аповесці “Белая дама”. Мабыць, сёння тое ці не самы вядомы гарадзенскі прывід, пра якога напісана цэлая кніжка. А ёсць яшчэ здань няшчаснай актрысы з былога тэатра, якая быццам бы скончыла жыццё самагубствам упрост падчас спектакля, не вытрымаўшы здрады каханка; гісторыя пра закінутыя могілкі ў Пышках і здань хлопчыка ды сапраўднага экзарцыста, які спрабаваў выратаваць закінутую душу. Ці прывід самога Баторыя ў той самай вежы Старога замка, дзе ён і сканаў. Ды шмат чаго яшчэ. За адзін раз нават цяжка ўзгадаць!..

## Замураваныя закаханыя

Кажуць, быццам бы ў сярэдзіне 1980-х падчас рэстаўрацыйных прац у былым брыгіцкім касцёле ў цэнтры залы знайшлі ўваход у падвал. Пасля пажару ў нейкім там стагоддзі ён быў цалкам засыпаны бітай чарапіцай ды смеццем. Пасля таго, як смецце прыбралі, археолагі адчынілі ўваход у невялічкі склеп, а ўнутры знайшлі два шкілеты – мужчынскі да жаночы, якія ляжалі адзін пры адным на падлозе, быццам былі жыўцом замураваныя! У пісьмовых крыніцах ніякіх узгадак, аднак, пра тое не аказалася, пра саму ж знаходку хутка забыліся…

## Музей на гары

Камітэт па справах культурна-асветніцкіх устаноў пры Саўміне БССР, звяртаючыся да дырэктара гісторыка-археалагічнага музея таварыша Собаля, пісаў лісты на адрас: Гродна, Замкавая гара…

## Партрэт Зоі

Восенню 1951 года ў фонды гарадзенскага музея быў перададзены накід партрэта Зоі Касмадзям’янскай, зроблены яе братам перад самай вайной. Партрэт быў намаляваны на адваротным баку выявы Новадзевічага кляштара, дзе па іроніі лёсу пазней яны абодва і былі пахаваны.

## Не той аўтамат

У кнізе водгукаў ды прапаноў Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея захавалася заўвага пра тое, што на стэндзе “Трафейная зброя, захопленая партызанамі” пастаўлены амерыканскі аўтамат Томпсана, які немцы на ўзбраенні не мелі, але затое мела савецкая армія. У канцы аўтар допісу прапанаваў зняць гэты аўтамат як “няправільна прадстаўлены”.

## “Пошта і трошкі сумна”

Гэтак называўся вершаваны фельетон на старонках “Гарадзенскай праўды” за студзень 1946 года, прысвечаны кіраўніку абласнога ўпраўлення сувязі таварышу Мухіну з нагоды таго, што ліст ад чытача з вуліцы Ажэшкі ішоў у рэдакцыю амаль два тыдні. Верш скончваўся радкамі:

*О, Мухин, всесильный глава почтарей,*
*Мы краешком уха слыхали,*
*Что в юности вы о Татьяне своей,*
*Признайтесь, ведь тоже вздыхали.*
*Так пусть эти дни – вашей юности след*
*Все чаще и чаще вам сняться.*
*Пока. Ожидаем с тревогой ответ*
*От вас на Советской, 12.*

## Дэпутат гарсавета Мікіта Сяргеевіч

У лістападзе 1950 года “працоўныя горада” высунулі кандыдатуру сябра Палітбюро ЦК ВКП (б) Мікіты Сяргеевіча Хрушчова ў Гродзенскі гарадскі савет, куды ў выніку той і быў адзінагалосна абраны. Праўда, пасада гэта аказалася ганаровай, і ў працы самога савета Мікіта Сяргеевіч так ніколі і не ўдзельнічаў. Затое з часам з’явілася чарговая прапанова – назваць у гонар высокага кіраўніка вуліцу.

## Кватэрнае пытанне

Васіль Быкаў пісаў, што сваю першую гарадзенскую ноч правёў на вакзале. "Якраз на дзень Перамогі цягніком цераз Баранавічы паехаў у Гародню, горад, дзе ў мяне не было аніводнай знаёмай душы", – узгадваў пісьменнік. Пазней яму прыйшлося правесці ў Гародні тры доўгія бескватэрныя гады, перажыўшы не адну кватэрную драму, пакуль ён не пераехаў на вуліцу Падгорную, "паблізу ад Нёмана", як сам пазней узгадваў. Адсюль і бярэ пачатак ягоная творчасць: "У кватэры было малаўтульна і сцюдзёна, па ваду трэба было хадзіць праз тры двары. Але я ўвесь дзень быў вольны і пачаў пісаць".

## "Ластаўкіна гняздо"

Пазней сям'я Быкава змяніла некалькі адрасоў. Па вуліцы Алега Кашавога яны жылі на першым паверсе ў невялікай кватэры, усяго 40 квадратных метраў, да таго ж падзеленай на тры пакойчыкі. Акно быкаўскага кабінета выходзіла якраз на гаманкую гарадскую вуліцу (зараз Вялікая Траецкая, дом 28, кватэра 20). Другі адрас – Свярдлова, 18-30. Вузкая вулачка Маладзёжная ад брыгіцкага касцёла выходзіць наўпрост на новы дом Васіля Быкава. Апошняй гарадзенскай кватэрай, з якой Васіль Быкаў з'ехаў у Мінск, стала чатырохпакаёўка ў доме для партыйных босаў па вуліцы Парыжскай камуны, 9-11. За значнасць пасад, якія займалі ягоныя насельнікі, у народзе гэты дом празвалі "Ластаўкіна гняздо".

## Віктар Варашыльскі

Віктар Варашыльскі, літаратуразнаўца, паэт, перакладчык, нарадзіўся ў сям'і гарадзенскага лекара. Акупацыю перажыў на фальшывых дакументах, працуючы ў мясцовай майстэрні. Пасля вайны апынуўся ў Польшчы. Вельмі хутка з ліку шматабяцанага пралетарскага паэта і публіцыста ён трапляе ў лік польскіх дысідэнтаў. Сярод тых, каго перакладаў Віктар Варашыльскі, былі, аднак, і творы Васіля Быкава. Іхняя сустрэча адбылася ў Гародні. В. Быкаў, які на той час таксама ўжо лічыўся "ненадзейным", сустрэў польскага калегу і яны ўдваіх доўга шпацыравалі па горадзе. Не абышлося і без успамінаў. А пасля аўтар "Альпійскай балады" адвёў свайго госця на чыгунку, горача развітаўся перад уваходам на мытню… І толькі значна пазней, ужо з ліста, Васіль Быкаў даведаўся, што яшчэ амаль суткі Віктар Варашыльскі правеў седзячы на мытні, пакуль пільныя даглядчыкі правяралі ягоныя рэчы, шукаючы нелегальную літаратуру.

## Савецкі заапарк

У першае дзесяцігоддзе савецкай улады гарадзенскі заапарк перажываў не самыя лепшыя часы. Не хапала спецыялістаў для працы, кармоў, тэрыторыя была замалой. У выніку ў заапарку пачалі паміраць жывелы – за адзін год было страчана адразу некалькі відаў. Апошняй кропкай стаўся трагічны выпадак, калі ў 1952 г. мядзведзь разарваў малога, які перабраўся праз агароджу і наблізіўся да клеткі. У выніку ўлады замянілі дырэктара ды пачалі больш увагі звяртаць на сам заапарк…

## Першы слон

Ужо ў 1955 годзе ў гродзенскім заапарку з'явіўся першы слон. Гэта была сланіха Машка, якую прывезлі з В'етнама. Праўда, па прычыне кепскай працы перакладчыка, які сустракаў груз, супрацоўнікі доўга думалі, што Машка цяжарная, бо малое ў сланоў выношваецца два гады. Самі ж гарадзенцы з ахвотай пераказвалі "баявую" біяграфію Машкі, паводле якой яна пераносіла скрыні са зброяй для в'етнамскіх партызан…

## Суррак

Чарговы слон з'явіўся ў Гародні ў 1965 годзе. На гэты раз яго прывезлі з Лейпцыгскага заапарка, дзе ён гадаваўся з маленства. Распавядаюць, што Суррак – так звалі слана – вельмі балюча перажываў расставанне са сваім ранейшым апекуном. Ён гэтак і не даравваў здрады, а таму да канца жыцця злосна рэагаваў на мужчынскі персанал заапарка, дазваляючы набліжацца толькі жанчынам. А пражыў Суррак ажно трыццаць гадоў…

## Згублены чэрап

З Сурраком звязана і яшчэ адно паданне. Калі слон памёр, ягоныя парэшткі, як гэта і раней рабілася, закапалі на адным з пустыроў, каб з часам атрымаць шкілет для музея. Але калі праз некалькі год супрацоўнікі заапарка прыйшлі за шкілетам слана, раптам высветлілася, што нехта скраў ягоны… чэрап. А паколькі шкілет слана без галавы выглядаў бы трошкі дзіўна, музей застаўся без экспаната.

## Пантэра

У сярэдзіне 1980-х па Гародні пайшлі чуткі, што з мясцовага заапарка збегла пантэра – даглядчык не зачыніў клетку як трэба. Неяк адразу з'явіліся сведкі, якія апісвалі крывавыя ахвяры, пасля чаго спалоханыя бацькі загадалі дзецям сядзець па хатах. Зрэшты, бяглянку хутка адшукалі – увесь гэты час яна прасядзела ў заапарку пад мастом, напужаная больш чым хто іншы…

## За моваю – на рынак

Стары Скідзельскі рынак знаходзіўся раней не ў канцы, а ў самым пачатку вуліцы Антонава, там, дзе зараз пабудаваны аўтавакзал. Менавіта тут у Гародні савецкіх часоў сустракаліся беларуская вёска і ўласна горад, які паспеў у чарговы раз змяніць свае звычкі разам з новаю ўладай. "Смешна, – пісала ў адным з лістоў да сваіх знаёмых Ларыса Геніюш, – я хіба ў Гародні хадзіла б на Скідзельскі рынак штодня, каб бачыць там нашых людзей і чуць беларускую мову... Іначай у Гародні яе не чутно, і размаляваныя прадаўшчыцы "не чуюць", калі звяртацца да іх на мове народу, які засяляе гэтыя землі...".

## Скарбы на лецішчы

Апавядаюць, быццам бы ў самым пачатку будаўніцтва "Азота", калі саміх цэхаў яшчэ не было, скрыні з абсталяваннем для вытворчасці азотных угнаенняў трымалі адразу побач з будоўляй, у чыстым полі. Аднойчы адна са скрыняў развалілася і адтуль вывалілася нейкая сетка. Народ, які працаваў на будоўлі, быў скрозь гаспадарлівым, а сетка выглядала рэччу даволі карыснай. У прыватнасці, яна выдатна падыходзіла на лецішча, для загончыкаў хатняй птушкі, трусоў ды шмат іншага. Карацей, кіраўніцтва неяк пра тую скрыню не пыталася, а калі яна ў рэшце рэшт спатрэбілася, сеткі там ужо не аказалася. І толькі тут раптам высветлілася, што гэта была ні нейкая там звычайная агароджа, а спецыяльныя рашоткі для атрымання азотнай кіслаты, зробленыя з… плаціны! Праўда, гаспадары трусоў пра тое нават не здагадваліся.

## "Мамачка"

Хіпі з'явіліся ў Гародні ў канцы 1960-х гадоў і ўжо адным сваім выглядам яны выклікалі агульную ўвагу: паркалёвая торба за плячыма, доўгія валасы – сімвал свабоды, рваныя джынсы, бісерныя бранзалеты. Любімае месца сустрэч гарадзенскіх хіпі было адразу за помнікам Элізе Ажэшцы. У тыя гады там мясціўся маленькі ўтульны скверык, абнесены з усіх бакоў металічнай агароджай. Таму сябе яны называлі "дзеці Элізы" або "дзеці матулі", а сам помнік – "матуляй". Адсюль паходзіць і назва аднаго з першых рок-гуртоў горада – "Дзеці Элізы". Пра гарадзенскіх хіпі, дарэчы, нават аднойчы прыгадала радыё "Голас Амерыкі", маўляў, у Гародні ёсць такая вось нефармальная моладзь.

## Певень на ланцугу

Часам сапраўдная гісторыя гучыць як легенда. І – наадварот. На пачатак 1970-х гарадзенскія хіпі вырашылі правесці сапраўдную дэманстрацыю: запрасілі сваіх сяброў з Прыбалтыкі, Львова, Ленінграда, нарабілі плакатаў: “Рукі прэч ад нашых валасоў!”, “The Beatles forever!”, “All you need is love”. У выніку сабралася не менш за некалькі соцень чалавек. Асабліва ж усіх уразіў певень, якога вадзілі на ланцужку. Яго гаспадаром быў хлопец з Таліна Віру. Бацька Віру хадзіў у мора і прывёз баявога пеўня. Той быў невялічкі, са шпорамі, ды яшчэ і яркага колеру. Аднак як толькі хіпі дайшлі да плошчы, іх адразу акружылі міліцыянты, паадбіралі плакаты, а некаторых і пазабіралі ў размеркавальнік. Для саміх гарадзенцаў дэманстрацыя скончылася даволі лагодна. Казалі, быццам бы вельмі тады дапамог адзін з мясцовых генералаў, сын якога таксама апынуўся сярод удзельнікаў, затое адзін з прыбалтаў – удзельнік гарадзенскай дэманстрацыі – пасля стаў міністрам культуры сваёй краіны.

## Дыягназ

З гарадзенскімі хіпі звязана шмат іншых баек. Напрыклад, пра хлопца, які трапіў у мясцовы псіхіятрычны шпіталь за тое, што расклеіў па ўсім горадзе аб’яву: “Страчана каханне! Просьба да таго, хто знайшоў, патэлефанаваць па ўказаным тэлефоне!”. І напісаў свой хатні тэлефон. Гэтым ён хацеў сказаць, што людзі перасталі верыць у любоў, каханне, сталі прагнымі ды злымі. У выніку хлопца, чые босыя ногі і клёшы ў кветачку мулялі грамадзянам вочы, зачынілі як псіхічна хворага.

# Цыпа

Іншая гісторыя – пра хулігана і п'яніцу Цыпу, які праз любоў да рок-музыкі адгадаваў вельмі доўгія валасы і стаў сябраваць з хіпі. Аднойчы яго злавілі дружыннікі і выстрыглі яму тыя валасы шматамі, так што Цыпу прыйшлося самому ісці ў цырульню. І вось ён выходзіць адтуль, здымае кепку і становіцца ў позу Леніна насупраць аблвыканкама, пасля чаго ўся вуліца ахнула ды пакацілася са смеху! Як аказалася, калі ў цырульні майстар запытала Цыпу, як яго стрыгчы, ён паказаў на фотаздымак правадыра сусветнага пралетарыяту… Потым камсамольцы яшчэ доўга вылоўлівалі Цыпу за тое, што ён так пастрыгся!

# Лесвіца закаханых

Пра "лесвіцу закаханых" – спуск ад замкаў да Нёмана – расказваюць розныя гісторыі. Напрыклад, закаханы хлопец павінен быў падняцца з дзяўчынай на руках да самага верху, і толькі потым пары было гарантавана шчаслівае жыццё. Ёсць і зусім дзікія аповесці: "А я слышал про то, как нерадивых слуг заставляли бежать вниз, а на пролётах другие с кумачами их били (любили) – и если добежит до Нёмана и нырнёт – то жив останется. Ежели упадёт – на кол". Вось толькі прычым тут каханне, не зразумела...



# Змест





### Каралеўскі дом



### Госці. Званыя ды не вельмі



 

## *Людзі ды кветкі з-над Нёмана*



## *Доўгая, доўгая дарога...*



## *Нашыя байкі*





